24 ліпеня 2015 | № 29 (446)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Хто прыплыў першы, той і дзеліць рэсурсы**

стар. 4

**5 «ПРАВЫ СЕКТАР» ЯК ПРЫВІД НЕЗАВЕРШАНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ**

Што азначаюць падзеі ў Закарпацці? Мяркую, гэта крызіс хваробы, пасля якога можа наступіць як паляпшэнне, гэтак і пагаршэнне здароўя, аж да смерці хворага

**29 АД ТЫТАНА І СТРАТЭГА ДА ЖЫВОГА СОНЦА**



Казахстан адсвяткаваў 75-ю гадавіну дня нараджэння Назарбаева, што вылілася ў каскад самых неверагодных праяў падхалімажу. Прапануем іх хіт-парад

**9–24 Літаратурная Беларусь**

**31 НА «ПІЛСУДСКІМ» У ЗША І КАНВОЕМ У АРХАНГЕЛЬСК**

Прыгожым днём 1937 года ў пінскім офісе фірмы «Cosulich line» 27-гадовы Уладзімір Завацкі набыў квіток на карабель, што трымаў шлях праз акіян у ЗША

# Фактар Шульгана

**Дзесяць прэтэндэнтаў пайшлі на прэзідэнцтва. Прыйшлі ў ЦВК — іх засталося восем**



Сяргей ПУЛЬША

Патэнцыйныя ўдзельнікі нашай прэзідэнцкай кампаніі, канешне, не дзесяць негрыцят. Прэтэндэнтаў на рэгістрацыю ініцыятыўных групаў было аж 14. Але «гульня на вылет» ужо пачалася.

Улады з першага этапу перадвыбарчай кампаніі прадэманстравалі несумленную гульню. Не была зарэгістраваная ініцыятыўная група Мікалая Статкевіча. І гэта — «палітычнае рашэнне» ў горшым сэнсе гэтага слова. ЦВК чакана адмовіў у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Статкевіча з нагоды таго, што сам Статкевіч пазбаўлены выбарчага права, бо знаходзіцца ў вязніцы. І тым самым парушыў выбарчыя правы іншых грамадзян — тых, хто запісаўся ў гэтую ініцыятыўную групу. Яшчэ раз паўторымся: па законе Статкевіч не можа быць зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты. Але гэта не перашкаджае рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы.

З выбарчай гонкі вырубілі і Шульгана. Ён не падаў дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы, бо з ЦВК яго забралі міліцыянты. Нібыта таму, што ён нецэнзурна лаяўся і быў у нецвярозым стане. Прычым, у судзе над Шульганом не знайшло пацверджанне ані першае, ані другое. Сведка з боку міліцыі сцвярджаў, што сам ён не чуў лаянкі ад Шульгана, але гэта чуў нехта іншы. На просьбу прагледзець кадры камераў відэаназірання, якімі суцэльна напічканы будынак ЦВК, міліцыя адказала, што Шульган лаяўся матам недзе ў «мёртвай зоне» відэаназірання, і камеры гэта не зафіксавалі.

Праўда, гэта не перашкодзіла суддзі суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяне Матыль аштрафаваць Шульгана на 5,4 мільёна рублёў.

Што ж тычыцца алкагольнага ап’янення, то гэтае абвінавачванне судом не разглядалася ўвогуле.

Зараз спіс патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ўключае восем асобаў. Адзін з іх, зразумела, сам Аляксандр Лукашэнка. Яшчэ чацвёра прадстаўляюць палітычныя партыі. Гэта Анатоль Лябедзька, лідар Аб’яднанай грамадзянскай партыі, старшыня партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін, Сяргей Гайдукевіч, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі, Мікалай Улаховіч, лідар мала чым вядомай, апроч безумоўнай заўсёднай падтрымкі Лукашэнкі, Беларускай патрыятычнай партыі і адзін з правадыроў беларускага казацкага руху. Недалёка ад іх стаіць Таццяна Караткевіч ад «Народнага рэферэндуму». Яшчэ адзін кандыдат нам вядомы па выбарах–2010: бізнесовец Віктар Цярэшчанка. І настаўніца Жана Раманоўская, пра якую нават невядома, што яна выкладае.

Вельмі дзіўна, што ўлады ад пачатку пайшлі на «брутальны сцэнар» сёлетняй перадвыбарчай кампаніі. Сумнеўная з пункту гледжання заканадаўства нерэгістрацыя ініцыятыўнай групы Статкевіча зразумелая: па-першае, ён «асабісты вораг» Аляксандра Лукашэнкі, па-другое, збор подпісаў за яго ініцыятыўнай групай дазволіў бы праінфармаваць пра палітвязняў шырокае кола электарату. І яшчэ раз нагадаць — былы кандыдат у прэзідэнты знаходзіцца ў турме.

А вось «брутал» у дачыненні да Шульгана выглядае неяк незразумела. Канешне, Шульган паспрабаваў паэксплуатаваць «гарачую» зараз тэму — падатак на дармаедства. Падаткам незадаволеная вялікая частка




**Вельмі дзіўна, што ўлады ад пачатку пайшлі на «брутальны сцэнар» сёлетняй перадвыбарчай кампаніі**

насельніцтва. Але шорах вакол гэтай праблемы пакрысе сцішваецца, і наўрад ці ў кастрычніку, калі павінны прайсці выбары, яна будзе так актуальная, як зараз.

Магчыма, Шульгана «зрэзалі» з-за таго, што ён, як гэта не дзіўна, меўся працаваць «на полі» і метадамі самога Аляксандра Рыгоравіча. Ён пачаў эксплуатаваць рэзанансную тэму, ён адразу заявіў, што «будзе прыслухоўвацца да народу», «да кожнай праблемы будзе персанальны падыход», і гэтак далей. Шульган збіраўся правесці «сход дармаедаў», што было б калі не пародыяй, дык адпаведнікам Усебеларускага народнага сходу.

Не маючы дакладна акрэсленай праграмы, ён «ехаў» на папулісцкіх лозунгах кшталту «вырашаць будзе народ». І ён ад пачатку стаў нагадваць Аляксандру Рыгоравічу пра няздзейсненыя абяцанкі, кажучы: «Вы абяцалі сысці ў адстаўку, калі знойдзецца нехта іншы. Я знайшоўся! Сыходзьце».

Ніводзін з вышэй акрэсленых прэтэндэнтаў у прэзідэнты, за выключэннем самога Аляксандра Рыгоравіча, не можа і не будзе весці такой жа нахабна-папулісцкай кампаніі, якую мог весці Шульган. Пэўна, у гэтым і была ягоная галоўная небяспека.

Шульгана маглі выкінуць з прэзідэнцкай гонкі выключна ціха і законна — у яго няма рэгістрацыі, а без яе немажліва зарэгістраваць ініцыятыўную групу. «Брутал» у дачыненні да Шульгана ёсць яшчэ і дэманстрацыяй іншым прэтэндэнтам, у якіх умовах будзе ісці прэзідэнцкая кампанія.

## ВЫБАРЫ

### САЛІГОРСК: камісія — за 15 хвілін

**Фармаванне Салігорскай раённай выбарчай камісіі мела фармальны характар і цалкам адбывалася па загадзя падрыхтаваным сцэнары.**

Такое меркаванне выказаў прысутны на пасяджэнні прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэту Леанід Мархотка. Сумеснае паседжанне Салігорскага райвыканкаму і Савета дэпутатаў пачалося ў 16 гадзін 21 ліпеня ды заняло літаральна 15 хвілін. Галоўны ідэолаг Салігоршчыны Мікалай Маскевіч скорагаворкай зачытаў прозвішчы пятнаццаці вылучэнцаў, ад двух з якіх былі агучаныя самаадводы.

У выніку на абсалютна безальтэрнатыўнай аснове ў Салігорскую раённую выбарчую камісію было абрана 13 чалавек. З тых прозвішчаў, якія прадстаўніку БХК удалося расчуць падчас хуткачытанкі галоўнага ідэолага, у асноўным адныя і тыя чыноўнікі, кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і праўладных арганізацый, фармальна вылучаныя рознымі шляхамі. Леанід Мархотка таксама адзначае, што дакументаў ні ад прадстаўнікоў дэмакратычных партый і арганізацый, ні ад асобных грамадзян на разгляд удзельнікаў пасяджэння пададзена не было.

### БРЭСТ: у камісіях апазіцыі няма

**Большая частка месцаў у створаных выбаркамах Ленінскага і Маскоўскага раёнаў абласнога цэнтра аддадзена прадстаўнікам праўладных грамадскіх аб'яднанняў.**

Сумеснае пасяджэнне прэзідыума Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў і гарвыканкама наконт фармавання тэрытарыяльных камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь доўжылася толькі 12 хвілін. За гэты час удзельнікі паседжання (без аніякага абмеркавання) паспелі стварыць абедзве раённыя выбарчыя камісіі ў горадзе, уключыўшы ў кожную па 13 чалавек. Як заўважыў праваабаронца Уладзімір Вялічкін, новых асоб у складзе выбаркамаў амаль не заўважана: былі ўхваленыя кандыдатуры, якія мелі дачыненне да мінулых выбарчых кампаній, а шмат хто з сябраў камісій працуе ў гарадскіх органах кіравання.

«Падчас пасяджэння я выказаў жаданне азнаёміцца з матэрыяламі, якія тычацца працэдуры вылучэння прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій (пратаколы сходаў адпаведных структур палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і працоўных калектываў, заявы грамадзян), — паведаміў Уладзімір Вялічкін. — Старшыня гарвыканкама Аляксандр Рагачук параіў звярнуцца да загадчыцы юрыдычнага аддзела, а тая прапанавала даслаць па гэтым пытанні пісьмовы запыт».

### ГЛУСК: 5 хвілін на камісію

**21 ліпеня ў Глуску адбылося сумеснае пасяджэнне прэзідыума раённага Савета дэпутатаў і Глускага райвыканкама, на якім было разгледжана адно пытанне — аб фармаванні Глускай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. На пасяджэнні прысутнічаў прадстаўнік БХК Ігар Кірын.**

Ігар Кірын адзначае, што фармаванне раённай выбарчай камісіі ў Глуску прайшло вельмі хутка, уся працэдура заняла літаральна 5 хвілін. Вёў пасяджэнне старшыня Глускага райвыканкама Уладзімір Царыкаў.

Начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела райвыканкама Алена Трыбуш прапанавала стварыць Глускую раённую камісію па выбарах прэзідэнта РБ у складзе 11 чалавек, удзельнікі пасяджэння прагаласавалі за колькасны склад камісіі. Пасля Алена Трыбуш зачытала спіс з адзінаццаці прозвішчаў. Паступіла прапанова прагаласаваць спісам, і ўдзельнікі сумеснага пасяджэння аднагалосна зацвердзілі спіс чальцоў выбарчай камісіі. Ніякага абмеркавання прапанаваных кандыдатур не было, удзельнікі пасяджэння не задалі ніводнага пытання.

Ігар Кірын адзначае, што ў зацверджаным складзе Глускай раённай камісіі 6 яе чальцоў ужо працавалі ў складзе камісіі падчас папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, 5 чалавек — новыя сябры камісіі.

### КРЫЧАЎ: 6 хвілін 30 секунд

**На сумесным пасяджэнні прэзідыума Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў і Крычаўскага райвыканкама па стварэнні Крычаўскай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за 6 хвілін і 30 секунд зацвердзілі склад раённай выбарчай камісіі.**

На пасяджэнні камісіі прысутнічаў прадстаўнік БХК Сяргей Няроўны, іншых прадстаўнікоў грамадскасці на пасяджэнні не было. Па словах Сяргея Няроўнага, вечарам 20 ліпеня яму адмыслова патэлефанаваў начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела Крычаўскага райвыканкама Міхаіл Мешкура і запрасіў папрысутнічаць на пасяджэнні.

Сяргей Няроўны адзначае, што большасць зацверджаных чальцоў Крычаўскай раённай выбарчай камісіі ўжо ўваходзілі ў склад выбарчых камісій падчас папярэдніх выбарчых кампаній.

Аналагічным чынам прайшло фармаванне выбарчых камісій у іншых рэгіёнах краіны.

**Паводле кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Суд падтрымаў забарону пікетавання каля Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Суддзя Фрунзенскага раёна Мінска Аляксандр Кузьміч не задаволіў скаргу на дзеянні старшыні Мінрайвыканкама Пятра Ярмаша, які забараніў пікетаванне ў абарону Курапатаў.**

Нагадаем, што 20 мая актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» звярнуліся да старшыні Мінрайвыканкама Пятра Ярмаша з заявамі на правядзення пікетавання для прыцягненне ўвагі грамадства і дзяржавы да сітуацыі каля Курапатаў пасля ўзвядзення ў непасрэднай блізкасці ад урочышча аб'екту прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол».

Аднак сваім распараджэннем ад 29 мая Пётр Ярмаш забараніў правядзенне пікетавання Прычым распараджэнне грамадзяне атрымалі толькі ў дзень запланаванай акцыі — 4 мая.

Актывісты звярнуліся ў суд Фрунзенскага раёна са скаргай на дзеянні Мінрайвыканкама. Але суддзя Аляксандр Кузьміч не задаволіў скаргу, прычым адзначыў, што суду не прадстаўлены «дакладныя доказы», якія сведчаць аб невыкананні Пятром Ярмашам свайго абавязку — пра прынятае рашэнне ў пісьмовай форме паведаміць грамадзянам не пазней, чым за пяць дзён да даты запланаванага масавага мерапрыемства. Якія яшчэ могуць быць прадстаўлены доказы, калі бярэцца пад сумненне такі відавочны, як канверт з пазначанымі на паштовых штэмпелях датамі адпраўкі і атрымання копіі распараджэння?

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей, якая прысутнічала на судзе, назвала рашэнне Аляксандра Кузьміча незаконным і неабгрунтаваным, а таксама сведчаннем таго, што ў Рэспубліцы Беларусь дзейнічае негалосная забарона на правядзенне масавых мерапрыемстваў. «Дзяржава пакінула грамадству толькі тыя знакавыя акцыі, якія праводзяцца штогод. Гаворка ідзе, між іншым, пра святкаванне Дня Волі, Чарнобыльскі шлях і шэсце на Дзяды», — сказала юрыстка. На яе думку, Аляксандр Кузьміч найбольш выразна ўвасабляе той тып суддзі, які сёння запатрабаваны беларускімі ўладамі. «Яшчэ ў маі гэтага года ён быў шараговым суддзёй суда Маскоўскага раёна сталіцы, дзе прыняў рашэнне на карысць адміністрацыі Маскоўскага раёна і пры гэтым не выклікаў належным чынам адказчыка ў суд. А зараз на пасадзе намесніка старшыні суда Фрунзенскага раёна спадар Кузьміч ужо выносіць неправамерны рашэнні на карысць Мінскага райвыканкама», — зазначыла Тамара Сяргей.

На пастанову Аляксандра Кузьміча заяўнікі накіруюць касацыю.



# Беларусь на мапе дабрачыннасці

**Апублікаваны Індэкс свабоды дабрачыннасці за 2015 год, распрацаваны аўтарытэтным экспертна-даследчым цэнтрам ЗША — Інстытутам Гудзона.**

Сёлета ўпершыню ў дакуменце з'явілася частка пра Беларусь, інфармацыю для якой падрыхтаваў юрыст Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Юрый Чавусаў. Артыкул пра стан грамадскіх арганізацыяў у нашай краіне даступны на англійскай мове.

Ахопліваючы 64 краіны свету, Індэкс усебакова даследуе, што кіруе ахвяраваннямі ва ўсім свеце. Ён класіфікуе і параўноўвае краіны паводле спрыяльнасці асяроддзя для дабрачыннасці, ацэньваючы прастату рэгістрацыі, функцыянаванне і ліквідацыю арганізацыяў грамадзянскай супольнасці, наяўнасць і даступнасць падатковых ільготаў, прастату ўдзелу ў трансгранічнай дабрачыннасці.

Індэкс свабоды дабрачыннасці візуалізаваны ў інтэрактыўнай мапе, якая дазваляе з лёгкасцю ацаніць стан дабрачыннасці ў кожнай прааналізаванай краіне.

**belngo.info**

# Юбілей без Юбіляра

Генадзь КЕСНЕР

**24 ліпеня споўнілася б 65 год Генадзю Уладзіміравічу Грушавому — доктару філасофскіх навук, дэпутату Вярхоўнага Савета 12 і 13 скліканняў. Але сусветнае прызнанне ён спазнаў як заснавальнік і нязменны кіраўнік Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», які дапамог сотням тысяч чарнобыльцаў.**

Сёння добрым словам Генадзя Грушавога ўзгадваюць і дарослыя людзі, якія ў 1990-я гады, будучы дзецьмі і падлеткамі, атрымалі ўнікальныя магчымасці аздараўлення ў дзясятках краінаў свету, сотні дзяцей, якім Фонд Грушавога падарыў другое жыццё праз арганізацыю іх лекавання ад анкалогіяў у найлепшых клініках свету. Тут, у постсавецкай Беларусі, на гэтых маленькіх беларусах ставілі крыж, але многія з іх праз медычныя праграмы БДФ былі вырваныя з кіпцюроў чарнобыльскай навалы і жывуць дагэтуль, стварылі сем'і, расцяць сваіх дзетак.

Пра Генадзя Грушавога і ягоны фонд пісалася шмат. Галоўнае, каб і з цягам часу добрыя справы гэтага Чалавека і ягоных паплечнікаў не забыліся і працягваліся, — новымі арганізацыямі, новымі людзьмі, якія ведаюць, што такое Чарнобыль і што такое наступствы гэтай ядзернай трагедыі.

Генадзь Грушавы стварыў шмат праектаў. Гэта і моладзевыя фестывалі, і «Лайнс-клуб», сябрамі якога былі слынныя дзеячы беларускай культуры, навукі і журналістыкі, гэта і «SOS»-дзіцячая вёска, і будаўніцтва дамоў для перасяленцаў-чарнобыльцаў у экалагічна чыстых раёнах Беларусі, і вырошчванне экалагічна чыстага дзіцячага харчавання. Гэта і дапамога беларускім рок-музыкам, таленавітым падлеткам, людзям з абмежаванымі магчымасцямі, творчай перспектыўнай моладзі. Гэта барацьба за правы палітзняволеных, дапамога людзям у турмах, нарэшце, барацьбітам кіеўскага Майдану, гуманітарную дапамогу якім Генадзь Грушавы рыхтаваў нават за некалькі дзён да свайго сыходу з жыцця.

Ён спрабаваў ахапіць усё, і яго таленту і розуму хапала на гэта. Не хапіла толькі здароўя. Пяць гадоў ён ведаў, ад чаго памрэ, пра што і напісаў у сваім сімвалічным запавеце. Лейкемія — прадукт Чарнобыля. Прадукт, які стаў смяротным для самага галоўнага барацьбіта з ім у нашай краіне. Ды, бадай, у цэлым свеце. Але Грушавы сыходзіў у лепшы свет няскораным гэтаю бядою.

Нонканфарміст, сапраўдны мысляр, беларус-патрыёт, мужны грамадскі і палітычны дзяяч. Таленавіты арганізатар. Жорсткі і адходлівы кіраўнік сваёй шматтысячнай дабрачыннай структуры. І сапраўдны Чалавек. Добры, ласкавы бацька, які вельмі любіў сваіх дзяцей.

Вельмі цяжка, амаль немагчыма пісаць і казаць пра яго — «быў». Не быў. Ён ёсць, ёсць побач з намі, у сваіх справах, якія не забудуцца, у сваіх словах, якія чуюцца і дагэтуль, хоць Генадзя Грушавога фізічна няма на гэтай зямлі ўжо паўтара года. Ёе пакінуў гэты свет 28 студзеня 2014 года. Але ён па-ранейшаму з намі.

24 ліпеня а 14-й гадзіне ў Садзе надзеі імя Генадзя Грушавога ў праваслаўным прыходзе Іконы Маці Божай Чарнобыльскай «Усіх тужлівых радасць» (вуліца Прытыцкага) ля грушы, якую пасадзіў сам Генадзь Грушавы, збяруцца яго сябры, родныя, паплечнікі і проста людзі, якія цэняць і памятаюць гэтага Чалавека. Узгадаюць яго добрымі словамі, бо ў пятніцу ў яго юбілей. Хочацца верыць, што Генадзь Уладзіміравіч будзе адзначаць яго разам з прысутнымі, гледзячы на іх з Неба. І ўсміхаючыся.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



# Ці ведаюць яны?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам прэзідэнцкай кампаніі, якая ўжо ўступіла ў першую фазу. ЦВК зарэгістраваў ініцыятыўныя групы прэтэндэнтаў, і хутка яны пачнуць абяцаць нам лепшае жыццё. Але, верагодна, большасць прэтэндэнтаў не ведае, ва што ўступіла.**

Ужо складана спрачацца з тым, што краіна знаходзіцца ў крызісе. Калісьці, года паўтара таму, на маё пытанне пра крызіс эканаміст Леанід Заіка адказваў: «Які крызіс, калі ВУП расце!» Зараз ВУП за першае паўгоддзе знізіўся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 3,3%. Так што ў краіне — класічны эканамічны крызіс.

За паўгады бягучага года рост паказала толькі Мінская вобласць. Валавы рэгіянальны прадукт (ВРП) у ёй вырас на 0,7%. У астатніх рэгіёнах краіны — зніжэнне, і зніжэнне значнае. Найбольшае — у Віцебскай вобласці: на 6,3%. У Магілёўскай вобласці ВРП знізіўся на 1,7%, у Гомельскай — на 3,6%, у Гродзенскай — на 3,7%, у Брэсцкай — на 3,5%. Нават у сталіцы, якая разглядалася асобна ад сваёй вобласці, ВРП упаў на 5,8%.

Фактычна гэта азначае, што прамысловасць стаіць колам. Будаўніцтва і транспарт эканоміку не выцягваюць. Як прызналася намесніца міністра гандлю Ірына Наркевіч на прэс-канферэнцыі, па выніках студзеня-мая толькі рознічны гандаль і сельская гаспадарка забяспечылі станоўчы ўнёсак у ВУП краіны.

З сельскай гаспадаркай усё зразумела — мы ў чаргові раз закапалі грошы ў будучы ўраджай. Бо ВУП у нас лічыцца зыходзячы з таго, што мы патрацілі, а не з таго, што зарабілі. З гандлем складаней. Канешне, рознічны тавараабарот у супастаўных цэнах за першае паўгоддзе павялічыўся на 1,1%. Але і тут фіксуюцца трывожныя тэндэнцыі.

Прынамсі, Мінгандаль «фіксуе тэндэнцыю да зніжэння абаракальнасці тавараў і росту таварных запасаў у рознічным гандлі з-за сціскання ўнутранага плацежаздольнага попыту насельніцтва». Так сказала Наркевіч. Гэта значыць, што людзі сталі менш зарабляць, і, адпаведна, менш набываць тавараў у крамах. А значыць, рост на 1,1% можа вельмі хутка апынуцца падзеннем. Таму, па словах Наркевіч, прадаўцы разам з вытворцамі проста вымушаныя «больш актыўна працаваць над укараненнем зніжкавых акцый і іншых маркетынгавых інструментаў».

Калі вы бачыце ў крамах зніжкі і акцыі, ведайце — гэта не ад добрага жыцця. І ўважліва чытайце на «акцыённых» таварах інфармацыю пра тэрмін годнасці прадукту. Магчыма, вам спрабуюць уцюхаць тое, што належыць, па класіфікацыі Мінгандлю, да «росту таварных запасаў».

Варта дадаць яшчэ адзін фактар. Па словах Наркевіч, адной з перадумоў «да захавання станоўчай дынамікі ў гандлі» ёсць «прыток у сферу прамых замежных інвестыцый». За першы квартал у гандаль прыцягнута каля $268 мільёнаў, сказала Наркевіч. То бок, не ў малой ступені гэтыя 1,1% забяспечылі інвестары. Не ведаю, як наконт «захавання станоўчай дынамікі», але гэтая сітуацыя ў любы час можа змяніцца. Асабліва пасля гісторыі з «Дабраномам», якога Мінгандаль ледзьве не закрыў за тое, чым зараз ганарыцца намесніца гэтага міністэрства, — за інвестыцыі ў збанкрутаваную «Родную сторону».

Каб забяспечыць далейшае развіццё, Мінгандаль прапануе вярнуцца ў мінулае. Па звестках Агенцтва фінансавых навінаў, зараз гэтае ведамства прапрацоўвае магчымасць вяртання ільготнага спажывецкага крэдытавання для тавараў беларускай вытворчасці.

З аднаго боку, гэта, канешне, было б крута. Гэта б падтрымала прадпрыемствы, што дыхаюць на ладан, і павялічыла б рознічны тавараззварот. Аднак, як вядома, закон захавання ніхто не адмяняў. І калі недзе з'явіліся грошы (напрыклад, на льготныя крэдыты), гэта значыць, што яны павінны аднекуль знікнуць. Калі яны з'явіліся «проста так», гэта значыць, што ў краіне зноўку ўключаны друкарскі станок, і ідзе наўпростая напампоўка эканомікі таннымі грашыма. Што ўжо ў кароткатэрміновай перспектыве непазбежна стварыць ціск на валютны рынак.

Чым заканчваюцца танныя грошы і падтрымка айчыннага вытворцы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, мы бачылі ў 2011 годзе з яго трохразовай дэвальвацыяй нацвалюты. Па сутнасці, ведамства прапануе рызыкнуць яшчэ раз: а раптам пашанцуе?

Тое, што «льготныя крэдыты» і «танныя грошы», прайшоўшы пару абаротаў, пяройдуць у валюту, можна амаль не сумнявацца. Нацбанк на тыдні канстатаваў, што сярэдняя стаўка па новых дэпазітах фізічных асоб у замежнай валюце на тэрмін да года ў камерцыйных банках у чэрвені апусцілася да 5,7% гадавых з 6,3% у маі. На тэрмін вышэй года стаўка таксама знізілася да 5,4% гадавых замест майскіх 6,2%.

Паводле аптымістычнага меркавання Нацбанка, гэтае зніжэнне ставак можа тлумачыцца «лішкам валюты ў камерцыйных банках Беларусі», якія ўзніклі ў сувязі з прытокам валюты з боку фізічных і юрыдычных асоб. Насельніцтва Беларусі ў чэрвені ў чыстым выразе рэалізавала валюты на ўнутраным рынку ўсяго на $8,2 мільёна. Аднак пры гэтым фізічныя асобы павялічылі свае валютныя дэпазіты на $198,4 мільёна. Гэта, відаць, і прывяло да ўзнікнення лішку валютных сродкаў у банкаў, што прымусіла іх знізіць стаўкі па дэпазітах, мяркуючы ў НБ РБ.

Але насамрэч гэта таксама трывожная тэндэнцыя. Фактычна гэта азначае, што народ кінуўся пераводзіць рублёвыя ўклады ў валютныя, каб зберагчы свае грошы ад магчымай дэвальвацыі.

Наколькі гэта апраўдана менавіта зараз — невядома. Пакуль што ніхто з адказных асобаў кшталту Аляксандра Лукашэнкі альбо Пятра Пракаповіча не казаў пра тое, што дэвальвацыі не будзе, так што, пэўна, хвалявацца зарана. Аднак народ ужо цяпер перастрахоўваецца, і гэта сведчыць пра тое, што ад прэзідэнцкіх выбараў і таго, што наступіць за імі, ніхто нічога добрага не чакае.

Ці ўсведамляюць тыя, хто пайшоў у прэзідэнцкую гонку, што яны — самазабойцы? Любому кіраўніку дзяржавы, хто б ім ні быў абраны, давядзецца разбірацца з гэтым крызісам і разграбаць гэтыя «аўгіевыя стайні». Хто з прэтэндэнтаў уяўляе, з чым прыйдзецца сутыкнуцца, што і як рабіць і хто нам дапаможа? Напоўніцу, пэўна, гэтага не ўяўляе ніхто, нават Аляксандр Рыгоравіч...

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Зміцер Вайцюшкевіч

**Вядомы беларускі музыка нечакана для самога сябе стаў экстрэмістам.**

Вайцюшкевіч планаваў 22 ліпеня ў Доме Масквы зладзіць канцэрт з песнямі на вершы Уладзіміра Маякоўскага з нагоды дня нараджэння паэта. Аднак яму адмовіліся выдаць гастрольнае пасведчанне.

Адмова ў выдачы гастрольнага пасведчання музыку звязаная з характарам творчасці выканаўцы, якая падпадае пад дзеянне пункта 5 раздзелу 2 указа кіраўніка дзяржавы №257. У ім размова ідзе пра тое, што забаронена арганізацыя і правядзенне канцэртаў, якія «маюць на мэце ажыццяўленне прапаганды вайны ці экстрэмісцкай дзейнасці; прадстаўляюць пагрозу нацыянальнай бяспецы, грамадскаму парадку, маральнасці і здароўю насельніцтва».

Такі адказ за подпісам першага намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі — кіраўніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама Віталіны Рудзікавай атрымаў Зміцер Вайцюшкевіч.

«Некаторыя канцэрты дазваляюцца, і дзякуй Богу. Але зноў нас дзеляць на лепшых і горшых. А момант развіцця беларускай культурнай прасторы губляецца. Незразумела, што ў галовах у гэтых чыноўнікаў, хутчэй за ўсё, гэта банальны страх за сваё крэсла, за тых, хто запытае ў іх «зверху». Цяжка сказаць, што такое «канстытуцыйная бяспека» для іх саміх», — пракаментаваў гэтае рашэнне Вайцюшкевіч.



### Жэрар Дэпардзьё

**Французскі акцёр, а сёння грамадзянін Расіі, нечакана прыляцеў у Мінск.**

66-гадовы акцёр прыбыў разам з прадзюсарам будучага фільма пад рабочай назвай «Нармандыя—Нёман», які плануюць зрабіць разам Францыя, Расія і Беларусь. Апроч таго Дэпардзьё, у якога ёсць рэстараны і аграрны бізнес, мае намер азнаёміцца з мясцовай сельскай гаспадаркай, якой, па ягоных словах, ён вельмі ўражаны.

«Я складаю меркаванне аб краіне не з нечых слоў, а пабываўшы ў ёй асабіста. Пра Беларусь я шмат чаго даведаўся, калі быў у суседняй Расіі. Мне сказалі: а вы ведаеце, што Аляксандр Лукашэнка на мінулых выбарах набраў больш за 80% падтрымкі? Многіх у Еўропе гэта здзіўляе, а я вырашыў пераканацца ва ўсім сам. Наогул, лічу, што Беларусь даўно варта прыняць у еўрапейскую сям'ю краін», — сказаў акцёр.

У паездцы акцёра суправаджае беларускі пасол у Парыжы Павел Латушка.

Варта нагадаць, што, выступаючы ў 2014 годзе на кінафестывалі «Балтыйская жамчужына» ў Рызе, Дэпардзьё заявіў, што «любіць Расію і Украіну, якая з'яўляецца часткай Расіі». У гэтай сувязі ўзнікае пытанне, а ў якую Беларусь прыляцеў акцёр: якая выступае за тэрытарыяльную цэласнасць Украіны і стала пляцоўкай для правядзення перамоў па ўрэгуляванні украінскага крызісу або якая з'яўляецца часткай Расіі?



### Віктар Ганчарэнка

**Беларускі трэнер зрабіў цуд — за адзін месяц вывеў Екацярынбургскі «Урал» у лідары чэмпіянату Расіі па футболе пасля першага тура.**

20 ліпеня ў Краснадары «Урал» выйграў у ранейшага працадаўцы Віктара Ганчарэнкі — «Кубані» з лікам 2:0. У складзе гасцей на поле выйшлі два беларускія гульца — варатар Юрый Жаўноў і абаронца Аляксандр Мартыновіч.

Ганчарэнка ўзначаліў «Урал» толькі 14 чэрвеня гэтага года пасля сямімесячнага прастою. Былы галоўны трэнер барысаўскага БАТЭ апынуўся без працы 13 лістапада 2014 года пасля звальнення з «Кубані». Кіраўніцтва клуба залічыла яму ў віну адсутнасць належнай дысцыпліны ў камандзе. Беларускі трэнер пакінуў краснадарцаў на пятым месцы ў табліцы чэмпіянату Расіі. Пасля яго сыходу «Кубань» апусцілася на 10-е месца.

«Урал» у мінулым сезоне заняў 13-е месца сярод 16 удзельнікаў прэм'ер-лігі і застаўся ў ёй дзякуючы перамозе ў пераходных матчах з «Том'ю».

а | Азбука паліталогіі

# Хто прыплыў першы, той і дзеліць рэсурсы



Сяргей НІКАЛЮК

**Тэхналогія змены ўлады, якую распрацавалі абарыгены выспы Пасхі, не страціла сваёй актуальнасці ў сучаснай Беларусі.**

Першая культурная рэвалюцыя (нелітычная) у гісторыі чалавецтва завяршылася экалагічнай катастрофай. Чалавек, што рэзка ўдасканаліў прылады і тэхналогіі палявання, знішчыў значную частку фауны. Дэфіцыт рэсурсаў абвастрыў унутрывідавую барацьбу, што прывяло да скарачэння колькасці насельніцтва ў 8–10 разоў.

Выхад з крызісу ў рамках тагачаснай эканамічнай мадэлі, заснаванай на паляванні і збіральніцтве, быў немагчымы. Той, хто гэтага не зразумеў, выпаў з гісторыі.

Хочаш жыць — умей круціцца. Такая формула прагрэсу. Вось і давялося homo sapiens ажыццявіць пераход да вытворчай гаспадаркі, заснаванай на земляробстве і жывёлагадоўлі.

Для гэтага спатрэбілася здзейсніць чарговую культурную рэвалюцыю. Яе цэнтральны элемент — фарміраванне ўяўлення пра будучыню. Збіральнік ці паляўнічы жыве сучаснасцю. Калі ён хацеў есці, браў кошык ці лук са стрэламі і ішоў у бліжэйшы лес. Усё знойдзенае і злоўленае ўжывалася ім у рэжыме «тут і цяпер». Ну а далей голад запускаў чарговы «вытворчы цыкл».

Адмова ад бягучага спажывання дзеля спажывання ў будучыні і выратавала чалавецтва ў канцы неаліту. Тут важна не пераблытаць прычыну са следствам. Следства — гэта тэхналогіі па вырошчванні травы і прыручэнні жывёл. Прычына — уменне думаць у катэгорыях будучыні.

## Акулы — дэмакратыі не перашкода

«Разруха не ў клазетах, а ў галовах». Гэта азбука. Без яе засваення крызіс не пераадолець. У якасці прыкладу звернемся да досведу жыхароў выспы Пасхі (Рапа-Нуі).

У цяперашні час — гэта востраў без лясоў з неўрадлівай вулканічнай глебай. Аднак да часу засялення палінезійцамі ў IX–X стагоддзі ён быў пакрыты густымі лясамі. Зразумела, што без умяшання чалавека тут не абышлося. Але чаму перасяленцы дзейнічалі так радыкальна?

Лес стаў ахвярай... ідэалогіі. Акрамя традыцыйных гаспадарчых патрэб (лодкі, жыллё, паліва) бярвенне ў вялікай колькасці было неабходнае для транспарціроўкі гіганцкіх каменных статуй.

У выніку інтэнсіўнай высечкі, якая доўжылася на працягу стагоддзяў, лес быў цалкам вынішчаны прыкладна да 1600 года. Следствам гэтага сталі ветравая эрозія глебы, рэзкае скарачэнне вылаву рыбы з прычыны адсутнасці лодак, падзенне вытворчасці харчавання, масавы голад і грамадзянская вайна. Сукупнасць гэтых прычын скараціла насельніцтва выспы амаль на парадак усяго за некалькі дзесяцігоддзяў.

Будаўніцтва статуй прыпынілася натуральным шляхам, і гэта падарвала аснову пануючай ідэалогіі. Аднак, да гонару жыхароў выспы, яны здолелі пераадолець разруху ў галовах, кардынальна перапрацаваўшы сваю ідэалагічную дактрыну.

На змену пакланенню каменным ідалам прыйшла эпоха глыбокага шанавання чалавека-птушкі. Яе цэнтральны культавы рытуал — штогадовае спаборніцтва паміж прадстаўнікамі ўсіх кланаў Рапа-Нуі. У канцы жніўня, калі цёмная крачка адкладала яйкі на скалах у кіламетры ад выспы, прадстаўнікі ўсіх плямёнаў збіраліся ў вёсцы Аронга. Удзельнікі спаборніцтваў павінны былі даплысці да скалы, знайсці яйка крачкі і вярнуцца з ім назад. Прычым удзельнікі падвяргаліся вялікай небяспецы, бо гэтыя воды кішэлі акуламі.

Плывец-пераможца станавіўся «птушкачалавекам года», а яго племя і надзялялася правам кантролю над размеркаваннем рэсурсаў на востраве. І так да наступнага заплыву.

Перад намі, як няцяжка здагадацца, своеасаблівы механізм змены ўлады. Ён унікальны. Але яго ўнікальнасць заключаецца не ў дэталях рытуалу, а ў самім факце змены ўлады ва ўмовах размеркавальнай эканомікі (азбукавыя прынцыпы функцыянавання дыстрыбутыўнай, г.зн. размеркавальнай эканомікі былі разгледжаны аўтарам у артыкуле «Людзі на камянях і людзі на балоце»).

## «Сіла інтэрнэту — гэта хаос»

Абарыгены Рапа-Нуі выпрацавалі механізм змены ўлады метадам спроб і памылак, заплаціўшы за сацыяльныя эксперыменты тысячамі чалавечых жыццяў. Але эксперымент сябе апраўдаў. Дэпапуляцыя выспы была спыненая.

Гісторыя, як і інструкцыі па тэхніцы бяспекі, пішацца крывёй. Таму сучасныя грамадствы навучыліся здабываць урокі са сваіх і чужых памылак. Яны стварылі сістэму інстытутаў, якія дазваляюць падтрымліваць разумны баланс паміж стабільнасцю і нявызначанасцю.

Звернемся да інтэрнэту. Спробы абмежаваць яго свабоду — гэта дакладная прыкмета няздольнасці палітычнай сістэмы існаваць у сучасных дынамічных умовах. Такія спробы ў сярэдзіне 90-х гадоў рабіліся і на радзіме інтэрнэту, у ЗША. Маўляў, тэрарызм, парнаграфія і іншыя спакусы. Без дзяржаўнага рэгулявання тут не абысціся.

Заканадаўцы на запыт «прагрэсіўнай грамадскасці» адрэагавалі і прынялі закон аб абароне маральнасці ў інтэрнэце. Аднак Федэральны суд у Пенсільваніі сваім рашэннем яго адмяніў. Прывяду фрагмент судовага вердыкту: «Гэтак жа, як сіла інтэрнэту — гэта хаос, сіла нашай свабоды вызначаецца хаосам і какафоніяй неабмежаванай свабоды слова, якая абараняецца Першай папраўкай да Канстытуцыі».

Суд — гэта інстытут, які закліканы ахоўваць дзеючы сацыяльны лад. І гэты інстытут стаў на абарону хаосу! Але такое патрабаванне Канстытуцыі. Першая папраўка (Біль аб правах), якая гарантуе свабоду слова, таму і стала першай. Амерыканскім заканадаўцам хапіла двух гадоў, каб усвядоміць неэфектыўнасць Канстытуцыі, у якой адсутнічаюць механізмы абароны асобы. А кожная аўтаномная асоба — гэта крыніца дадатковай нявызначанасці для дзяржавы.

Дарэчы, Першая папраўка забараняе дзяржаве падтрымліваць якую-небудзь рэлігію альбо сцвярджаць дзяржаўную рэлігію. Але гэта так, да слова.

## Адчуйце розніцу

Штогадовае спаборніцтва па хуткаснай дастаўцы яйка крачкі — далёка не адзіны спосаб генерацыі сацыяльнай нявызначанасці, выпрацаваны чалавецтвам. Індзейцы наскапі, напрыклад, вызначалі раён палявання па слядах сажы на лапатцы аленя. «Такім чынам, — рэзюмуе амерыканскі сацыёлаг Дэвід Старк, — наскапі ўводзілі ў свае дзеянні элемент выпадковасці, які дазваляў пазбегнуць ціску каротказмоўнай рацыянальнасці, якая прымушае меркаваць, што найлепшы спосаб знайсці дзічыну заўтра, — пашукаць там жа, дзе яе знайшлі сёння».

Каб не шукаць адказы на выклікі там жа, дзе яны былі знойдзеныя ўчора, чалавек прыдумаў выбары. Гэта лепшы на сённяшні дзень генератар нявызначанасці, генератар хаосу. Але калі будучыня няпэўная, дык і пераадольваць яе варта з дапамогай выпадковых механізмаў.

Галоўны вынік выбараў — непрадказальнасць іх зыходу. Выбары з прадказальным зыходам выбарамі не з'яўляюцца. Яны праводзяцца не для абнаўлення кіруючай эліты, а для яе легітымацыі. Як тут ні прыгадаць старых крамлёўскіх кіраўнікоў, якіх выносілі з рабочых кабінетаў наперад нагамі.

Выбары, у тым ліку і прэзідэнцкія, рэгулярна праводзяцца і ў Беларусі. Але сам адзіны палітык (АП) у якасці палітычнага мерапрыемства іх не разглядае. Для яго выбары — гэта экзамен, які ўлада здае народу. Заўважце, не ён асабіста здае экзамен, а ўся ўладная «вертыкаль». Таму ў размовах на экзаменацыйную тэму заўсёды фігуруе займеннік «мы».

Множны лік займенніка першай асобы азначае, што кандыдатам ад апазіцыйных партый супрацьстаіць не дзейны прэзідэнт і не канкрэтныя фізічныя асобы на парламенцкіх і мясцовых выбарах, а дзяржава як такая. Адчуйце, што называецца, розніцу!

## Інстытут інстытуту розніца

У рамках беларускай мадэлі баланс паміж стабільнасцю і нявызначанасцю дзяржава спрабуе ўтрымаць за кошт звядзення нявызначанасці да мінімуму. У артыкуле «Тры пакаленні Пуціна» расійскі эканаміст Уладзіслаў Іназемцаў наступным чынам характарызуе пакаленне, якое займае сёння «камандныя вышыні»: «Яны прайшлі канкурэнцыю без правілаў і стварылі сістэму правілаў, якія не дапускаюць канкурэнцыі». Лепш і не скажаш.

Мінімум канкурэнцыі — мінімум нявызначанасці. Але на падтрыманне такога мінімуму даводзіцца накіроўваць максімум рэсурсаў. Абарона манаполіі на ўладу ва ўсе часы абыходзілася нятанна. Тут ужо не да развіцця.

Без моцнай улады падтрымліваць на працягу доўгага часу сістэму правілаў, якія не дапускаюць канкурэнцыю, у наш час яшчэ ні ў каго не атрымлівалася. Падмацую гэта сцвярджэнне выказваннем АП: «Моцная ўлада, развітыя структуры кіравання патрэбныя як для захавання сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў краіне, так і для дзяржаўнага рэгулявання працэсу эканамічных пераўтварэнняў».

Сусветны вопыт паказвае, што вырашальным фактарам паспяховага развіцця з'яўляюцца моцныя дзяржаўныя інстытуты, якія забяспечваюць нармальную работу рынкавых механізмаў».

Хто б спрачаўся, без моцных інстытутаў на траекторыю ўстойлівага развіцця не выйсці. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Дастаткова звярнуцца да досведу «азіяцкіх тыграў». Але моцныя інстытуты моцным інстытутах розніца. Уся справа ў адносінах да канкурэнцыі. Без моцных інстытутаў яе не прыдушыць, але і стрымліваць ціск лабісцкіх груп таксама не атрымаецца.

«Па меры ўмацавання ўлады над асяроддзем, — сцвярджаў англійская гісторык Арнольд Тойнбі, — пачынаецца працэс надлому і распаду, а не росту». Як гэта тэарэтычнае палажэнне рэалізуецца на практыцы, наглядна дэманструе беларуская мадэль. Яна жыве пяцігодкамі. Таму для вызначэння яе рэальнага стану дастаткова адкрыць Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады.

Гэту праграму нескладана знайсці на сайце Мінэканомікі. Любы абзац праграмы сёння чытаецца як песня. Прыводжу фрагмент абзаца, абранага выпадкова: «У развіцці галін прамысловасці ўпор будзе зроблены на апераджальнае развіццё вытворчасцей, якія выпускаюць прадукцыю з высокім дабаўленым коштам: мікраэлектроніка, прыборабудаванне, дакладнае машынабудаванне, інфармацыйныя тэхналогіі...»

Нагадаю, выбары ў Беларусі — гэта іспыт. Але права на здачу іспыту яшчэ трэба заслужыць...



# «Правы сектар» як прывід незавершанай рэвалюцыі



Зміцер ГАЛКО

**Што азначаюць падзеі ў Закарпацці, і якія наступствы яны будуць мець? Мяркую, гэта крызіс хваробы, пасля якога можа наступіць як паляпшэнне, гэтак і пагаршэнне здароўя, ажно да смерці хворага.**

Клубок праблемаў («клана-васць, кантрабанда, карупцыя) справакаваў рэвалюцыю паўтара гады таму. Як кажа Уладзімір Савельеў, кіеўскі гісторык і філосаф, «ніводная рэвалюцыя не заканчваецца сама па сабе, пакуль не вырашана асноўнае пытанне, якое прывяло чалавечыя масы ў рух».

### «Свой сукін сын» і проста «сукін сын»

Відавочна, што асноўныя пытанні, узнятыя Майданам, дасюль не вырашаныя. Гэта яскрава пацвердзіла закарпацкая драма. Дастаткова паглядзець, што з сябе ўяўляюць не асноўныя фігуранты, а гэта дзейныя народныя дэпутаты Віктар Балога і Міхаіл Ланьё, ураджэнцы Закарпацця. Канфлікт паміж імі ці іхнімі кланамі, выліўся 11 ліпеня ў страляніну з выкарыстаннем буйнакаліберных кулямётаў і гранатамётаў, у выніку якой ёсць загінулыя і параненыя, у тым ліку выпадковыя мінакі.

Закарпацце даволі часта называюць «украінскай Сіцыліяй». Пішуць, што яно «па ўзроўні пранікнення мафіёзных структураў у жыццё рэгіёну і ўладу не саступае Данбасу». Ну а цэнтральнае месца ў закарпацкай іерархіі займае клан Балогаў. Менавіта на гэты клан падчас апошніх парламенцкіх выбараў зрабіў стаўку Парашэнка — у яго выбарчым спісе было трое братоў Балогаў. Уключэнне такіх персон у прэзідэнцкі выбарчы спіс выклікала неразуменне і крытыку. У адказ вялося пра неабходнасць кансалідацыі розных сілаў дзеля захавання стабільнасці. Як быццам выбар у прэзідэнта быў паміж кепскім і горшым — Балогу хоць і лічаць бандытам, але адначасова патрыётам, да таго ж, з праеўрапейскімі поглядамі. Калі не Балогі, дык галаву падыме іншы, пракрамлёўскі клан.

Міхаіл Ланьё — чалавек з крымінальнай біяграфіяй, прадстаўнік іншага закарпацкага клану, які звязваюць з Віктарам Медведчуком, кумам Уладзіміра Пуціна. Балога калісьці ахарактарызаваў Ланьё як «тыповага саўковага бандыта». І яшчэ ў часы Януковіча казаў, што абранне таго дэпутатам «ганьбіць дзяржаву, ганьбіць прэзідэнта, ганьбіць Украіну». Калі дэпутацтва гэтага чалавека ганьбіла Украіну падчас прэзідэнцтва Януковіча, што казаць пра пострэвалюцыйную Украіну? Тым часам Ланьё, былы «рэгіянал», які галасаваў за «дыктатарскія законы» 16 студзеня 2014 года, цяпер з'яўляецца членам камітэту Вярхоўнай Рады... па прадухіленні і супрацьдзеянні карупцыі. Якая насмешка з даўно чаканай люстрацыі!

Асноўны бізнэс закарпацкіх кланаў — гэта кантрабанда ў краіны Еўрасаюза (балазе Закарпацце мяжуе адразу з чатырма чальцамі ЕС), ліквідных тавараў, у прыватнасці цыгарэт. Менавіта за кантроль над кантрабанднымі патокамі і вядзецца жорсткая канкурэнцыя. У гэтым выпадку яна скончылася стралянінай і вайсковай аперацыяй.

Дык ці варта было прэзідэнту, які прыйшоў з абяцаннем «жыць па-новаму», рабіць стаўку на ўмоўных «сваіх сукіных сыноў»? То бок уключацца ў барацьбу паміж кланамі, замест таго, каб змагацца з крымінальнымі кланамі як такімі.

### Кантрабанда ў межах закону

Старшыня Закарпацкай абладміністрацыі Васіль Губаль зрабіў цікавую агаворку: «Перазмеркаванне кантрабандных патокаў, вядома, яно заўсёды было ў Закарпацці, але, калі гэта пераразмеркаванне кантрабандных патокаў, то гэта не так мае высвятляцца. Гэта мае высвятляцца законным шляхам, у межах закону», — сказаў чыноўнік.

Былы ротны батальёну «Айдар» і публіцыст Яўген Дзікі такім чынам пракаментаваў ягоныя словы:

— Так, у іх гэта ўсё вырашалася «ў межах закона» — іх закона, з іх жа судамі і іх апаратам прымусу. А тут з'явіліся гэтыя вось — «правасекі»-беспрэдзельшчыкі, па-за іх сістэмай, але «раптам» з такімі ж апетытамі. А яшчэ — са зброяй і ўменнем яе ўжываць... Свет пасля Мукачава змяніўся. Цяпер «у межах закона» больш не атрымаецца. Атрымаецца адно з двух — або сапраўды паводле закона, калі кантрабанду не трэба будзе пераразмяркоўваць паміж нардэпамі з двух канкуруючых кланаў, таму што яна ўся будзе па-за законам і замазацца аб яе будзе азначаць канец любой палітыцы, кар'еры і да т.п., ці ж так вось, з дапамогай зброі. У абодвух выпадках ім больш няма месца.

### Прывід рэвалюцыі

Чым жа з'яўляецца «Правы сектар», якая яго роля ў гэтай гісторыі? Пакуль рана рабіць адназначную выснову. «Правы сектар» абвінавачваюць ва ўдзеле ў крымінальных разборках за перадзел кантрабандных патокаў і правакаванні страляніны. У той жа час «Правы сектар» настойвае: яны сталі ахвярамі правакацыі, стралялі ў адказ у межах самаабароны, а прычынай здарэння стала іх актыўнае супрацьдзеянне мясцовай мафіі. Страляніну, па словах прадстаўнікоў арганізацыі, распачалі людзі народнага дэпутата Міхаіла Ланьё, сілавікі ж дзейнічалі ў згодзе з мясцовай мафіяй.

Некаторымі прадстаўнікамі «Правага сектара» выказваецца і канспіралагічная версія — гэта «рэжым унутранай акупацыі», як яны называюць украінскую ўладу, мэтанакіравана зладзіў правакацыю супраць бескампрамісных патрыётаў.

Пакуль няма яснага ўяўлення аб тым, што на самай справе стаіць за падзеямі ў Закарпацці. Зрэшты, як сказаў народны дэпутат Барыслаў Бяроза, колішні старшыня інфармацыйнага аддзелу «Правага сектару», нават Дзмітры Яраш, лідар арганізацыі, не зусім разумее, што адбылося, і знаходзіцца ў разгубленасці. Таксама магчыма, дадаў ён, Яраш згубіў кантроль над аддзяленнямі арганізацыі ў шэрагу рэгіёнаў.



**Марыупаль. Мітынг каля РАУС.** Фота Генадзя Іванчанкі

На мой погляд, не мае вялікага значэння, ці былі члены закарпацкага аддзялення «Правага сектару» бескампраміснымі змагарамі з мафіяй, якія дзейнічалі ў межах «рэвалюцыйнай законнасці», ці яны самі выступілі ў ролі адной з гангстэрскіх груповак, ці яны былі патрыётамі, уцягнутымі ў канфлікт за пераразмеркаванне кантрабандных патокаў.

Падчас Майдану «Правы сектар» стаў нечым кшталту адрэналіну (ці азвярыну, калі заўгодна), выпрацаваным грамадскім арганізмам у патрэбны момант. Сёння я б параўнаў яго з прывідам рэвалюцыі. Прывідам, які дакарае, абвінавачвае і турбуе. Бо рэвалюцыя не завершаная. І яе прывід не супакоіцца, пакуль не будзе выкананае патрабаванне, якое ляжала ў яе аснове, — выкараненне дашчэнту прагнілай карупцыйнай сістэмы.

Нават калі канкрэтныя байцы проста прыйшлі «ўзяць сваё» за тое, што яны пралівалі кроў на барыкадах у Кіеве і на данбаскім фронце, яны ўзніклі менавіта таму, што перамены адбываюцца вельмі павольна, сістэма ў значнай ступені застаецца той жа самай. І таму з'яўляецца заканамернае пытанне: «Чаму ім можна, а нам — не?»

Яўген Дзікі кажа, што яго здзіўляе «беспадстаўная палярнасць дыскусіі вакол Мукачава».

«Або-або: або героі з «Правага сектару» выступілі вайной супраць карупцыі, а злыя мянты іх нявінна мочаць ва ўгоду рэгіяналам і алігархам; або правакатары-нацысты спрабавалі падмяць пад сябе кантрабандны трафік, пры гэтым замачылі мірнага жыхара, прыкрываліся маленькім хлопчыкам (добра, што хоць не ўкрыжаваным) і сеюць у краіне хаос грамадзянскай вайны. У рамках такой фальшывай дылемы ўсё відавочна і безнадзейна крывава: або масавае паўстанне супраць рэжыму, або татальная зачыстка ўсіх добраахвотніцкіх бандфармаванняў, — тлумачыць ён. — У межах абсалютна фальшывай дылемы «правасекі vs мянты» меншым злом выглядае зграйка лясных бандытаў — у параўнанні з цэлай сістэмай прадажных мянтоў-пракурораў-суддзяў-дэпутатаў-міністраў».

«Пакуль «новая» ўлада будзе крышаваць крымінал і карупцыю, нібыта ёй гэта цалкам дазволена, рэгулярна будуць знаходзіцца франтавікі, якія цалкам лагічна спытаюць: «А чаму ім дазволена, а нам не?» І замест таго, каб запытаць дазволу, возьмуць сваё зброяй, — працягвае Дзікі. — Калі мы сапраўды хочам жыць у нармальнай краіне, нам нельга дазволіць загнаць сябе ў гэтую дылему. У краіне, дзе ўлада будзе дзейнічаць па законе, усякія «робінгуды» будуць пазбаўленыя грамадскай падтрымкі і вельмі хутка перавядуцца. У краіне татальнай карупцыі рана ці позна тысячам грамадзян давядзецца стаць «робінгудамі», і пачнецца «разборка» ўсіх супраць усіх — вайна, у якой не будзе пераможцаў. Выбар за намі».

### За лепшую краіну разам

Дык якія наступствы могуць мець падзеі ў Закарпацці? Калі будзе зроблена выснова, што з карупцыяй немагчыма далей мірыцца, прыхоўваючы яе прыгожымі фразамі, імітуючы барацьбу з ёй, што немагчыма далей абапірацца на старую гвардыю, якая загразла ў карупцыі, а трэба бязлітасна яе выкараняць, — значыць, пацыент будзе жыць.

У Марыупалі я прысутнічаў на мітынгу каля РАУС Кастрычніцкага раёна, зладжанага прадстаўнікамі мясцовага «Правага сектара» ды іхнімі прыхільнікамі. Мітынгоўцы падкрэслівалі, што не хочуць прававога хаосу ў дзяржаве, усё, чаго яны патрабуюць, гэта справядлівасці і закону. Яны задавалі пытанні, чаму гаворка ідзе толькі пра пакаранне байцоў «Правага сектара», а людзі дэпутата Ланьё, якія таксама былі ўзброеныя да зубоў, дасюль не арыштаваныя. Чаму гуляе на волі і цудоўна пачуваецца, напрыклад, Рынат Ахметаў, які, па іх словах, справакаваў вайну на Данбасе? Чаму не спыняецца кантрабандны гандаль з акупаванымі тэрыторыямі? Чаму падчас «перамір'я» па-ранейшаму ліецца кроў?.. І г.д. і да т.п.

Да групы мітынгоўцаў выйшаў начальнік РАУС лейтэнант Уладзімір Баганос, колішні камандзір батальёну «Днепр-1». Хаця я ўжо даўно знаходжуся ва Украіне, па старой памяці чакаў, што ён зараз дастане мегафон і скажа: «Грамадзяне, ваш мітынг несанкцыянаваны! Пераканаўчая просьба разысціся!» Аднак міліцыянт нечакана падтрымаў перакананні пратэстоўцаў і заклікаў іх прыходзіць на працу да яго ў РАУС, каб разам змагацца за паляпшэнне краіны.

«Я не маю права ацэньваць тое, што адбылося ў Мукачава. Але я падтрымліваю вашы патрабаванні наконт справядлівага разбіральніцтва і таксама лічу, што дэпутаты, якія крышуюць кантрабанду, павінны быць арыштаваныя... Вы ведаеце маё лаяльнае стаўленне да пабрацімаў з «Правага сектару». Аднак за апошнія паўтара года я бачыў рознае. Я прайшоў праз Майдан, адкуль выштурхоўваў пад зад псеўдапатрыётаў, якія п'янствавалі, ужывалі наркотыкі, кралі і да т.п. Былі і такія. Але ж мы займаліся ачышчэннем ад іх. Трэба чысціць ад вырадкаў як уладу, так і шэрагі тых, хто называе сябе «патрыётамі». Давайце рабіць гэта разам дзеля лепшай краіны», — сказаў Уладзімір Баганос.

Відавочна, менавіта такіх словаў, за якімі рушаць услед адпаведныя дзеянні, чакае ўкраінскае грамадства ад уладаў.

# Назад, у калектывізацыю

Аляксей ЧУБАТ

**У Пінск і ваколіцы Саветы прышлі перад вайной. А пасля вайны прыйшла і калектывізацыя. Што яна прынесла? Адказ на гэта пытанне шукала экспедыцыя Беларускага архіва вуснай гісторыі.**

Сваімі ўспамінамі перад навукоўцамі і заўзятарамі гісторыі падзяліліся каля ста чалавек 80–90-гадовага ўзросту. Па ўспамінах людзей, асноўны этап калгаснага будаўніцтва разгарнуўся ў 1949–1950 гадах. Але гэта не азначае, што пасляваенныя пяць гадоў палешукі жылі ў спакоі.

Вось што распавяла Людміла Палхоўская, 1932 года нараджэння, былая настаўніца з вёскі Лышчы Пінскага раёна:



— Майго дзеда прызналі кулаком у 1947-м, загадалі заплаціць падатак у 17 тысяч рублёў. І гэта нягледзячы на тое, што толькі нас, унукаў, было шасцёра. Дзядулю прыйшлося шмат што прадаць, у тым ліку і мэблю, — сплаціў падатак. Але праз год яму загадалі аддаць яшчэ 8 тысяч рублёў. Такіх грошай у нашай сям'і не было, і ў дзеда застаўся адзіны шлях — за краты. У Баранавіцкай турме ён адбыў тры гады. Праўда, потым яго рэабілітавалі.

Тры гады — гэта дробязь у параўнанні з тым, якім гвалтам ішло даваеннае раскулачванне ва Усходняй Беларусі. Але гэта не з-за таго, што камуністы падабрэлі. Быў загад: у Заходняй Беларусі паводзіць сябе максімальна карэктна.

Як прыкладна праходзіла карэктнае стварэнне калгаса, распавядае 83-гадовая Вольга Надольская з мястэчка Моталь:

— Перад Вялікаднем прыйшлі да нас, зламалі дзверы ў хлеў, забралі дзве каровы. А людзі нам крычаць: «Дзержыцесь! Дзержыцесь!». А дзе тут удзержышся, як пойдзеш супраць улады? Пазабіралі ў людзей і сараі — пастроілі сабе калгас.

## Босыя агітатары

Нягледзячы на тое, што калгас быў ратаваннем для пасляваенных удоў і беднаты, апошнія таксама не надта спяшаліся аддаваць туды сваю нішчымную, але ўсё-ткі — маёмасць. Бо калгасная эканоміка адрывала вынікі працы ад людзей, і было малазразумела, у чым ён лепшы ад прыватнай гаспадаркі.

Адносіны да агітатараў былі недаверлівыя, бо самі яны не выглядалі на людзей шчаслівых ці хаця б заможных. Часцяком былі ў паношанай вопратцы, нібы прайшлі ў ёй дзве сусветныя вайны. Таму на Піншчыне і мянушка за імі замацавалася — «босыя». Паводле расповеду жыхаркі вёскі Баяры Пінскага раёна, адзін такі «босы агітатар» праводзіў антыкампанію. Ён прыехаў з Расіі, пасяліўся на хутары мясцовага заможнага селяніна, але замест агітацыі адгаворваў людзей аб'ядноўваць маёмасць. Казаў, што нічога добрага з таго не атрымаецца.

Для ідэалагічнай работы, як гэта і цяпер робіцца ў Беларусі, прыцягвалі настаўнікаў. Перад імі была задача — прывесці па дзесяць чалавек у калгас. А ў вёсцы Юхнавічы, напрыклад, не толькі ўгаворвалі, але давалі бульбу, лес тым, хто калектывізаваўся. Майстэрствам вышэйшага пілатажу было завабіць аднаасобнікаў. Менавіта так называлі на Піншчыне заможных сялян, слова «кулак» тут не прыжылося. Бо зразумела: пойдуць у калгас багацейшыя — пацягнуцца за імі і астатнія. Часам гэта працавала.

Аднак новая ўлада нядоўга раздавала маёмасць. «Мужык маёй знаёмай пайшоў у армію, а потым загінуў на вайне. Яго жонка ўзяла некалькі каласкоў на полі. Ёй жа было цяжка жыць, не было чаго есці, вось яна і ўзяла гэтыя каласкі. За гэтае яе асудзілі і — у турму, а ейнае дзіцё засталося адно. Потым прыйшла з турмы і памерла маладая»,— узгадвае Вольга Надольская.

Але, нягледзячы на сур'ёзнасць законаў, каб пражыць, людзям прыходзілася красці. Дзе бурак, а дзе і мех бульбы. Пазней за крадзяжы толькі штрафавалі. Прыўзняцца над сітуацыяй паміж молатам і кавадлам, паміж смерцю ад голаду і страхам турмы людзям дапамагаў гумар. «Ні каровы, ні свінні, толькі Сталін на сцяні». Гумар даваў адчуванне, што яны, калі могуць жартаваць, дык падпарадкоўваюць сітуацыю сабе.



**«У 1950-х ва Украіне не хапала працоўных рук, і ўкраінскія вярбоўшчыкі актыўна ездзілі па беларускім Палессі, збіраючы працоўных. Там плацілі нашмат больш, чым у беларускіх калгасах. Давалі збожжа, цукар, і машынамі прывозілі ўсё з Украіны ў Беларусь. Таму я і паехала. Калгас адпусціў, бо не меў права ўтрымліваць»**





«Ішла каза із колхоза,// Пралівала слёзы, //Атрубіце вы мне хвост,//Не пайду ў калхозы».

Але, калі каза разам з гаспадаром усё ж апынулася зацугляной калгасам, выйсці ім з яго было не так проста. У некаторых калгасах аж да 1980-х гадоў не давалі пашпарт. Гэта, канешне, было парушэннем закона, але «прэдсядацелі» проста карысталіся юрыдычнай непісьменнасцю сялян. Былі і іншыя спосабы, як без пашпарта можна пазбегнуць няўдзячных калгасных працадзён. Для мужчын — ехаць працаваць у лепшае месца па ваенным білеце, для жанчын — вярбоўка.

Вольга Надольская з дапамогай вярбоўкі ва Украіну змагла пакінуць калгас:

— У 1950-х ва Украіне не хапала працоўных рук, і ўкраінскія вярбоўшчыкі актыўна ездзілі па беларускім Палессі, збіраючы працоўных. Там плацілі нашмат больш, чым у беларускіх калгасах. Давалі збожжа, цукар, і машынамі прывозілі ўсё з Украіны ў Беларусь. Таму я і паехала. Калгас адпусціў, бо не меў права ўтрымліваць.

## Не ўсе былі згодныя

Гаспадар прымусова здаваў свае плугі, жывёлу, але адчуванне, што гэта яго маёмасць, што ён нясе за яе адказнасць, нікуды не знікала. «Выйшлі першы раз сеяць, і кожны за свайго каня бярэцца, за свой плуг, — расказваў адзін з палешукоў. — А як хто чужы кіруе тваім канём, дык яму кажаш: так і гэтак рабі, бо добра ведаеш сваю жывёлу, адчуваеш патрэбы каня».

Дзевяностагадовая бабуля з вёскі Табулкі Пінскага раёна кажа, што хоць сям'я яе маці была шматдзетная і бедная, яны не жадалі калгаса. І калі камбайн стаў збіраць жыта, якое яны вырасцілі за лета, яе цяжарная маці клалася на полі перад камбайнам. «Камбайн жа спыняўся, аб'язджаў яе і далей збіраў наша жыта», — распавядае бабуля.

Быў і больш радыкальны супраціў. Як вынікае з расповедаў, лясныя браты знішчалі камуністаў, актывістаў, кіраўнікоў сельсаветаў — тых, хто спрыяў умацаванню Савецкай улады.

Найбольш вядомыя ў гэтых краях былі браты Грэчкі, лясны штаб якіх быў у раёне вёскі Лышчы. Усяго братоў было трое, але адзін сышоў. Людміла Палхоўская называе іх бандытамі, але пры просьбе распавесці пра іх падрабязней, кажа: «Яны былі адораныя людзі. Зрабілі піляраму, зрабілі крупадзёрку, самі давілі алей, шылі, рабілі гармошкі. Чаго яны пайшлі ў бандыты? Яны ж не былі вельмі багатыя. А ў бандзе рабілі аўтаматы». Па іншай інфармацыі, у братоў Грэчак быў нават самаробны кулямёт.

Былы міліцыянер з вёскі Фядоры Пінскага раёна ўспамінае, што «апошнюю банду разбілі толькі ў 1951 годзе». Да гэтага часу ён, калі ездзіў у рэйды па вёсках, ніколі не начаваў у адной хаце. Змагары супраць савецкай улады практыкавалі такі тып супраціву: старшыня сельсавета сядаў вячэраць, а лясны брат разбіваў акно і проста з двара страляў у яго.

Перад вайной дзядуля Вольгі Надольскай пасля шматгадовай працы ў ЗША прыехаў назад у Моталь, пабудаваў вялікі дом. Потым гэты дом адабрала Савецкая ўлада: там была бальніца, пазней размяшчаліся іншыя дзяржаўныя ўстановы. А ў 1980–1990 гадах спадарыня Надольская надумала адсудзіць дзядулеў дом. Шмат паездзіла па судах — і ў Брэст, і ў Мінск — сустракала непаразуменне, але ўрэшце змагла вярнуць спадчыну. Цяпер у гэтым доме жыве яе пляменнік з сям'ёй.

## Калгасы спарадзілі беднасць

Падчас экспедыцыі склалася ўражанне, што нашы рэспандэнты не вельмі востра ўспрымаюць калектывізацыю. Часткова, канешне, гэта звязана са страхам: адчувалася, што некаторыя людзі ведаюць больш, чым кажуць. Хтосьці наўпрост казаў, што баіцца распавядаць пра калектывізацыю. Але важна разумець, што ўдзельнікі экспедыцыі апытвалі не саміх раскулачаных ці прымусова накіраваных у калгас, а іх дзяцей. У той час яны былі падлеткамі, а што падлеткам да калектывізацыі! Да таго ж, менавіта з калгаса яны пайшлі ў самастойнае жыццё, а зараз атрымліваюць пенсію.

Яшчэ адной прычынай поспеху калектывізацыі стаў пасляваенны фактар. Народ быў разгублены, не ведаў, што і як рабіць далей, таму і ішоў у калгасы. Пасля жахаў вайны калгас не выглядаў нечым ненармальным.

«Каб не стварылі калгасы, людзі былі б багацейшыя». «Калгасы варта было б стварыць, але не варта было ўсіх туды гнаць», — такія высновы робяць нашы рэспандэнты. А яшчэ кажуць, што «не любіла багатых Савецкая ўлада, бо дурная была. Толькі з багацця атрымаецца багацце».

TV

## 27 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**11.00** 90 секунд.
**11.45** Лірычная меладрама «Двойчы ў адну раку» (Расія).
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.45** Меладрама «Чужая жанчына» (Расія). 1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** 90 секунд.
**16.05** Меладрама «Чужая жанчына» (Расія). 2-я серыя.
**17.50** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). 1-я серыя.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.40** Форум.
**22.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.30** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**01.00** Рамантычная меладрама «Позняе каханне» (Расія).

---

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Мастацкі фільм «Дыяментавая рука».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Без сведак».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Тры акорды.
**23.55** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 7». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Татальны распродаж».
**14.50** «Дарагая перадача».
**15.00** «Чыстая праца».
**15.50** «Іншая краіна».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Мінішчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Фільм «Туз у рукаве». ЗША, 1951г.
**00.50** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**10.30** Тэлебарометр.
**11.00** Анімацыя для ўсёй сям'і. «Піраты! Банда няўдачнікаў» ЗША.
**12.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Адплата» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**16.25** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**17.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 1-я серыя.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** КЕНО.
**21.45** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.35** Серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.05** Моладзевыя-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія.
**00.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 1-я серыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямнічы востраў». Прыгодніцкі фільм (Іспанія, Францыя, Італія, Камерун, 1972 г.).
**09.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**10.25** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.15** «Наперад у мінулае».
**11.45** Мультфільмы.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.25** «Не хлебам адзіным». Драма (Расія, 2005 г.).
**14.15** «АРТиШОК». Аніматары Міхаіл Тумеля, Аляксандр Ленкін, Марына Карпава.
**14.45** «Дэпутат Балтыкі». Драма (СССР, 1936 г.).
**16.15** «Жорсткі раманс». Музыка Андрэя Пятрова.
**17.20** «Маабіцкі сшытак». Ваенная драма (СССР, 1968 г.).
**18.50** «Грані Перамогі». Зброя Перамогі.
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.25** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 1-я серыя (СССР, 1967 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Мы - хлопцы жывучыя». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1974 г.).
**22.50** «Чырвоны бераг». Дакументальны фільм пра канцлагер каля пасёлка Чырвоны бераг.
**23.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.10** Пляжны футбол. Кубак Дружбы-2015. Турцыя - Эстонія.
**09.25** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Нью Ёрк.
**11.20** Пляжны футбол. Кубак Дружбы-2015. Беларусь - Іран.
**12.35** Спорт-мікс.
**12.55** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Інтэр - Рэал Мадрыд. Прамая трансляцыя.
**15.00** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Беларусь - Славенія.
**17.00** Сэлфі.
**17.20** Пляжны футбол. Кубак Дружбы - 2015. Беларусь - Турцыя.
**18.30** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Нью Ёрк.
**20.25** Час футболу.
**21.05** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Інтэр - Рэал Мадрыд.
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ

**07.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**07.50** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.05** Белы ветразь над Прыпяццю, д/ф.
**10.00** Невядомая Беларусь: І выберу Радзіму, д/ф.
**10.40** Назад у будучыню: Уніяцтва.
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Дамінік Геранім Радзівіл.
**11.05** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Крэва.
**11.20** Мова нанова: Рэклама.
**11.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.55** Праклятае нефрытавага скарпіёна, дэтэктыўная камедыя.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**16.45** 10 %, якія робяць героем, д/ф.
**18.15** Размовы эксперта: Аляксандр Дабравольскі.
**18.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**18.50** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Жыгімонт Ваза і вайна са Швецыяй.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Віленскі ўніверсітэт.
**19.10** Невядомая Беларусь: Станіслаў Шушкевіч, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** 54%: Ці задаволеныя беларускі сваім інтымным жыццём?
**21.50** Свабоду не стрымаць, д/ф.
**23.15** Народны альбом, мюзікл.
**00.15** Праклятае нефрытавага скарпіёна, дэтэктыўная камедыя.
**01.55** Студыя «Белсат».

## 28 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якія ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**17.40** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). 2-я серыя.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.40** Буйным планам.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.05** Сфера інтарэсаў.
**00.20** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Дэтэктыў «Асобы, якія ахоўваюць» (Расія).

---

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Серыял «Дом з лілеямі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Мастацкі фільм «Вялікі белы падман».
**00.35** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Насця». Расія, 1993г.
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 7». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Татальны распродаж».
**14.45** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Мінішчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Тэрыторыя памылак».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**00.55** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**10.25** Азбука густу.
**10.50** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.45** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.40** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.25** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.25** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**17.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 2-я серыя.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.45** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.40** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.05** Моладзевыя-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія.
**00.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 2-я серыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 1-я серыя (СССР, 1967 г.).
**09.30** «Старыя казкі». Гісторыя стварэнння фільма «Не пакідай..».
**09.55** «Не пакідай..». Музычная казка. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**12.15** Мультфільмы.
**12.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага архітэктара Беларусі Леаніда Левіна.
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.20** «Мы - хлопцы жывучыя». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1974 г.).
**14.35** «У адлюстраванні зорак». Канцэрт салістаў Марыінскага тэатра.
**16.05** «Старыя казкі». Гісторыя стварэнння фільма «Не пакідай..».
**16.30** «Не пакідай..». Музычная казка. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 2-я серыя (СССР, 1967 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Вечар цяжкага дня».
**21.30** «Маналог». Псіхалагічная драма (СССР, 1972 г.).
**23.05** «Незабыўны вечар бельканта». Канцэрт Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага архітэктара Беларусі Леаніда Левіна.
**00.20** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.05** PRO спорт. Навіны.
**07.20** Спорт-мікс.
**07.40** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Час футболу.
**08.40** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Сіці - Рома.
**10.35** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Баварыя - Інтэр.
**12.30** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Фіярэнціна - ПСЖ.
**14.25** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Лос Анджэлес Гэлэксі - Барселона.
**16.20** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - Сан-Хасэ.
**18.15** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Чэлсі - Нью Ёрк Рэд Бул.
**20.10** Спорт-кадр.
**20.40** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Рэал Мадрыд - Манчэстэр Сіці.
**22.30** Еўрапейскі покерны тур.
**23.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**09.15** 10 %, якія робяць героем, д/ф.
**10.45** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 2.
**11.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Жыгімонт Ваза і вайна са Швецыяй.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Віленскі ўніверсітэт.
**11.55** 54%: Ці задаволеныя беларускі сваім інтымным жыццём?
**12.20** Размовы эксперта: Аляксандр Дабравольскі.
**12.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**12.55** Час гонару, серыял.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.15** Беларусь – адзін верш, дак. цыкл: Віталь Рыжкоў.
**17.25** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 2.
**18.15** Пераемнікі, дакументальна-публіцыстычны цыкл: Павал Касцюкевіч.
**18.30** Аўтаспынам па Беларусі: Залатыя пары.
**18.50** Назад у будучыню: Войны з Турцыяй. Гетман Ян Караль Хадкевіч. Вайна з Масквой.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Полацкі езуіцкі ўніверсітэт.
**19.15** Невядомая Беларусь: І выберу Радзіму, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю правa (юрыдычная праграма).
**21.50** Загадкі беларускай гісторыі.
**22.05** Я люблю дэмакратыю. На шляху: Іран. Забароненыя словы, д/ф.
**22.55** Глыбокая вада, серыял.
**23.45** Мой Кесьлёўскі, д/ф.
**00.05** Студыя «Белсат».

TV

## 29 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому» .
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Меладраматычны серыял «Дзявочая паляванне» (Расія-Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**17.40** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). 3. серыя.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.10** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### Н (ОНТ)

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Серыял «Дом з лілеямі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Без сведак.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Мастацкі фільм «На самым дне».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Анжэліка, маркіза анёлаў». Францыя, 2013г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 8». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Татальны распродаж».
**14.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Каханне без перасадак». Францыя, 2013г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**00.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**10.35** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.50** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.45** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.45** Рэпарцёр.
**14.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.20** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**17.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 3. серыя.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.35** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.05** Моладзевыя-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія.
**00.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 3 серыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 2-я серыя (СССР, 1967 г.).
**09.55** «Дачнікі». Драма (СССР, 1966 г.).
**11.35** Мультфільмы.
**12.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Віктара Шматава.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.50** «Маналог». Псіхалагічная драма (СССР, 1972 г.).
**14.25** «Наперад у мінулае».
**14.50** «Прыцягненне Альберта Вейніка». Дакументальны фільм пра легендарнага беларускага вучонага.
**15.45** «Востраў скарбаў». Музычна-прыгодніцкі фільм (СССР, 1937 г.).
**17.10** Мультфільмы.
**17.40** «Дачнікі». Драма (СССР, 1966 г.).
**19.20** «Калейдаскоп».
**19.30** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 3-я серыя (СССР, 1967 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Вечар цяжкага дня».
**21.30** «Чужая радня». Меладрама (СССР, 1955 г.).
**23.05** «Спадчына песняроў» на «Маладзечна-2014». Канцэрт Беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры».
**00.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Віктара Шматава.
**00.55** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Козел пра футбол.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.10** Спорт-кадр.
**08.40** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Барселона - Чэлсі.
**10.35** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Амерыка - Бенфіка.
**12.30** Пляжны футбол. Кубак Дружбы-2015. Беларусь - Турцыя.
**13.40** Пляжны футбол. Кубак Дружбы-2015. Беларусь - Іран.
**14.55** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Мілан - Інтэр.
**16.45** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - Барселона.
**18.40** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Беларусь - Славенія.
**20.45** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Барселона - Чэлсі.
**22.40** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Амерыка - Бенфіка.
**00.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Белы ветразь над Прыпяццю, д/ф.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Я люблю дэмакратыю. На шляху: Іран. Забароненыя словы, д/ф.
**10.45** Невядомая Беларусь: І выберу Радзіму, д/ф.
**11.25** Назад у будучыню: Войны з Турцыяй. Гетман Ян Караль Хадкевіч. Вайна з Масквой.
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Полацкі езуіцкі ўніверсітэт.
**11.45** Маю правы (юрыдычная праграма).
**12.10** Глыбокая вада, серыял.
**12.55** Аўтаспынам па Беларусі: Залатыя пары.
**13.15** Мой Кесьлёўскі, д/ф.
**16.00** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Аперацыя «Фокслі».
**16.50** Басаножам па свеце: Бушмены.
**17.20** Апантаныя, дак. цыкл.
**17.25** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Крэва.
**17.40** Я люблю дэмакратыю. На шляху: Іран. Забароненыя словы, д/ф.
**18.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Культура. Адказнасць. СМІ.
**18.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Маскоўскія пакуты. Крывавы патоп.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тайныя таварыствы.
**19.25** Невядомая Беларусь: Рок назаўжды – 2, д/ф: ч. 2.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Людскія справы: Ватнікі, бандэраўцы, украінцы ці новарасійцы – хто ўцякае ў Беларусь?
**22.00** Камчатка. Жыццё ў цені вулканаў, д/ф.
**22.45** У Бога за мяжою, камедыя.
**00.40** Студыя «Белсат».

## 30 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Меладраматычны серыял «Дзявочая паляванне» (Расія-Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**17.40** Меладрама «Дзяўчына сярэдніх гадоў» (Расія). Заключная серыя.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.10** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### Н (ОНТ)

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Серыял «Дом з лілеямі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Без сведак.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ «Трэба разабрацца».
**21.30** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.25** Мастацкі фільм «Натарыус».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Каханне без перасадак». Францыя, 2013г.
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Салдаты 8». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Татальны распродаж».
**14.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**16.50** «Прыгоды дылетанта».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Не адступаць і не здавацца». ЗША - Ганконг, 1986г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**00.50** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**10.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.55** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.55** Беларуская кухня.
**14.25** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.15** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**17.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 4-я серыя.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.45** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.40** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.10** Моладзевыя-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія. Закл. серыя.
**01.00** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 4-я серыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 3-я серыя (СССР, 1967 г.).
**09.25** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Прыгоды ў горадзе, якога няма».
**09.50** «Прыгоды ў горадзе, якога няма». Музычная казка (СССР, 1974 г.).
**11.10** Мультфільмы.
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта і кампазітара Рыгора Шаршэўскага.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.40** «Чужая радня». Меладрама (СССР, 1955 г.).
**14.15** «Сустрэчы ў «Букваедзе». Нік Пярумаў.
**15.00** «Беспасажніца». Драма (СССР, 1936 г.).
**16.25** Мультфільмы.
**17.10** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Прыгоды ў горадзе, якога няма».
**17.35** «Прыгоды ў горадзе, якога няма». Музычная казка (СССР, 1974 г.).
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Сіла веры».
**19.35** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 4-я серыя, заключная (СССР, 1967 г.
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Вечар цяжкага дня».
**21.30** «Жанчыны». Меладрама (СССР, 1965 г.).
**23.10** «Вершы і музыка, каханне і Пецярбург». Марафон аўтарскай песні.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта і кампазітара Рыгора Шаршэўскага.
**00.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Сэлфі.
**07.55** PRO спорт. Навіны.
**08.10** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - ПСЖ.
**10.00** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Барселона - Чэлсі.
**11.55** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Бразілія - Расія.
**12.55** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Рэал Мадрыд - Мілан. Прамая трансляцыя.
**14.50** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Слуцк - Шахцёр.
**16.40** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Рэал Мадрыд - Мілан.
**18.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**20.30** Валейбол. Еўраліга. Грэцыя - Беларусь. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**22.30** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - ПСЖ.
**00.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Аперацыя «Фокслі».
**09.20** Басаножам па свеце (спазнаваўчая праграма): Бушмены.
**09.50** Камчатка. Жыццё ў цені вулканаў, д/ф.
**10.35** Невядомая Беларусь: Рок назаўжды – 2, д/ф: ч. 2.
**11.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Маскоўскія пакуты. Крывавы патоп.
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тайныя таварыствы.
**11.35** Людскія справы: Ватнікі, бандэраўцы, украінцы ці новарасійцы – хто ўцякае ў Беларусь?
**12.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Культура. Адказнасць. СМІ.
**12.40** У Бога за мяжою, камедыя.
**16.00** Акварыум, серыял.
**16.50** Басаножам па свеце (спазнаваўчая праграма): У краі духаў.
**17.20** Камчатка. Жыццё ў цені вулканаў, д/ф.
**18.05** Валерый і Ірына, рэпартаж.
**18.25** Мова нанова: Паэзія.
**18.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Вялікі князь літоўскі, польскі кароль Ян III Сабескі.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**19.10** Невядомая Беларусь: Рок назаўжды – 2, д/ф: ч. 2.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Таццяна Малашчанка і Вольга Мазурава: Беларускамоўная адукацыя для дзяцей – справа не для слабакоў.
**22.00** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**22.55** Навенькая, дэтэктыўны серыял.
**23.40** Дэкалог-89+, цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 9: Філіжанкі Ёка Она.
**00.05** Студыя «Белсат».

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (107)
(ліпень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info


## Змест



# Пра пусты піяр і сур'ёзную літаратуру

Малгажата БУХАЛІК

**Падумала, што варта трохі напісаць пра «Прэмію Гедройца», а найперш і перадусім пра ўзнагароджаную сёлета кнігу — «Час збіраць косці» Віктара Казько...**



Даводзілася чуць шмат папрокаў да першай аповесці з гэтай кнігі — маўляў, недалужная кампазіцыя, хаос, недапрацаваныя матывы і г.д. Усё гэта праўда. Толькі ў выпадку з «маладымі пісьменнікамі» гэта назавуць смелым эксперыментам, нават калі гэта ломка дзеля ломкі. А калі чалавек з даробкам зробіць нешта падобнае, адразу гучаць спачувальныя галасы: «Ну, не атрымалася», «З кожным бывае». Безумоўна, бывае, але давайце давядзем гэтую легкаважную паблажлівасць да лагічнага канца: калі аўтар да такой ступені не заўважае, што ў яго «не атрымалася», і не толькі публікуе гэты твор, але і распачынае ім кнігу, гэта азначае, што на старасць ён зусім аглух, аслеп і здурнеў. Або проста ведае, што робіць.

Пасля вайны аказалася, што ацалелыя ад Халакосту часта не могуць вярнуцца ў «нармальнае жыццё» пасля гадоў перабывання ў той самай паласе, у якой апынуўся герой Казько — дзе ўжо не лічыліся жывымі, але яшчэ і не памерлі, дзе былі асуджаныя на смерць, і не толькі ў вачах палюючых на іх нацыстаў, але і ва ўласных, і ў вачах тых, хто іх ратаваў. Страцілі супольную мову з рэштаю людзей, не маглі гаварыць на гэтай мове, бо яна ўжо была няздольная апісаць іх досвед.

Тэадор Адорна сказаў, што пісанне вершаў пасля Асвенцыма — гэта варварства, у тым ліку і ў эстэтычным сэнсе, бо класічныя, зграбныя літаратурныя формы рассыпаюцца ў пыл перад аблічам смерці, у мазгу, праедзеным канчатковым страхам. В. Казько напісаў сваю аповесць мовай гэтага канчатковага, апошняга страху. І каб гэтая мова была натуральнай, яму давялося рызыкнуць праслыць някемкім старым, у якога не атрымалася апавяданне. Але, маўляў, не бядуй, старэча, далей табе ўдалося пісаць больш чытэльна. А тым часам чалавек піша твор, які — калі вытрымаеш і прачытаеш — хоцькі-няхоцькі перанясе цябе ў пачакальню смерці.

...У мяне быў дзядзька, капітан карабля. З дзяцінства я слухала ягоныя аповеды з далёкіх вандровак: пра айсбергі, штармы, кітоў і іншыя цуды. Некалькі гадоў таму дзядзька захварэў, і за два месяцы да смерці, калі ўжо дакладна ведаў, што памірае, пачаў званіць мне і расказваць фактычна тыя самыя гісторыі, але ў неймаверна скалечанай форме. Зніклі сюжэты, прыгожыя вобразы, матывы, кульмінацыі, дакладна выверменныя лірычныя адступленні. Усё гэта пертварылася ў дэструкцыю, змрочны хаос з раптоўнымі выбухамі, праблiскамі нейкіх сцэн і матываў, якія расцягнутыя ў бясконцасць і вядуць у нікуды. І цяпер пасля тузіну старонак страшэнна цяжкога тэксту В. Казько я раптам усвядоміла, што ведаю гэтую мову. Сутыкнуўшыся раз, яе ні з чым не зблытаеш. Звычайна чалавек — на шчасце — ставіць інстынктыўны бар'ер заглядванню ў гэтую жахлівую паласу, і гэта цалкам здаровыя паводзіны, што паміраючых слухаюць, але не чуюць — бо, напэўна, не трэба туды зазіраць заўчасна. Нічога дзіўнага, што пра аповед «І нікога, хто ўбачыць мой страх» людзі пазбягаюць думаць, нават калі хваляць апошнія творы. Што, зрэшты, В. Казько дакладна прадбачыў, мяркуючы з назвы аповеда...

Сёлета, першы раз у гісторыі «Прэміі Гедройца», журы не толькі галасавала, але шмат і шчыра размаўляла пра кнігі. У мяне ўпершыню ўзнікла ўражанне, што мы вырашалі, прыняўшы да ўвагі аргументацыю адзін аднаго. Гэта важна, бо публічныя дыскусіі часта тычацца аўтараў, працэдураў, цэнтраў сіл, піяру і г.д., а не самога тэксту кніжак, якія ва ўсёй гэтай куламесе знікае. А кніга пачынаецца толькі тады, калі яе чытае чытач!

Два гады таму я падумала, што прэмія існуе галоўным чынам дзеля таго, каб людзі чыталі беларускую літаратуру, якая прытым цяжкадаступная, і таму на сайт трэба павесіць вялікія ўрыўкі з кніг-прэтэндэнтак. Я спраўдзіла беларускія законы аб аўтарскіх правах і папрасіла аўтараў даслаць фрагменты на 10 старонак плюс кароткія біяграфіі; паралельна прасіла ў выдаўцоў дазволу на публікацыю. Працы было шмат, але я ўпэўненая, што даступнасць тэксту і магчымасць спакойнага чытання найважнейшыя, бо тады кнігі гавораць самі за сябе. Вось, да прыкладу, нядаўна я даведалася, што ў Варшаўскім універсітэце студэнты атрымліваюць заданне прачытаць гэтыя фрагменты кніг, ацаніць па балах і абгрунтаваць свой выбар — і ім цікава, бо гэта і ёсць жывая літаратура ў стадыі нараджэння, першага вольнага кантакта з чытачом, пакуль яшчэ гісторыкі і крытыкі не расставілі ўсё па сваіх месцах. Цяпер размяшчэннем урыўкаў на сайце займаецца аргкамітэт, які выстаўляе менш — толькі 6 кніг з шорт-ліста (Чаму? Можа, варта хаця б 12, лонг-ліст?); да таго ж кожны ўрывак нашмат карацейшы, на 2-5 старонак (Чаму?), і штогод пасля ўручэння прэміі тэксты выдаляюць; зноў жа — навошта? Гэта ж найлепшая рэклама і для чытачоў, і для замежных выдаўцоў. І пакінуць для чытання ўрыўкі кніг усіх папярэдніх гадоў нічога не каштуе!

У той жа час да рэцэнзій на афіцыйным сайце прэміі я стаўлюся скептычна. Лічу, што іх увогуле там не павінна быць, бо іх месца — у прэсе. І гэта незалежна ад таго, «пазітыўныя» яны ці «негатыўныя», бо гэта паняткі адносныя, ды, зрэшты, рэцэнзія часта больш гаворыць пра крытыка, чым пра кнігу. Сёлета чытачы, бачачы адну-адзіную знішчальную рэцэнзію на кнігу з шорт-ліста сярод рэшты ўхвальных і не ведаючы, што аргкамітэт, які ўкладае старонку, цалкам незалежны ад журы (мы не атрымліваем ніякай інфармацыі ні пра яго асабовы склад, ні пра ягоную працу), мог бы падумаць, што ў журы шызафрэнія. Пры гэтым, падкрэсліваю, я не маю ніякай прэтэнзіі да Марыі Мартысевіч — гэта яе законнае права меркаваць пра кнігу В. Казько так, як яна мяркуе, і публікавацца там, дзе лічыць патрэбным, і я першая буду бараніць гэтае яе права. Віна ляжыць выключна на аргкамітэце, які, відавочна, не разумее, што «Прэмія Гедройца» павінна служыць чэснай прамоцыі кніг, а не гульням з белым і чорным піярам...

І яшчэ. Гадамі беларусы, якія прыязджаюць на Захад, пазіцыянуюць свае пісьменніцтва як абсалютна новую з'яву, якая раптам паўстала пад канец 1990-х і з кожным годам расцвітае. Раней, натуральна, была «Песня пра зубра», Багдановіч і нават Быкаў (Захад яго памятае, таму і выпадае згадаць), а потым нічога, і раптам — мы, мы, мы! Я намагалася далікатна растлумачыць, што еўрапейцы не такія недарэкі, каб паверыць у літаратуру зніадкуль, і што вундэркінды, якія бачаць і чуюць толькі сябе, выглядаюць неадэкватна. Урэшце я адчула сябе няёмка і пачала перакладаць Уладзіміра Караткевіча, каб гэта набыло хоць нейкую цэласнасць. А потым, тры гады таму, пачала чытаць кнігі, пададзеныя на «Прэмію Гедройца», і ўпершыню паехала ў Беларусь. І тады аказалася, што ўсё ў вас ёсць, увесь шырокі нармальны літаратурны працэс — толькі што ён замоўчваецца ў «экспартным варыянце».

Зразумейце мяне правільна: гэта не той выпадак, калі варта смела «скідваць дзядоў з парахода сучаснасці». Тады давялося б скідваць па-сапраўднаму — а дзяды ў вас моцныя, магло б і не атрымацца. Таму іх проста замоўчваюць, як бы дзіўна гэта ні гучала. Вашыя вундэркінды здолелі прабіць дарогу праз Шэнген і паказаць сябе і толькі сябе — а гэта не працуе. Яны, натуральна, выбіваюць гранты, запрашэнні, і іх будуць запрашаць, бо выступаюць яны прафесійна і прыгожа, але асаблівай карысці беларускай літаратуры з таго няма. Самі хлопцы праходзяць — а вось іх кнігі ўжо не. І вось мяне бянтэжыць гэты разрыў у вашым літпрацэсе: тыя, хто ўмее пісаць, хто можа па-сапраўднаму паказаць у літаратуры проста вас, сённяшніх беларусаў — яны сядзяць і пішуць ціхамірна ў куточку; а вундэркінды крычаць па ўсёй Еўропе, што апрача іх нікога няма. Ну няма дык няма, кажа Еўропа. І нічога не зменіцца, пакуль вы не пачнеце прапаноўваць не яркі пусты піяр, а сур'ёзную літаратуру. Якая ў вас ёсць.

**www.nn.by**

# Пасяджэнне Рады СБП

**Адбылося чарговае пасяджэнне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», на якім прысутнічалі сябры Рады, прыёмнай камісіі, а таксама старшыні абласных аддзяленняў СБП.**

Творчую арганізацыю папоўнілі шэсць літаратараў. Былі прынятыя ў шэрагі сяброў СБП Міхаіл Валодзін, Валеры Гапееў, Ігар Канановіч, Аляксей Шэін, Уладзімір Хільмановіч і Леанарда Юргелевіч.

На пасяджэнні была заслуханая справаздача старшыні СБП Барыса Сачанкі пра дзейнасць арганізацыі ў перыяд са снежня 2014 па чэрвень 2015, абмеркаваныя іншыя пытанні.

**Прэс-служба СБП**



# Трэці выпуск Школы маладога пісьменніка

**Адзінаццаць маладых празаікаў дайшлі да фініша ў навучальным курсе і прадставілі сваю творчасць на выпускной вечарыне Школы маладога пісьменніка, якая прайшла ў мінскім музеі Петруся Броўкі.**

Гераінямі і героямі імпрэзы сталіся Крысціна Бандурына, Надзея Бароўка, Алена Візгалава, Аляксандр Дамброўскі, Ганна Лявоненка, Вераніка Ляўчук, Аліса Мініна (Яна Еўдакімовіч), Павел Слізевіч, Раман Стэфаненка, Алена Цішэўская і Вольга Чарнова.

Кожны з цяпер ужо «сертыфікаваных» аўтараў Школы не толькі прэзентаваў на вечарыне свой найлепшы тэкст, але і дзяліўся ўспамінамі аб вясёлым і карысным на занятках, расказваў, чаму навучыўся і па чым будзе сумаваць, згадваў майстар класы, якія запомніліся найбольш.

Вераніка Ляўчук агучыла бадай галоўнае светапогляднае адкрыццё маладых аўтараў: пісьменства — гэта ў першую чаргу праца, гэткая ж сур'ёзная, як і ўсе астатнія.

Не абышлося без вясёлых казусаў. Надзея Бароўка згадвала, як летась дасла́ла ўступнае эсэ ў Школу... за Мікіту Волкава, якога ўрэшце прынялі і які стаўся адным з самых яркіх выпускнікоў мінулага курса. У гэтым годзе Надзея вырашыла павучыцца на пісьменніцу сама і, з поспехам вытрымаўшы ўступны конкурс, таксама атрымала школьны сертыфікат.

Сам жа Мікіта, які прыйшоў прывітаць сёлетні курс, расказаў пра тое, як дзякуючы доўгім спісам літаратуры, рэкамендаванай для чытання Ганнай Бутырчык, стаў правадніком у свет сучаснай беларускай літаратуры для сваёй сям'і і сваёй колішняй школьнай настаўніцы па беларускай мове.

Трэці год працу праекта пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў каардынуюць Алена Казлова і Юля Цімафеева, якія выступілі і вядоўцамі выпускнога вечара. Выкладчыцкая каманда сёлета і летась складалася з дацэнта кафедры замежнай літаратуры філфака БДУ Ганны Бутырчык і празаікаў Наталкі Бабінай і Людмілы Рублеўскай.

З прывітальным словам выступілі на імпрэзе першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч, а таксама пісьменнік і грамадскі дзяяч Уладзімір Някляеў.

Завершыўся вечар у музеі «музычным дэсертам» ад выпускніка Аляксандра Дамброўскага.

**Паводле ШМП**

## ЖНІВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў**

Міраслаў Вячаслававіч Адамчык (Міраслаў Шайбак) (нар. 6.08.1965)
Анатоль Леанідавіч Верабей (нар. 10.08.1950)
Леанід Міхайлавіч Галубовіч (нар. 12.08.1950)
Аляксандр Пятровіч Жамойцін (нар. 17.08.1955)
Алена Іванаўна Гінько (нар. 22.08.1965)
Галіна Анатольеўна Каржанеўская (нар. 27.08.1950)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# Прэмія «Воін святла» памяці Міхаіла Жызнеўскага

**1-2 ліпеня ў Нацыянальным саюзе пісьменнікаў Украіны адбыўся Міжнародны беларуска-ўкраінскі семінар па праблемах развіцця сучаснай літаратуры.**

Удзел узялі вядучыя ўкраінскія і беларускія літаратуразнаўцы, маладыя навукоўцы, крытыкі, празаікі, драматургі і паэты.

У межах семінара 1 ліпеня разглядалася паэзія Украіны і Беларусі, 2 ліпеня — проза і драматургія. З украінскага боку з дакладамі выступілі даследчыкі: дактары навук, прафесары Аляксандр Астаф'еў, Алена Бондарава, Антаніна Гурбанська, Анатоль Майсіенка, Валадзімір Марэнец, Юрый Кузняцоў, Яраслаў Палішчук і кандыдаты навук Валадзімір Даніленка, Наталля Гараднюк, Ніна Козачук, Дзмітро Драздоўскі, Святлана Жыгунова, Пятро Сарока, Наталля Ержыкіўська, Аксана Пухонська, Алена Рыжко.

Беларусь на семінары прадстаўлялі навукоўцы Лявон Баршчэўскі, Алесь Пашкевіч, Ала Петрушкевіч, Анатоль Івашчанка, Ціхан Чарнякевіч і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка).

Да мерапрыемства таксама далучылася ўкраінская творчая моладзь: бандурыст Яраслаў Джусь, які адмыслова для беларускіх гасцей выконваў папуры з «Ляпісаў» і «Песняроў», паэты Аксана Баравец, Святлана Дыдух-Раманенка, Вано Кругер, Ала Мікалаенка, Таццяна Шапціцкая.

На думку арганізатара семінара Валадзіміра Даніленкі, «перад украінскай літаратурай зараз стаіць задача назаўжды парваць з савецкім мінулым, з «рускім светам» і стварыць новы герaічны эпас, які сфармуе пакаленне палітычнай і культурнай нацыі, стане паўнапраўнай часткай еўрапейскай цывілізацыі і ў больш шырокім плане — Заходняга свету». Беларускія ўдзельнікі семінара адзначылі, што Украіна для іх ёсць новым геапалітычным цэнтрам, які дапаможа Беларусі выжыць ва ўмовах татальнай русіфікацыі.

Лявон Баршчэўскі падзяліўся сваімі ўражаннямі ад наведвання кіеўскага форуму з чытачамі «ЛБ»: «Украінска-беларускі семінар у Кіеве, несумненна, пазначае сабою істотную вяху ў супастаўленні досведу літаратур абедзвюх краін на фоне тых грамадска-палітычных працэсаў, што ў іх адбываюцца. Мне асабіста было вельмі цікава паслухаць падагульняльна-аглядныя спавешчанні ўкраінскіх калегаў, у якіх называліся аўтары і характарызаваліся творы, што ўзніклі ў перыяд пасля першага Майдану, г. зн., у апошнія 10 гадоў. У выступе кіраўніка Кіеўскай арганізацыі НСПУ Валадзіміра Даніленкі выказвалася абгрунтаваная трывога, што нават новая дэмакратычная абраная ўлада Украіны вельмі слаба разумее ролю культуры і, у прыватнасці, літаратуры, у пераломны час украінскай гісторыі, які, безумоўна, надышоў пасля Еўрамайдану 2014 года і пачатку расійскай акупацыі частак тэрыторыі Украіны.

З іншага боку, некалькі спавешчанняў былі прысвечаны беларускай літаратуры. Уразіў даклад Анатоля Майсіенкі, у якім ён выявіў грунтоўнае веданне паэзіі беларускіх аўтараў розных эпох, асабліва ў галіне іх фармальных пошукаў. Прыемна адзначыць, што ў поле зацікаўлення украінскіх даследчыкаў, у т.л. маладых, трапляюць аўтары, якія жывуць не толькі ў беларускай сталіцы».

На аснове дакладаў, што прагучалі на семінары, пад эгідай Інстытута літаратуры НАН Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі і Інстытута філалогіі КНУ імя Т. Г. Шаўчэнкі будзе выдадзены навуковы зборнік «Заходні трамплін», у які ўвойдуць даследаванні тэндэнцый развіцця сучаснай украінскай літаратуры.

Па выніках украінскага-беларускага семінара бакі вырашылі 26 студзеня ўручаць штогадовую літаратурную прэмію «Воін святла» памяці Героя Нябеснай Сотні беларуса Міхаіла Жызнеўскага (нар. 26.01.1988). Гэтая ўзнагарода будзе прысуджацца за кнігу ўкраінскага або беларускага аўтара, у якой дзейнічае высакародны, смелы герой, які змагаецца за справядлівасць, прапаведуючы агульначалавечыя каштоўнасці, і з'яўляецца ўзорам для пераймання.

...На мяжы беларускія мытнікі дужа зацікавіліся кнігамі, падараванымі ўкраінскімі сябрамі, але, пачытаўшы хвілін дваццаць пра фартэцы Другой сусветнай ды пагартаўшы кнігі ўкраінскіх літаратараў, інфармацыі, што можа нанесці шкоду спакою ды дабрабыту нашай Сінявокай, не знайшлі ды ўсё вярнулі.

**Прэс-служба НСПУ, уласн. інф.**

# Не сырам адзіным...

**Аб зніжэнні цікавасці да нашай духоўнай спадчыны не раз узнімалася пытанне на высокіх трыбунах, але сістэмны крызіс чытання, на жаль, усё больш пашыраецца.**

З чаго ж пачынаць, каб прышчапіць любоў да чытання ў дзяцей, абудзіць цікавасць да літаратуры ў апалагетаў нізкапробных тэлесерыялаў, змагацца з залежнасцю ад камп'ютараў?

На адным з сыраробных камбінатаў нашай рэспублікі, размешчаным у невялікім раённым гарадку Брэсцкай вобласці, з паэтычнай назвай Бяроза, не сталі доўга разважаць над гэтым пытаннем і зацвердзілі добрую традыцыю: правядзенне штогадовага Міжнароднага літаратурна-музычнага фэсту «Славянскі вянок». У чэрвені гэтага года Бярозаўскі сыраробны камбінат, нягледзячы на эканамічныя праблемы, перажываныя разам з краінай, зноў прымаў гасцей Міжнароднага фестывалю. У Бярозу былі запрошаны літаратары не толькі з Беларусі, Расіі і Украіны, але і з суседняй Польшчы. З уступным словам выступіў Леанід Грэчка, адзін з арганізатараў і ідэйных натхняльнікаў літаратурнага свята. Сучасную беларускую літаратуру прадстаўлялі Анатоль Крэйдзіч, бярозаўская паэтка Алена Усцілоўская, Наталля Кандрашук, Алёна Папко, лаўрэат конкурсу Максіма Багдановіча 2014 года. У складзе запрошаных быў і Георгій Ліхтаровіч, які, на вялікі жаль, з-за хваробы не змог прыняць удзел у літаратурным свяце. Са сваімі новымі творамі гледачоў пазнаёмілі расійскі паэт Уладзімір Сарочкін, член Саюза пісьменнікаў Расіі, кіраўнік Бранскага абласнога аддзялення СП, і Наталля Мішына, уганараваная стыпендыяй імя Праскурына, заснаванай адміністрацыяй Бранскай вобласці. Украінскую паэзію прадстаўлялі Юля Кручак, паэтка, мастачка, Аксана Гаджый, паэт, дызайнер, журналіст, адна з лепшых рэкламістаў Украіны, а таксама Лэсік Панасюк, неаднаразовы лаўрэат паэтычных конкурсаў, удзельнік многіх фэстаў і мастацкіх акцый, разам з Аксанай Гаджый — заснавальнік групы «Elk+Deer». З сучаснымі дасягненнямі польскай культуры гледачоў і гасцей фестывалю пазнаёміла Барбара Драздзінская, старшыня таварыства «Польшча — Беларусь» у Лодзі, спявачка, якая актыўна прапагандуе беларускую культуру ў Польшчы; Марцін Бальчэўскі, польскі празаік, фатограф і журналіст, дырэктар арганізацыйнага бюро фестывалю «Пульс літаратуры», і Рафал Гавін, паэт, крытык і фельетаніст.

У суквецці «Славянскага вянка» на гэты раз упершыню былі ўплецены творы не толькі майстроў прозы і паэзіі, але і тых, хто робіць свае першыя крокі на літаратурнай ніве. Са сваімі арыгінальнымі вершамі публіку пазнаёміла дзевяцікласніца Ксенія Курневіч.

Усе літаратурныя выступленні перамяжоўваліся музычнымі творамі, на прафесійным узроўні выкананымі ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці сыраробнага прадпрыемства. Асабліва ўпрыгожыў паэтычныя чытанні сваімі нумарамі Белаазёрскі ўзорны ансамбль народнага танца «Жуҏавінка».

**Валянціна Осіпава**

# Удумлівы даследчык літаратуры: Юльян Пшыркоў

**Літаратуразнаўцы, што прыходзілі ў навуку на скрыжаванні трыццатых і саракавых гадоў, вызначаліся ўжо новымі поглядамі на літаратуру і літаратурны працэс.**

Яшчэ падпарадкоўваючыся гнятліваму дыктату, яны ўжо былі гатовыя выступіць супраць самых адыёзных ачарніцеляў беларускай літаратуры. Сярод гэтых пачынальнікаў быў і Юльян Пшыркоў.

Нарадзіўся ён 31 кастрычніка 1912 года ў вёсцы Кісціні на Рагачоўшчыне, якая тады ўваходзіла ў Магілёўскую губерню. Як казаў сам навуковец, яму пашанцавала ў жыцці: вучыўся ў Свержаньскай школе, дзе ў той час быў настаўнікам М. Ц. Лынькоў. Кніг для чытання тады амаль не было, таму Міхась Ціханавіч пасля заняткаў па дзве гадзіны чытаў для сваіх выхаванцаў мастацкія творы.



Ю. Пшыркоў, 1940 г.

Пасля заканчэння школы Ю. Пшыркоў паступіў на двухгадовыя педагагічныя курсы ў Рагачове, з 1930 года настаўнічаў, стаў студэнтам Ленінградскага ІФЛІ, які пазней быў рэарганізаваны ў філалагічны факультэт універсітэта горада на Няве, дыпломную працу пісаў па творчасці Якуба Коласа. І гэта стала яго жыццёвым захапленнем. Згадваў ён і пра тое, што летам таго ж года прыязджаў у Мінск, сустракаўся з Якубам Коласам, які зрабіў на яго надзвычайнае ўражанне глыбокім веданнем народнага жыцця.

Выпускніка ўніверсітэта Ю. Пшыркова накіравалі на кафедру літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Неўзабаве малады выкладчык апублікаваў у часопісе «Полымя рэвалюцыі» артыкулы «Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» і «Дарэвалюцыйныя паэмы Янкі Купалы». Тады гэта было новае слова пра творчасць народных песняроў, паколькі даследчык катэгарычна адпрэчваў вульгарызатарскія высновы пра нібыта дробнабуржуазны пафас іх твораў, паэтызацыю кулацтва ў «Новай зямлі». Наколькі дазваляў памер артыкула, Ю. Пшыркоў паказаў, што Колас паэтызуе працу селяніна.

У 1940 годзе Ю. Пшыркова прызвалі ў войска; ён ваяваў пад Ленінградам і Кёнігсбергам, быў тройчы паранены. Быў звольнены ў запас у 1945 годзе.

Якуб Колас, тады віцэ-прэзідэнт АН БССР, прапанаваў М. Лынькову, дырэктару Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва, залічыць Юльяна Сяргеевіча на працу навуковым супрацоўнікам, а ў 1954 годзе Пшыркоў быў прызначаны загадчыкам сектара дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі.

Ю. Пшыркоў працаваў раўнацэнна як у абсягах вывучэння даўняй літаратуры, так і ў межах аналізу навейшых беларускіх твораў. Ужо ў 1946 годзе ён друкуе артыкулы «Янка Купала — рэдактар «Нашай Нівы», «Новыя паэмы Якуба Коласа», «Першы беларускі раман» і «Выдатны твор беларускай літаратуры».

Пры ўсёй вялікай увазе да праблем сучаснасці (падрыхтоўка матэрыялаў для сярэдняй і вышэйшай школы, напісанне падручнікаў і да т. п.) для даследчыка творчасць Я. Коласа была прыярытэтнай: ён змяшчаў артыкулы ў перыядычных выданнях, а ў 1951 годзе выдаў манаграфію «Якуб Колас: Жыццё і творчасць» — першае абʼёмнае і для таго часу найбольш абʼектыўнае ў Беларусі даследаванне паэзіі і прозы народнага песняра. Вядома, імкнучыся абараніць знакамітага творцу ад вульгарызатараў, даследчык часам перавялічваў рэвалюцыйную дзейнасць Якуба Коласа, але гэта вымагалася і тагачаснай сітуацыяй. Галоўнае было ў іншым. Аналізуючы вершы пачатку XX стагоддзя, Ю. Пшыркоў падкрэслівае, што «Колас паказвае ўзросшую грамадскую свядомасць і палітычную актыўнасць селяніна», які мог ужо змагацца за ўласны гонар, за чалавечыя правы. Пераканаўча гучала і агульная выснова пра творчасць Я. Коласа пасля перыяду, дзе сцвярджалася, што яна «народная па сваёй сутнасці і змесце», што «вершы і апавяданні Якуба Коласа разглядаемага перыяду заключаюць у сабе пачаткі ўсіх тых паэтычных якасцей, якія развіваліся ў яго пазнейшых творах».

У пяцідзясятыя гады перад беларускай літаратурнай навукай стаяла аграмадная праблема: урэшце даць абагульняльнае ўяўленне пра шляхі беларускай літаратуры на працягу стагоддзяў, той не здзейсненай праграмы, якая намячалася ў 20-я — 30-я гады. Новы час дазваляў нешта перагледзець, унесці новыя аспекты ў ацэнку твораў мінулага. Такім падвядзеннем шматгадовых даследаванняў стала калектыўная манаграфія «Очерки истории белорусской советской литературы» (Масква, 1954). Ужо год выдання наводзіць на думку, што ўсе артыкулы першай сціслай гісторыі беларускай літаратуры рыхтаваліся яшчэ ў змрочныя часы таталітарызму, таму і многія высновы сёння не прымаюцца. Але было зроблена галоўнае: у рэшце рэшт прабіта сцяна маўчання пра многія дасягненні беларускай літаратуры. Ю. Пшыркову належаць у манаграфіі абагульняльныя артыкулы «Літаратура перыяду грамадзянскай вайны», «Літаратура перыяду аднаўлення народнай гаспадаркі і сацыялістычнай індустрыялізацыі (1921–1929 гг)», «Міхась Лынькоў». Прыняў удзел Ю. Пшыркоў і ў выданні «Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» (1956), дзе да ранейшых яго даследаванняў прыбавіўся артыкул «Якуб Колас». М. Мушынскі адзначаў, што ў гэтым выданні аўтары ўлічылі пралікі папярэдняга, але, насамрэч, перагляду пазіцый не было. Проста павыкідвалі спасылкі на працы «правадыра пралетарыяту свету»…

У 1960 годзе Ю. Пшыркоў выдаў фундаментальнае даследаванне «Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)», у якім раскрыў вытокі і станаўленне жанру аповесці і рамана ў беларускай прозе. Кожны раздзел новай манаграфіі прысвечаны канкрэтнай праблеме. Так, у першым раздзеле літаратуразнаўца разглядае асаблівасці апавяданняў пачатку XX стагоддзя, тады, вядома, дакастрычніцкіх. Ён адзначае, што большасць апавяданняў вырастала з фальклору, бо і сюжэты браліся з народных казак, легенд і паданняў. Гэта даследчык заўважае ў творчасці Ядвігіна Ш., Ул. Галубка, Каруся Каганца і нават у некаторых ранніх апавяданнях Змітрака Бядулі. Іншы падыход бачыць у апавяданнях Якуба Коласа, калі аўтар нават у творах з анекдатычным пачаткам здолеў дакладна выявіць псіхалогію чалавека («Недаступны», «Слабода», «Соцкі падвёў»), і разам з тым сцвярджае, што да пачатку дваццатых гадоў XX стагоддзя беларускія празаікі набылі адпаведны вопыт, што адбылося не без уплыву суседніх літаратур, у першую чаргу ўкраінскай і рускай.

Справядліва Ю. Пшыркоў адзначае, што першыя спробы авалодаць вялікім празаічным жанрам беларускія пісьменнікі рабілі яшчэ ў дакастрычніцкі час (Ядвігін Ш, Цішка Гартны), але асноўныя пошукі ў гэтым жанры адбываюцца ў другой палове дваццатых гадоў, зноў жа намаганнямі Змітрака Бядулі, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, маладых пісьменнікаў Міхася Зарэцкага, Міхася Чарота, Кузьмы Чорнага і іншых. У прыватнасці, разглядаючы раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны», даследчык адзначыў важнасць выступлення ў друку пісьменніка ў вялікім жанры, яго істотны ўклад у далейшае яго развіццё: «Сокі цаліны» Ц. Гартнага — гэта не толькі першы буйны твор, але і першы твор, галоўным героем якога зʼяўляецца рабочы-рэвалюцыянер, што для беларускай літаратуры пачатку 20-х гадоў было сапраўдным наватарствам». Прааналізаваўшы раман, Ю. Пшыркоў прыходзіць да вываду, што пісьменніку найбольш удаюцца бытапісальніцкія карціны, хоць часам гэта сцягвае яго да звычайнага натуралізму. У працэсе стварэння вобраза галоўнага героя як важака пралетарскіх мас пісьменнік, на думку даследчыка, штучна ўзвышае свайго героя, гучныя заявы якога не пацвярджаюцца дзеяннямі, недастаткова распрацавана і мова твора. «Аднак, — зазначае літаратуразнаўца, — нельга і замоўчваць раман. <…> Хоць ідэі аўтара не знайшлі ўвасаблення ў яркіх мастацкіх вобразах, тым не менш у гісторыі станаўлення беларускай мастацкай прозы раман Ц. Гартнага павінен займаць значнае месца». Глыбока змястоўна прааналізаваны і раман Р. Мурашкі «Сын», раскрыта яго ідэйна мастацкая накіраванасць, ахарактарызаваны шматлікія вобразы, адзначана, што «партрэты адмоўных герояў маляваліся ў груба натуралістычным плане. Партрэты станоўчых герояў пісаліся яркімі светлымі фарбамі». Істотна ўзбагаціў раманістыку, зазначае даследчык, Міхась Зарэцкі раманам «Сцежкі-дарожкі», адным з лепшых твораў дваццатых гадоў, у якім глыбока раскрыты драматызм падзей часу рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Майстэрства пісьменніка праявілася і ў сюжэтна-кампазіцыйнай будове твора, зладжанасці шматлікіх сюжэтных ліній. Адзначыў літаратуразнаўца і поспехі маладога пісьменніка ў абмалёўцы характараў даволі густа населенага рамана. Акрэсліў таксама і той пакутлівы шлях да пазнання сапраўднай рэвалюцыйнай праўды, які прайшоў галоўны герой Васіль Лясніцкі. Гэта быў першы грунтоўны разгляд твора пасля яго вяртання з небыцця. Вядома, у пазнейшы час даследчыкі шмат у чым удакладнілі вызначэнні, паглыбілі мастацкі аналіз рамана.

Вялікім укладам у жанр рамана лічыў літаратуразнаўца «Зямлю» Кузьмы Чорнага, у якім убачыў выразныя коласаўскія традыцыі. Грунтоўна разгледжаны таксама і аповесці Я. Коласа «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся», у якіх даследчык вызначыў яскравыя прыкметы рамана. Літаратуразнаўца падкрэслівае, што не ўсе з напісаных тады твораў мелі аднолькавую мастацкую вартасць, асабліва прыгодніцкія творы маладнякоўцаў, але важнай была спроба абжывання матэрыялу ў новай жанравай форме, нават няўдачы асобных пісьменнікаў мелі станоўчы вынік, бо на такіх памылках вучыліся ўсе разам. Праўда, і ў гэтых разважаннях навукоўцы яшчэ многа прарывалася ад ідэалагічных установак. Недаацаніў Пшыркоў і першы раман Кузьмы Чорнага «Сястра», аповесць Міхася Зарэцкага «Голы звер», палічыўшы іх няўдачай пісьменнікаў. Але гэтыя асобныя накладкі ніколькі не змяншаюць важнасць праробленай даследчыкам работы. Вядома, многія творы выпалі з поля зроку даследчыка, бо да таго часу не былі рэабілітаваныя. У прыватнасці, Ю. Пшыркоў напісаў змястоўную прадмову да першага выдання рамана М. Гарэцкага «Віленскія камунары», у якой фрагментарна выклаў звесткі з жыцця і творчасці пісьменніка, раскрыў ролю пісьменніка ў станаўленні беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, самабытнасць яго таленту, адзначыўшы, што «Максім Гарэцкі — пісьменнік арыгінальны і самабытны. Яго творам уласціва моцная прывязанасць да канкрэтных жыццёвых фактаў, але прыватны факт падаецца ў плане шырокага грамадскага асвятлення», а ў цэлым твор «значна пашырае і жанравыя, і паэтычныя далягляды беларускай мастацкай прозы».

**Пачатак.**

**Працяг на стар. 12 (4) »**

# Удумлівы даследчык літаратуры

« Працяг. Пачатак на стар. 11 (3)

Вядома, літаратуразнавец заўсёды павінен трымаць руку на пульсе часу, уважліва ўглядацца ў праявы літаратурнага працэсу. Таму поруч з сваімі традыцыйнымі абавязкамі Ю. Пшыркоў цікавіўся ўсім, што адбывалася ў літаратурным жыцці нашай дзяржавы. Ён адгукаўся на кожную з'яву, якая ўзбагачала літаратурны працэс. Ён годна прадставіў чытачу гістарычную аповесць занядбанага беларускага пісьменніка Барыса Мікуліча, які пасля жорсткіх таталітарных праследаванняў так і не адважыўся вярнуцца ў Беларусь. Да публікацыі ў «Полымі» гістарычнай аповесці Б. Мікуліча «Адвечнае» Ю. Пшыркоў змясціў грунтоўны артыкул «Гістарычная аповесць Барыса Мікуліча», у якім у сціслай форме змог паказаць усю складанасць усприймання гісторыі ў навейшым часе, адзначыўшы майстэрства пісьменніка ў выяўленні гістарычных рэалій.

З той жа зацікаўленасцю ён пісаў і пра дзіцячых пісьменнікаў, паколькі бачыў перспектыву грамадскага развіцця, дзе падрастаючае пакаленне заўсёды павінна мець некалі рашаючае значэнне ў вырашэнні ўсіх грамадскіх вузлоў і непаразуменняў. Ці не таму ён так зацікаўлена пісаў пра кнігу Вісарыёна Гарбука «Хто такія мы», што ў творчасці гэтага мужнага чалавека захавалася бязмерна шчодрая душа? Аўтар нястомна вучыць сваіх маленькіх сяброў дабрыні, веры ў будучыню, спрадвечным каштоўнасцям чалавецтва. Пры гэтым, адзначае крытык, у апавяданнях В. Гарбука ёсць акрэсленасць пазіцыі, вера ў шчаслівую будучыню герояў, пра якіх ён піша. І ўсё гэта не дакучліва, без дыдактычных пераборaў.

Як знаўца літаратурнага працэсу, адзначае Ю. Пшыркоў і вартасць навуковага, публіцыстычнага, літаратурна-крытычнага слова аўтарытэтных пісьменнікаў. Гэта яўна вынікае з яго рэцэнзіі на зборнік артыкулаў П. Глебкі «Паэзія барацьбы і перамогі». Ён вызначае жанравую прыналежнасць змешчанага ў зборніку: даклады на высокіх форумах, прадмовы да кніг літаратараў, з якімі некалі ішоў побач, рэцэнзіі на творы сваіх сучаснікаў. Крытык сцвярджае, што ў многіх выпадках слова П. Глебкі было вызначальным, уплывала на фарміраванне пасляваеннага пакалення літаратуразнаўцаў. Перш за ўсё гэта яго здольнасць расстаўляць галоўныя аспекты ў даследаванні творчасці класікаў, што асабліва характэрна для артыкула «У мове Янкі Купалы», у якім засталіся актуальнымі абазначаныя ім праблемы. Жыццёвымі аказаліся і яго футуралагічныя высновы: па першых зборніках паэтаў мог вызначыць будучыню творцы, што заўважалася ў яго выказваннях пра А. Куляшова і П. Панчанку.

Літаратурная крытыка к гэтаму часу сцвердзіла сябе як суверэнны паўнамоцны жанр, таму ў яе гісторыі, на думку Ю. Пшыркова, адметным бачыцца артыкул П. Глебкі «Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі» (1945) як адзін з выключных па прадстаўленню найбольш значных постацяў тады мала вядомага мастацкага працэсу Заходняй Беларусі, таму доўгі час і быў «адзінай даведачнай крыніцай». Зрэшты, ён адзначае яшчэ адну якасць П. Глебкі як даследчыка і чалавека: мужнасць прызнаваць свае памылкі, што выявілася ў артыкуле пра творчасць Уладзіміра Дубоўкі, пра якога негатыўна пісаў на пачатку трыццатых гадоў тады малады паэт П. Глебка. Асоба У. Дубоўкі выклікала асаблівую зацікаўленасць літаратуразнаўцы. Ён сачыў за творчасцю выбітнага былога паэта-ўзвышаўца, які пасля рэабілітацыі аддаваў перавагу творчасці для дзяцей. Сведчанне гэтаму і яго (сумесна з Алегам Лойкам) рэцэнзія на кнігу апавяданняў-успамінаў «Пялёсткі», у якой, па сцвярджанні аўтараў, пісьменнік згадвае людзей чулых, спагадлівых, умее вылучыць у творы павучальны сэнс, што вельмі каштоўнае ў выхаваўчым аспекце. І гэта дасягаецца многімі фактарамі, паколькі «ў мастацкім творы вельмі важна знайсці простую і адначасова надзвычай ёмістую форму, у якую можна было б умясціць глыбокі філасофскі змест» (Лойка А, Пшыркоў Ю. Быць чалавекам на зямлі // Полымя, 1974, № 7).

Пры ўсёй актыўнай крытычнай дзейнасці Ю. Пшыркоў пастаянна ў полі зроку трымае творчасць Якуба Коласа. Да 90-годдзя з дня нараджэння народнага паэта было прымеркавана выданне яго 14-томнага Збору твораў. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы яго прыняў Ю. Пшыркоў, ён жа напісаў уступны артыкул «Магутны талент», у якім паказаў вялікую ролю пісьменніка ў фарміраванні амаль усіх жанраў навейшай беларускай літаратуры, разам з іншымі адраджэнцамі пачатку XX стагоддзя вывеў беларускую прыгожую пісьменнасць на сусветную арэну. А ў артыкуле ««Сымон-музыка» і літаратурны працэс» акрэсліў наступныя абсягі вывучэння творчасці Я. Коласа, пазначыўшы, што ў гэтай паэме Я. Колас, па сутнасці, выклаў вялікую праграму развіцця нацыянальнага мастацтва, дзе былі і ўзоры вышэйшай версіфікацыі, майстэрства словатворчасці, якое намнога пераўзыходзіла эксперыменты не дужа ўмелых маладнякоўцаў. Гэтыя публікацыі засведчылі не толькі ўзровень майстэрства, глыбіню і шырыню погляду крытыка, але і пацвердзілі агульны ўзровень беларускай крытыкі і літаратуразнаўства ў другой палове XX стагоддзя.



На Нарачы, 1960 г.

Відаць, тады і склаліся ў яго асноўныя абрысы манаграфіі «Эпас рэвалюцыі: паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», трылогія «На ростанях»» (1975). У гэтым даследаванні літаратуразнаўца перагледзеў многія свае ранейшыя сцверджанні, удакладніў некаторыя тагачасныя ацэнкі, паколькі да той пары ўжо выйшла многа цікавых даследаванняў па творчасці Якуба Коласа, у тым ліку значныя працы А. Лойкі, І. Навуменкі, М. Мушынскага. Даследчык зноў акцэнтуе ўвагу на імкненні беларуса да свабоды і незалежнасці: у «Новай зямлі» праз магчымасць займець уласную гаспадарку. «Героі паэмы марылі пра ўласную зямлю, таму што спрадвеку, шчодра паліваючы яе потам, не былі яе гаспадарамі. Зямля і воля ў іх свядомасці спалучаліся ў адно цэлае: мець уласную зямлю — значыць быць вольным і незалежным».

Як бачым, істотна мяняецца ацэнка пошукаў героямі выйсця з таго становішча, у якім яны апынуліся, і меркавалі, што выбрацца з яго можна толькі праз уласную гаспадарку. Аднак і тут літаратуразнаўца робіць агаворку, што філасофскае разважанне пра зямлю як аснову айчыны належыць самому паэту, чым падкрэсліваецца ілюзорнасць пошукаў герояў знайсці свабоду менавіта такім шляхам. І гэта сведчанне таго, што тады яшчэ не наступіў час кардынальных змен у поглядзе на «Новую зямлю» і іншыя падобныя творы. Усё ж у новым даследаванні літаратуразнаўца істотна змяняе ракурс разгляду, больш аддае ўвагі яўна эстэтычным катэгорыям у вызначэнні сутнасці вялікага твора. Ю. Пшыркоў акцэнтуе ўвагу на тым, што галоўны персанаж да канца застаецца верным абранаму шляху: «Міхал нават памірае як герой. Ніводнага слова скаргі, расчаравання не вырвалася з яго грудзей. У прадсмяротнай агоніі ён думае пра нязздзейсненую мару і наказвае Антосю змагацца за зямлю і волю». Галоўнае, што даследчык ужо не выпукляе рэвалюцыйнай накіраванасці твора, а больш сканцэнтроўвае ўвагу на паўсядзённым жыцці, калі ў працы, адносінах з іншымі і праяўляецца найвышэйшая духоўнасць чалавека.






Ю. Пшыркоў, 1969 г.

Істотныя карэктывы ў свае ранейшыя ацэнкі ўносіць Ю. Пшыркоў і пры разглядзе паэмы «Сымон-музыка». Ён улічвае напісанае даследчыкамі за апошні час, у першую чаргу манаграфіі М. Мушынскага, І. Навуменкі, М. Лазарука. Многае прымае, з іншым палемізуе, а штосьці і зусім адхіляе. У прыватнасці, пагаджаецца з выказваннем М. Мушынскага, што ў «Песні аб званах» вызначаецца эстэтычная аснова твора, «яго філасофскі сэнс», як і ў легендзе пра сонечны промень выражана галоўная функцыя мастацтва — абуджэнне душы народа. Разглядаючы ўсю складаную структуру твора, Ю. Пшыркоў прыходзіць да вываду, што, паказваючы пакутны шлях самародка з народа да высокага майстэрства і агульнага прызнання, Я. Колас паказаў трагічную гісторыю народа ў шматвяковым існаванні. Даследчык раскрывае вялікую моватворчую працу паэта, прызнае беспадстаўнымі прыдумкі Максіма Лужаніна пра быццам бы раскаянне Я. Коласа за навацыры ў паэме.

Даследаванні вызначальнага характару не заставаліся незаўважнымі. На іх рэагавалі адразу, што выражалася ў шматлікіх рэцэнзіях. Не выключэннем стала і апошняя манаграфія Ю. Пшыркова. Пасля яе выхаду ў друку выступілі вядомыя літаратуразнаўцы і крытыкі С. Андраюк, М. Ермаловіч, А. Рагуля, якія засведчылі вялікія дасягненні аўтара манаграфіі ў вывучэнні творчасці Я. Коласа, а разам з тым і звярталі ўвагу на неабходнасць паўторнага звароту да творчасці народнага пісьменніка, бо на гэта якраз і скіроўвае даследаванне Ю. Пшыркова. На апошняе асаблівую ўвагу звярнуў М. Ермаловіч. Паўтарыўшы некаторыя догмы свайго часу (прынцыпы рэвалюцыйнасці, сацыяльнага процістаяння), М. Ермаловіч усё-такі вызначыў асноўную сутнасць манаграфіі ў тым, што яна «будзе плённа ўплываць на далейшае, яшчэ больш паглыбленае даследаванне вялікіх твораў беларускай літаратуры».

Пад навуковым кіраўніцтвам Ю. Пшыркова была падрыхтавана першая гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры ў 2-х тамах (1968–1969), «История белорусской дооктябрьской литературы» (1977). Ён падрыхтаваў шмат даследчыкаў мастацкай літаратуры, выкладчыкаў ВНУ — кандыдатаў і дактароў навук.

Увогуле, у 70-я гады Ю. Пшыркоў актыўна ўдзельнічаў у літаратурным працэсе, імкнуўся адгукнуцца на кожную значную падзею ў жыцці грамадства і краіны. Ён падрыхтаваў капітальную працу да стогадовага юбілею Я. Коласа «Летапісец свайго народа: жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа». Яна выйшла ў 1982 годзе, на жаль, ужо праз пэўны час пасля смерці аўтара, якая раптоўна наступіла 23 снежня 1980 года.

Юльян Сяргеевіч Пшыркоў быў, як творца, выразнікам свайго часу, а з ім закончыўся і вельмі важны этап беларускага літаратуразнаўства. Кардынальнае пераасэнсаванне мастацкіх здабыткаў, навуковых ацэнак адбывалася, на жаль, ужо без яго...

**Яраслаў Клімуць**

**Артыкул друкуецца ў скароце**

# Абразкі



Лявон ВАЛАСЮК

## Лыжка срэбраная, лыжка алавяная…

Мая бабуля Паўрося (такая была ў яе мянушка) карысталася ў хаце за ежаю вялікай срэбранай лыжкай, якую прывёз з другой сусветнай вайны з Германіі мой будучы бацька.

З аднаго краю лыжка так была «аб'едзена», што можна было парэзацца незнарок, хто не ведаў яе сакрэтаў. Але гэта была асабістая бабуліна лыжка, якой яна карысталася больш за пяцьдзясят гадоў. З родных амаль што ніхто тую лыжку не браў у рукі…

…Неяк цётка Волька да слова ўспомніла пра алавяную лыжку, сямейную рэліквію: ёю карыстаўся ў царскім войску мой прапрадзед Аксенцій, які служыў больш за дваццаць гадоў. І калі вярнуўся з царскай службы, то паклаў яе на пачэснае месца. Так і захоўвалася яна, пакуль не ўзялі на службу ў Пецярбург у Сямёнаўскі полк майго дзеда Івана. Дзед па запавету ўзяў алавяную лыжку з сабою. Ён так і праслужыў з ёю праз рэвалюцыю ў лютым, потым ужо і на фронце першай сусветнай, пакуль лыжка зноў не апынулася ў вёсцы…

Ліхалецце не адступала, і на вайну ўзяў алавяную лыжку мой будучы бацька. Яна прынесла сваю простую карысць. А на выгляд была падобная да невялічкага глыбокага чарпачка з кароткаю круглаю ручкаю, што заканчвалася «бульбінкаю» — нешта накшталт кругляка…

Пасля апошняй вайны надышла чарга служыць маім дзядзькам у войску. Спачатку прыхапіў алавяную рэліквію дзядзька Сцяпан, а потым — Андрэй. Так лыжка павандравала па белым свеце…

Мой старэйшы брат Анатоль тую лыжку не браў з сабою, хаця дзед з бабуляю казалі яму ўзяць яе, бо яна, маўляў, прыносіла шчасце: усе мужчыны вярталіся з ёю дадому з войска. Але тады быў ужо іншы час — час мірнага жыцця, таму лыжку-рэліквію пакінулі захоўвацца на пачэсным месцы на паліцы. І калі ўжо надышла мая чарга служыць у войску, дык толькі згадалі пра яе, пагаварылі, пашуткавалі. Сказалі, што яна павінна чакаць мяне на сваім месцы… І яна дачакалася.

## Зноў прысніцца чорны конік…

Мароз патрэсквае, як сырыя яловыя паленні ў печы. Пячэ дык пячэ! Ажно дух займае! А калі прыкласці язык да дужкі вядра ля калодзежа ці да клямкі дзвярэй, то ён прымярзае. І тады адарваць яго надта балюча. Ану раптам палова языка застанецца на дужцы ці клямцы? Страшна! Але ўсё роўна прыкладаеш, бо хочацца паспрабаваць зрабіць тое, што рабіў старэйшы брат. Цікава вельмі… І мне, і майму сябруку.

Бацька сябра — суседа Міколкі — калгасны брыгадзір дзядзька Мікола. Колечка, як клічуць у наваколлі. Так па-тутэйшаму ўсе і называюць. Ён невысокі ростам, заўсёды з чырвоным, бульбінкаю, носам. Размаўляе адрывіста, яшчэ горш, калі свварыцца. Але часцей ён усміхаецца — гэта падабаецца мне. І тады мы адчуваем поўную бяспеку…

Дзядзька Мікола, паабедаўшы, збіраецца ехаць на калгасную ферму. А на кухні ў хаце цёпла. Ад печы смачна пахціць звараны ў чыгунку боршч. На лаўцы ляжыць пад белым даматканым ручніком свежаспечаны чорны пляскаты хлеб. Ад яго таксама плыве такі водар, што можна сліною заглынуцца…

А за акном яшчэ лепш! Снегу колькі навалiла! І сонца свеціць ярка-ярка. Калгасны конь на падворку так жуе сена і трасе галавою ў хамуце, што ажно пара разыходзіцца ва ўсе бакі. Вось бы і нам паездзіць на вазку з гэтым чорным конікам! У два галасы просім дзядзьку Міколу:

— Падвязіце трошачкі, хаця б у другі канец вёскі!

— Ой, ды падвязі ты ўжо хлопцаў! — заступаецца за нас цётка Волька, маці майго сябра. Яна глядзіць на нас добрымі з хітрынкаю вачыма. — Абрыдлі яны мне тут за цэлы дзень. Дай хоць трохі адпачну ад іхняга гоману! — Цётка гаворыць і зноў нахіляецца да печы, грыміць чыгункамі.

Нас доўга чакаць не трэба. На галаву — шапку-вушанку, на плечы — паліто, рукавіцы — у рукі. І, як тыя шчанюкі, выкочваемся за парог на падворак. Шумна ўціскваемся ў вазок на салому і чакаем, калі дзядзька Мікола крыкне на каня: «Ну, пайшоў, здраднік!», а конь, наеўшыся духмянага сена з канюшынаю, здаецца, толькі і чакаў крыку гаспадара. Ірвануў з месца так, што толькі камякі снегу з-пад капытаў ляцяць на нас. Радасці — поўны вазок! І вось у марозным паветры рып палазоў і храп каня. Эх, паляцелі па снезе! Хутчэй, яшчэ хутчэй! Толькі вецер хапаецца за каўнер паліто. І ў промнях зімовага сонца снег разлятаецца ва ўсе бакі…

Вёска невялікая. І непрыкметна мы ўжо мінулі апошнюю хату. Край вёскі. Карчы лазы, крыху бярэзіны. Усё занесла снегам. Нахіліўся стажок сена, напалову схаваўся ў снезе… Вось мы і прыехалі. Дзядзька Мікола прыпыняе коніка, і мы вывальваемся з вазка і бяжым па дарозе да алешніку. Наш чорны конік вязе сябравага бацьку ўсё далей і далей у бок фермы. І ён не бачыць нас і не бачыць, як мы будзем бавіцца, вяртаючыся дадому.

А мне з сябрам даўно хацелася трапіць сюды, у гэты алешнік. Гожыя постаці дрэў звіняць ад марозу. Шурпатая кара паблісквае пад чырвоным сонцам. Глыбока праваьваючыся ў снег, мы выбіраем сабе дрэўцы. Дастаем з кішэняў сцізорыкі, цяжка адкрываем нягнуткімі пальцамі лёзы, пачынаем падразаць кару, як тыя бабры на малюнку ў братавай кніжцы… Пальцы рук мерзнуць… Нарэшце выбіраемся з гушчару на дарогу і, задаволеныя вынікам паездкі, кіруемся да сваіх дамоў. Не спыняючыся, абрэзваем непатрэбныя галінкі, глядзім, як свежыя парэзы пачынаюць чырванець… Дамоў, хутчэй дамоў! Мароз усё мацней і мацней шчыпле за твары. Нам нічога не застаецца, адно як мага спрытней пераставіць ногі.

…На кухні ля печы цёпла. Яна не паспела яшчэ зусім ахалонуць, нягледзячы на тое, што мароз пад вечар мацнее. Цётка Волька хутка пачне паліць у печы. З сябрам сядзім на маленькіх сасновых калодачках і абстругваем свае кійкі. Яны ўжо прагрэліся ў цяпле, і дрэва стала мякчэйшым. Толькі пільней патрэбна сачыць, каб не парэзаць пальцы. А занятку цяпер нам хопіць на некалькі дзён. З гэтай алешыны чаго толькі можна выразаць! І кожны з нас рэжа толькі тое, што даўно ўжо запаланіла галаву і сніцца кожную ноч: будзе гэта прамы меч ці крывая шабля, а можа, нешта і цікавейшае…

Але сёння пара ўжо заканчваць. Хутка стане цёмна, мне трэба дадому, хаця толькі цераз дарогу перайсці, ды ўсё роўна, калі цёмна, то страшнавата ісці аднаму. Але адзін я мала калі збіраюся дадому. Амаль заўсёды па мяне прыходзіць маці. І пакуль яна размаўляе з цёткай Волькай, мы з Міколкам паспяваем крыху пагутузацца ля парога, дамовіцца на наступны дзень пагуляць.

…А ўначы мне абавязкова прысніцца чорны конік з добрымі вялікімі вачыма і нашы абструганыя кійкі з алешыны, якія мы надзейна схавалі за печчу на кухні.

## Пятнаццаць капеек



У дзесяць гадоў я вучыўся ў трэцім класе. У той час наша сям'я трымалася толькі з бацькоўскай голкі. Маці ўладкавацца куды-небудзь на работу не ўдавалася. Час быў нялёгкі для бацькоў. У дадатак яны дабудоўвалі наш дом у горадзе. Часам да бацькоўскай зарплаты сям'я заставалася без аніводнай капейкі. Не было за што купіць і бохан хлеба… Па-дзіцячы тады наша становішча ўспрымалася неяк проста, без розных капрызаў, ныцця, скаргаў. Мы былі ўдзячныя за кавалачак цукру ці белага пшанічнага хлеба.

Маці знаходзілася заўсёды пры доме. Уся гаспадарка ляжала на яе плячах. Амаль кожны дзень прыходзіла да нас бабуля Фядора, якая жыла непадалёк у свайго старэйшага сына Паўля, які даводзіўся мне з братам дзядзькам па маці. Бабуля Фядора заўсёды ўсміхалася. З унукамі паводзіла сябе ласкава, ды строга. Яна заўсёды прыносіла нам гасцінцы. Але мне больш за ўсё запомнілася, як бабуля даставала з кішэнькі то дваццаць, то пятнаццаць капеек і давала нашай маці на хлеб, які каштаваў тады чатырнаццаць ці васямнаццаць капеек за кіло.

Бабуля Фядора тыя грошы эканоміла ў сыновай сям'і. Сваіх грошай у яе не было, бо пенсіі яна не атрымлівала, а для працы была ўжо не таго ўзросту і здароўя. Ды і ўладкавацца на працу было вельмі складана ў той час. Так моцна адбіліся ў памяці хвіліны, калі бабуля Фядора прыходзіла да нас. На яе прынесеныя пятнаццаць-дваццаць капеек маці купляла хлеб да нашай (з салёнымі агуркамі) бульбы на снеданне, вячэру…

…Летнім надвячоркам, калі я бавіўся на падворку, а маці ў гародчыку палола пырнік з лебядою ля плота, прыйшла бабуля Фядора, запыталася:

— Ну што, Вера, як дзеці? Як жывеш? Два дні ў вас не была, засумавала…

— А што навога! Мы ўжо пачалі хваляваца. Даўно вас не бачылі! — адказала маці. Выпрастала спіну, павярнулася да старой і ветліва ўсміхнулася: — Во, ваюю з зеллем. І як жа хутка яно вырасла! Бы на дражджах расце…

— Так, — уздахае бабуля і нешта дастае з кішэнькі фартуха. — Вазьмі рубель, Вера, купіш хлопцам ласунак. Не ведаю, як ён тут і заблудзіўся! — хітравата падмігвае, працягвае грошы.

Яны стаяць, маці з дачкой, размаўляюць, а я бягу ў завулак. Мяне кліча голасна сусед — як і я, падшыванец.

…Вечар наплывае, як сон. І я бягу ў яго, захлынаюся пахам летняй зеляніны, пылу з дарогі… І свежага хлеба…

## Электрыка

Асаблівы пах кноту, закапцелае шкло лямпы… Здаецца, што гэта было зусім нядаўна на ўскрайку вёскі ў доме, дзе я нарадзіўся, у доме майго ранняга дзяцінства. Доўгімі вечарамі гарэла на кухні лямпа, распаўсюджвала характэрны пах недагарэлай газы. Старэйшы брат Анатоль вучыў урокі, я сядзеў побач. Маці смажыла сала, таўкла свінням бульбу. Патрэскваў кнот, падрыгвала полымя, а кот, які драмаў на печы, час ад часу расплюшчваў адно вока на голас ці шолах.

…І вось аднойчы ў вёску прывезлі чорныя ад прапіткі драўляныя слупы. На вуліцы яны спачатку ляжалі ля платоў, а потым іх укапалі ў зямлю. Прывезлі таксама маткі алюмініевага плецёнага дроту для электрыкі.

Дзядзькі, пакурваючы, надзявалі на ногі прыстасаванні, якія называлі «кіпцюрамі», і лезлі на слупы, прымацоўвалі белыя керамічныя кубачкі, нацягвалі дрот. Адбывалася гэта ўлетку.

Пасвятлела, пацяплела ў вёсцы. Нават некалькі металічных талерак-ліхтароў на слупах павесілі з лямпачкамі, каб уначы было відно крыху дарогу пад нагамі ды каб размінуцца з суседскім сабакам… Так у нашу вёску ў пачатку шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя прыйшла электрыка. І адразу сталі весялей пачуваць сябе вяскоўцы!..

І тады падумалася: як жа цёмна было пры газавых лямпах. Але яны па-ранейшаму заставаліся ва ўсіх дамах на той выпадак, калі, бывала, адключалі электрыку. І зноў па старой звычцы гаспадары бралі запалкі і падносілі агеньчык да кноту. І адразу па сценах пачыналі скакаць цені, звыкла разыходзіўся забыты пах газы. У доме было па-ранейшаму цёпла і светла, ды так, што хацелася прыгарнуцца да матчыных рук і пачуць пяшчотныя словы…

## Крыжы

За нашым домам праз дарогу на невялікім трызубцы поплава стаяў вялікі драўляны крыж — старадаўні абярэг нашай вёскі. Ён узвышаўся над зямлёю сваёю самотнаю веліччу, маўклівa пазіраючы ва ўсе бакі, нібы вялікая птушка ў сваім гняздзе. Непадалёк раслі маладыя ліпы, якія з шумам зелянелі ўлетку. Крыж наўкол быў заўсёды абкопаны, каб сухая трава, калі раптам загарыцца, не апаліла яго бакі.

Я з суседскай дзяўчынкаю Анькаю амаль кожны дзень бываў ля крыжа: тут было наша любімае месца для гульняў. Яно падабалася нам і ўлетку, і снежнаю зімою, бо знаходзілася побач з нашым жыллём. Аднойчы раніцай крыжа не стала.

Атэісты-няверцы спілоўвалі крыжы, зачынялі цэрквы… Вось і наш крыж-абярэг трапіў пад чорнае лязо пілы ці сякеры. Вяскоўцы шмат гаварылі пра тое здарэнне, лаяліся на нядобрых людзей, што займаліся грахоўнаю справаю, старыя жанчыны праклiналі іх…

Аднаго такога чалавека я ведаў: Аляксандр (жанаты ўжо быў) жыў у недалёкай вёсцы. Ён сумесна з некалькімі мужчынамі-паплечнікамі ездзілі па наваколлі і пілавалі крыжы ля вёсак. Рабілі яны тую чорную справу начамі, калі ўсе адпачывалі і ніхто не бачыў гэтых вар'яцтваў. Але людзі ўсё роўна даведаліся пра іх.

Крыжы, канечне, потым зноў з'явіліся на сваіх месцах, бо людзі не маглі застацца простымі назіральнікамі святатацтва. Так і каля нашых дамоў зноў устаў высокі драўляны крыж, але ён ужо быў жоўта-смалісты, з кропелькамі смалы, падобнай на ліпавы мёд.

А той дзядзька Аляксандр у хуткім часе захварэў, страціў магчымасць хадзіць, памёр, пакінуўшы жонку-ўдаву і двух дзетак-сіротак…

# Крыж Богшы



Васіль МАКАРЭВІЧ

**1**

А хто падкажа,
Лондан ці Парыж?
Мажліва, тайну сам адкрыеш, Божа, —
Куды папаў, у рай ці пекла, крыж,
Які адштукаваў наш прадзед
Богша?

Стагоддзі
Прастаяў ён на віду.
Чуў песню жаўрука і скаргу кані.
Пакуль пад гул вайны, як у ваду,
А ці ў прадонне на вякі
Не кануў.

За годам год
Дарогаю прамой
Ляцелі ў вырай жураvы на поўдзень.
А крыж мы пад зямлёй і пад вадой
Шукаем і — ніяк пакуль
Не знойдзем.

Хаця і маем
Вечнасць пра запас,
Змаглі пабыць ля пекла і ля рая.
Здаецца, крыж уголас кліча нас
І рукі нам насустрач
Працірае.

З далёкіх тых,
Пасляваенных дзён,
Падзеі вывучаючы да кропкі,
Мы скрозь, як археолагі, вядзём
Па ўсёй Еўропе пошук
І раскопкі.

Не раз гадалі, —
Звонкі, як лядыш,
У небе, дзе дымок світальны віўся,
Красы нябачнай і чароўнай крыж —
Адкуль і як над Полацкам
З'явіўся?

**2**

Чаго дзівіцца?!
Над Дзвіной ракой,
Дзе ліўні і дажджы давалі часу,
Сабралася сто сорак саракоў
Майстроў — і муляроў,
І камнячасаў.

Для шчыруноў
Занятак кожны люб.
А возьмецца абраных цэлы тузін
І ўмомант ён сагне ля пожні дуб,
А трэба будзе — ствол завяжа
Ў вузел.

Світаннем,
Без прымусу і прынук,
Натруджаных і адначасна кемных,
Сто сорак саракоў умелых рук
За тапары ўзяліся
І за кельмы.

Цераз лясы,
Над ссохлай дзеразой,
Што мох перапляла, нібы пярыну,
Сто сорак саракоў ішлі вазоў
І везлі яек больш куды
Курыных.

Глядзеў дубняк
Са смольным сасняком,
Як полацкую, з сівізною, гліну
Умела перамешвалі з жаўтком,
Каб вырабіць трывушчыя
Цагліны.

Не знаючы
Інтрыг і хітрых звад, —
У гурце нават часам кашавары



Цагліны клалі пільна рад у рад,

І, нібы дратвай, між сабой
Сшывалі.

На дыбачкі
Ўставала Белавеж
Ды цікавала пільна і украдкай, —
Таранам бі, а толькі ці праб'еш
Сцяну такую візантыйскай
Кладкі!

**3**

Са скразняком
Аціхлі спрэс вятры
І воблакі прылеглі, нібы сфінксы,
Калі узнеслі да нябёс майстры
На берагах Дзвіны сабор
Сафійскі.

І ля надрэчных
Пакручастых стром
У цесляў меўся клопат наастачу —
Знайсці такога майстра ад майстроў,
Каб крыж не крыж, а дзіва
Адмастачыў!

Ці знае хто,
Як на крыжах дарог,
Абвітых траў пярэстымі шаўкамі,
Шукалі майстра, валячыся з ног,
Пакуль урэшце рэшт
Не адшукалі.

Быў у лапцях,
Але не ў лахманах,
З памоўкамі, як стрэламі калчана,
Рамеснік гарадскі, а ці манах,
Магчыма, нават родам
Палачанін!

Хаця былое
Парасло быллём
Дый узялося чэрствюаю аблогай, —
Больш у абліччы і ў вачах было
Ад чмута-ведзьмака,
Чым ад святога.

Нішто дагэтуль
Не ўсплыло нябось,
І святары лічыць да сёння рады,
Што быў ён, пасланец і сын нябёс,
А не з тутэйшай шайкі
Канакрадаў.

Зашпілены
З усіх бакоў, як струк,
Слібізаваць мог часам па латыні.
А што да ўмення і, канечне, рук,
То рукі меў ён проста
Залатыя!

Хаця ніхто
Не аб'яўляў аўрал,
Не падаваў уладны голас з неба, —
Ды зналі, што дыхтоўны матэр'ял
Для крыжа са святога дрэва
Трэба.

Хто сэрцам смел,
На рукі дуж і ўмел, —
Як майстру і шчасліваму абранцу,
Не меней, чым за трыдзевяць зямель
Па дрэва давядзецца
Дабірацца.

Схаваўшы
Ад спякоты ў гойны цень
Грыбы — грузды, лісічкі і апенькі, —
Расце яно там дзесьці з дня на дзень
Пад богавым прыглядам
І апекай.

Наводдалек
Ад тлумных гарадоў,
Патлатых субтрапічных ясакараў,
Патрэбна мець сто сорак вярблюдоў,
Каб выбрацца з нямых пяскоў
Сахары.

Ды, як на трон
Ці на святы прастол,
Абсыпаны ўвесь зорамі, як жвірам,
Дзвіна прынесла кіпарысны ствол,
Што воды іярданскія
Жывілі.

І ў кроплях
Перадранішняй расы,
Сякеру ашчаперыўшы ў далонях,
З яго адмераў майстар два брусы,
Са стрыжнем і слаістай
Абалонню.

А следам
Перуны, як шчыруны,
На дол сышоўшы з місіяй пачэснай,
Давай прамей, напэўна, ад струны
Часаць іх ды з усіх бакоў
Ачэсваць!

Хіснецца ўбок
Вясновы вербалоз, —
І, быцам для касы дзявочай стужка,
Ускінецца ажно пад Зорны Воз
Ды і закруціцца спіраллю
Стружка.

А майстар?
Ён, здаецца, баляваў,
Хаця і не хваліўся перад людам.
Хто ведае, чым крыж ён габляваў, —
Чужым фуганкам ці тутэйшым
Склюдам?

Звычайны крыж,
Што ледзьве-ледзь ліпіць,
З якім не пойдзеш і ў святую Меку,
З дзвюх палак можа на хаду зляпіць
Не толькі дзіце, нават
І няўмека.

А крыж святы,
Каб войкнуў Казярог
І прыпыніла бег Дзвіна і Прыпяць,
Патрэбна шчодра з макаўкі да ног
Брыльянтамі ды серабром
Абсыпаць.

Граніць разцом —
Не соты падразаць,
Хаця і будзеш ты найпершы дока.
А ў сховішчах якіх алмазы ўзяць?
Ці апароць у незямных
Кладоўках?

Каб адмаліць
Да кроплі ўсе грахі, —
Нібыта з пекла душнага ці лазні,
З майстэрні ўласнай, потны і глухі,
Паўгода, пэўна, майстар
Не вылазіў.
А досвіткам,
Як смольны бор куваў,
І ў небе месік дрых, нібы начлежнік, —
Урэшце, майстар крыж адштукаваў,
Сагробшы з радуг жэмчуг,
Як грабежнік.

Ніхто супроць
Не скажа век вяком —
Што Богшы крыж, нібыта сын захмар'я,
Быў самым блізкім, родным двайніком
Таго, што ззяў над вечным
Запаляр'ем.

Прымоўклі дзесь
Грамоў глухіх гурты,
Здалёк глядзелі хмаркі трапяткія,
Як пахаджалі ў мітрах, што браты,
Пакліканыя Ноўгарад
І Кіеў.

Палалі свечкі
Мо даўжэй ад вуд,
Кастрычнікамі займаліся лампады.
І слаўся, нібы лес пад ветрам, люд,
То на калені перад крыжам
Падаў.

Скідаючы
Каменных ведзьмакоў,
Харугвы распрасцёршы залатыя,
Крыж хросным ходам ад усіх бакоў
Вадой святой свянцала
Візантыя.

Аж сыпанула
Ўверх сям'я стрыжоў,
Ледзь не палеглі навакол тапалі,
Калі ён, крыж, на купал узышоў
Няспешнай ды упэўненай
Ступою.

І, ў пазалоце
Ўстаўшы навырост,
Над краем і крынічным, і азёрным
Глядзеў наўкруг сябе на сотні вёрст

*Нібыта з вышкі вартавой,*
*Дазорны.*

*Турнуўшы ўбок*
*Звяг-злыдняў чараду*
*І перакрціўшы роднае ваколле,*
*Ён, глядзечы на тлумную Арду,*
*Дакляраваў ёй поле*
*Кулікова.*

*А хан Батый,*
*Што сцены ўмеў прабіць,*
*І з конніцай глынуць паўазярыны, —*
*Не мог нічога з крыжам парабіць,*
*На дол пясчаны ні зваліць,*
*Ні зрынуць!*

*І чмут расійскі*
*Ў дзіўным парыку*
*І, д'ябальскае выкрайкі, батфортах,*
*Не ўзняў на крыж драпежную руку,*
*Хаця і побач чуў цкаванне*
*Хорта.*
*Чым дзень зырчэў,*
*Тым крыж палаў ярчэй,*
*Як і лямеш, што ворыва зглыдала.*
*І колькі скваплівых ды скупых вачэй*
*На крыж святы зацята*
*Паглядала!*

*Як з круглай*
*Перакуленай дзяжы,*
*З прытоенай пяшчотай і ласкавай,*
*Крыж мылі малітоўныя дажджы*
*І ліўні днём і ноччу*
*Паласкалі.*

*Не крыўдзілі*
*З шаптухай ведуна,*
*Што з кужалю даўгую нітку прала.*
*Дзе кут пачэсны меўся, — аддаўна*
*Сядзела Магдэбурскае там*
*Права.*

*Праз землі,*
*Цераз стромкія вякі,*
*Не помнячы ні пошасці, ні ліха,*
*Часцей і папа Рымскі з-пад рукі*
*Глядзеў на крыж, забыўшыся*
*На пыху.*

*А крыж святы,*
*Пазваўшы вадалей,*
*Пакуль хапала дзёрзкасці і духу,*
*Ад Полацка турыў, як падалей*
*То сухавей з пажарам,*
*То засуху.*

*Ды праз туман,*
*Нібыта глей, густы,*
*І хітрыкаў цянёты, што абрыдлі,*
*Наводзіў спешна наўпрасцяк масты*
*Да Лондана, Парыжа*
*І Мадрыда.*

*Цераз завей*
*Смугу ды мітульгу,*
*Драпежных міжусобіц калатнечу*
*Глядзела княства, каб нага ў нагу*
*З Еўропай паспяшаць*
*З Сярэднявечча.*

*Выходзілі*
*Стагоддзі з берагоў*
*І не пыталі — згода ці не згода? —*
*А рыхтавалі, бы капкан, прыгон,*
*Як і сусед наш даўняшні,*
*З усхода.*

**4**

*Чаўбохне дождж,*
*Бы выбухне салют,*
*Грукоча ў кірзачах-грамах і ззянні.*
*Калі жыццё і час пайшлі на скрут,*
*То крыжу не да новага*
*Дызайна.*
*Грымеў тратыл*
*Ды грахкаў аманал, —*
*Маглі вось так і горы нават змесці.*
*Ды толькі крыж ніяк пад крымінал*
*Дзялягі з хеўрай не маглі*
*Падвесці.*

*Адны і дня*
*Не пражывуць без звад,*
*Купаюцца ў сварках, як у пельцы*
*А крыж святы ніхто не мог назваць*
*Ні грэшным насланнём,*
*Ні адшчапенцам.*

*Каму зручней*
*Суд правіць, ну каму,*
*Як не заезджай Марсельезе-гейшы?*
*Сасլаць бы крыж наўпрост*
*на Калыму!*
*А для чаго? Для помачы*
*Тамтэйшым!*

*Быў толькі*
*Падуладны ён вякам,*
*Нібыта меў паднебнае падданства.*
*І не хацеў партыйным ведзьмакам*
*А хоць бы і на каліўца*
*Паддацца.*

*А час прыйшоў, —*
*Без лішніх эскапад*
*З нязнанай вышыні, нібыта зеўры,*
*Ён злез на дол, як дзіўны экспанат,*
*Каб адпачыць у цішыні*
*Музейнай.*

*Ды зыркіх зор*
*З-пад неба не хапаў,*
*Хоць побач іх мільярды ападала.*
*А грымнуў гром вайны — і ён прапаў,*
*Як і байцы на фронце*
*Прападалі.*

*Як хочацца,*
*Каб крыж з усіх крыжоў,*
*Сярод асколкаў, друзу і акравак*
*Праз пекла і агонь вайны прайшоў*
*І выбраўся на цішыні*
*Ускраек.*

*Ды што гадаць?*
*Мо, родны, адпалаў*
*І, стаўшы непрыкаяны, бяздомны,*
*З утылем трапіў дзесь на пераплаў*
*У вогненным мартэне*
*А ці домне.*

*Ці ўсё ж прайшоў*
*Праз смертны дым з дымоў,*
*І ў манаграмах рваных ран і драпін,*
*Як не іраваўся ў родны край, дамоў,*
*Але дасюль чамусьці*
*Не патрапіў.*

*І кожны знае,*
*Кожны з нас прывык*
*(Каго вось гэта справа не займала?) —*
*Гарыць у небе сёння крыж-двайнік, —*

*Ды нам красы ягонае*
*Замала!*

*Таму глядзім*
*З надзеяй на сабор, —*
*А можа, ўсе нягоды раптам змогшы,*
*Ён вымкне ў паднябессе, як багор,*
*Крыж залаты і непадкупны*
*Богшы?*

# Новы танец



Ігар КАНАНОВІЧ

### Прасвятленне

*Наканаванне нікому не сцеле кілімаў.*
*Ды прасвятленнем*
*спыняецца веразліццё:*
*Здрадзіць дзяржава, але ніколі —*
*Радзіма;*
*Здраджваюць людзі, але ніколі —*
*Жыццё.*

### Завяршэнне адной размовы

*Не вабіць эдэм на чужыне.*
*Не ўсё, што тут робяць, — «адстой».*
*Мне цесна не ў ГЭТАЙ краіне —*
*Мне цесна ў краіне ТАКОЙ!*

### Якое свята?

***Да нядаўняга выхаду зборніка***
***ўласных вершаў «Астэроід»***

*Якое свята, браце? Не грашы!..*
*Павер, паэцтва пахне не малінай...*
*Стаў зборнік вершаў помнікам душы —*
*Расцягнутай, загаджанай. Адзінай.*

*Шэдэўры выбягалі з-пад рукі?*
*Магчыма. Але цешыла не дужа...*
*БЯДОЙ напампаваныя радкі!*
*Які ж ты блізарукі, любы дружа!..*

*Паэтам быць —*
*штодзень глядзець за край.*
*Высокі боль —*
*капкан, прысуд суровы.*
*Зайздросны лёс? Ну, дурань, забірай!*
*Яшчэ і даплачу — насі здаровы!*

### Жоўты экспрэс

*Мінулі і Верасень —*
*горад-спадарожнік Лета.*
*Наступны прыпынак —*
*у прадмесці Зімы.*

### Пажаданні на ноч

*Дзень мінуў, да мітусні ахвочы.*
*Засталося развітацца з ім.*
*Дзецям і старым — спакойнай ночы!*
*Ну, і добрай ночы — маладым!*

### «Супраць» і «за»

*Планка настрою — на нізкай адзнацы.*
*З прыкрасцю спелай гляджу я назад:*
*«Супраць» даўно навучыўся змагацца —*
*Не навучыўся «за»...*

### Мой анэстэзіёлаг

*Снег глушыць енк пачуццяў голых,*
*І можна крыху менш маліцца:*
*Зіма, мой анэстэзіёлаг,*
*Нарэшце заняла сталіцу...*

### Адна думка

*Сярод разваг бяспекі і карысці*
*Раз-пораз думка ўспыхвае адна:*
*Штодзённасць — сон,*
*з якога страціў выйсце;*
*Сон-акіян без берагоў і дна...*

### Мокры Буда

*Спам розуму*
*зрэдку мільгае ў свядомасці,*
*а я ляжу*
*ў прысмужанай,*
*нагрэтай ванне —*
*слухаю,*
*як пругка і згодна*
*сыходзіць вада.*
*Мокры, распараны,*
*усцешаны Буда.*

### Прыступка

***В мой старый сад, ланфрен-ланфра,***
***Лети, моя голубка!***
***(З вядомай песні)***

*Да выбухаў натхнення ты прыступка.*
*Табою Бог жыццё пасаладзіў.*
*І ўсё-ткі я паэт, мая галубка.*
*Мо лепшага — нармальнага — знайдзі?*

*Нашто табе нястача, меладрама*
*І гурт таленавітых недарэк?*
*Твой выбар ну ніяк не ўхваліць мама.*
*Яна кансерватыўны чалавек.*

*Хвіліны шчасця будуць, верагодна.*
*Ды, верагодна, будзе і кашмар.*
*Я — цяжкая, няўдзячная прыгода:*
*Буян, ліхач, нядбайны гаспадар...*

*Зірні, я для цябе — да дна прыступка!*
*Крумкач крывавы з песняй салаўя!..*
*Маўчу-маўчу! Не плач, мая галубка!*
*Хадзі сюды, маленькая мая!..*

### Няёмкасць

*Грубы,*
*запэцканы снег*
*зніякавела*
*ўспыхнуў на сонцы:*

*пацалавала вясна.*

### Стаўка

*Налятаючы сэрцам*
*на чарговы*
*востры злом рэчаіснасці,*
*цяпер усміхаюся:*

*«Дзякую, Ойча,*
*што ставіш ізноў*
*на Паэта!..»*

### Новы Танец

*Так,*
*захапляйцеся*
*маім новым танцам!*

*Хоць ён —*
*не што іншае*
*як спроба не наступіць*
*на знаёмыя граблі,*
*раскіданыя там і тут.*

### Таму Што Вясна

*Мой след*
*на забытым снезе,*
*як пэўныя словы*
*на сценах,*
*непрыстойны і смешны.*

*Таму што вясна.*

### Маякоўшчына-2

*І навошта нараджацца,*
*скажыце,*
*Зорнымі прынцамі*
*ў зямной глушы?*
*Паміраем,*
*не навучыўшыся жыць*
*і*
*Адыходзім да Бога,*
*Яго страціўшы!..*

### На размінцы

*Размінаўся,*
*і хруснула з болем*
*дзесьці*
*пад левай ключыцай.*

*Солі*
*ці лёд застарэлы*
*на сэрцы?*

### Я ёсць

*Мне крыўда выела душу,*
*А потым перайшла на цела...*
*Што дзіўна, я ізноў пішу.*
*Што дзіўна, я жывы і цэлы.*

*Намоўленае перамог,*
*Паверыўшы ў будзённасць цуду.*
*На папялішчы ўспыхнуў Бог.*
*Я ёсць. І я, напэўна, буду...*

# Манголія



Андрэй ФЕДАРЭНКА

**1.**

Калі ў 1990 годзе мне выпала магчымасць паехаць у Манголію, з якой радасцю я згадзіўся! Я не ведаў тады, што пісьменніку зусім неабавязкова «пазнаваць жыццё», што ўвогуле пісьменнік ведае рэальнае жыццё нашмат менш за звычайных людзей — хаця б таму, што нельга знаходзіцца ў двух месцах адначасова: трэба альбо сядзець за сталом у кабінеце перад аркушам паперы і грызці кончык ручкі, ці за ноўтбукам на кухні, — або ісці «ў народ». Навучыцца выкарыстоўваць малое, каб пры дапамозе яго дабівацца большага — вось і ўвесь няхітры сакрэт пісьменніцкага рамяства.

Але мне было ўсяго 25 гадоў. Я напісаў адну маленькую кніжку. Для мяне пабыць у Манголіі азначала прыкладна тое ж, што для Чэхава паездка на Сахалін, толькі мне ў адрозненне ад яго не трэба было трэсціся ў тарантасах, выкрэсліваць з жыцця год-паўтара; тут усяго паўтара тыдні, і не тарантас, а да Масквы цягнік, адтуль — самалёт; тут магчымасць пабачыць чужы свет і пры гэтым не замачыць нават падэшваў, плюс бясплатна.

Што я ведаў пра краіну, куды сабраўся? Што гэта Азія. Што быў Чынгізхан з мангола-татарскім ігам. Грошы там завуцца тугрыкі. Усё, бадай. Але гэта мяне не бянтэжыла. Тады, у тым узросце, не дробныя дэталі здаваліся вартымі ўвагі, а панарама — агульныя, сусветныя, усеабдымныя катэгорыі. Дэталі потым адшукаюцца самі.

І вось 30 ліпеня 1990 года я ў Маскве, перад двухпавярховым будынкам ружовенькага колеру з калонамі. Чыгунная агароджа, на ўзорыстых металічных варотах начэплены замок на ланцугу. Ящчэ вельмі рана. Трэба дачакацца, калі запрацуе «Аддзел па прапагандзе і міжнародных сувязях». Там павінны сказаць, што, хто, з кім, чаго, пачытаць інструкцыю, даць ЦУ. А пакуль — тапчуся перад замкнёнымі варотамі, не верылася, як ні напружваю ўяўленне, што я стаю менавіта на гэтым вось месцы, каля бетоннага фундамента, таго самага, на які залазіў булгакаўскі герой і прасоўваў галаву ў дзірку ў чыгуннай агароджы, з зайздрасцю азіраючы летні рэстаран, марачы пра закуску і вялікі куфаль ледзянога піва — «як і кожны турыст перад далёкай вандроўкай»... Недзе там, у зале, даўным-даўно кружыліся ў вальсе Растова Наталі... Адсюль забіралі ў вар'ятню паэта Бяздомнага... Тут чытаў геніяльны пляменнік сваёй цётцы ўрыўкі бессмяротнага «Гора ад розуму»... Цяпер пасярод двара вакол сухога фантана хадзіў кругамі адзінокі голуб і буркаў, распусціўшы веерам хвост.

Нечая рука легла мне на плячо. Я павярнууся і ўбачыў чалавека каўказскай знешнасці, сухапарага, з валасатымі рукамі, з вялікімі разумнымі вачыма.

— У Манголію? — спытаў ён.

— У Манголію.

— З Беларусі?

— З Беларусі.

— Ведаю: Беларусь — Ніл Гілевіч, — сказаў ён. І зноў працягнуў валасатую руку: — Эліхан Калоеў, Асецця.

Намеснік галоўнага рэдактара літаратурнага часопіса. Жыве ва Уладзікаўказе, каля самага падножжа Казбека, кожны дзень бачыць далёкую беласнежную горную шапку.

Усходнія мужчыны дзеляцца на два тыпы: гарачыя, шумныя, як цыганы, і адзінокія разважлівыя філосафы. На шчасце, мне патрапіўся другі тып. Вельмі прыемны гэты Эліхан. І тое, што сам падышоў, і што вочы добрыя. Было толькі крыху сорамна, што вось ён ведае паэта з маёй радзімы, а я не магу назваць ніводнага каўказскага пісьменніка, акрамя Шата Руставелі і Расула Гамзатава, якія — грузін і дагестанец — невядома якім бокам адносяцца да Асеціі.

— Можа, вы ведаеце, хто арганізаваў нам гэтую паездку? — пацікавіўся я. — Хто працуе ў аддзеле па міжнародных сувязях?

— Жанчына, — коратка адказаў Эліхан, укладваючы ў гэтае слова нешта нават большае за пагарду, асабліва калі ўлічыць, што прамоўлена яно было па-руску з каўказскім акцэнтам.

Ён прапанаваў, пакуль рана і вароты зачынены, за кампанію прайсціся разам на базар. Праз Малую Грузінскую, Вялікую Грузінскую выйшлі ў раён Пакроўскіх Варот, дзе і праўда быў крыты вялізны рынак; цяпер яго, канечне, няма ў цэнтры Масквы. Эліхан купіў паўмеха абрыкосаў, вялізны пакет са шчыльнай, нажом не прарэжаш, паперы — у такія спакойна можна насыпаць цукар або цэмент, не парвуцца. На мой запытальны пагляд Эліхан зноў неахвотна і коратка патлумачыў:

— Жанчына.

Потым, калі сядзелі ў жанчыны ў аддзеле, прыемнай маскоўскай дамачкі, толькі крыху стомленай, Эліхан ператварыўся ў падхаліма:

— Гэта вам са свайго саду...

Яна ўдыхнула абрыкосавы пах.

— Адразу чуваць, што свае. Дзякую, Эліхан. Ты заўсёды з падарункам. У Маскве такіх абрыкосаў днём з агнём не дастанеш.

Другі раз за раніцу гэты Калоеў прымусіў мяне засаромецца, пачырванець. А я чаму з пустымі рукамі? Які наш нацыянальны прадукт? Бульба? Ці сала трэба было б купіць, ці грыбоў сушаных... Лухта нейкая, навошта гэта ўвогуле. І лёгкая варожасць да хітрага асецінa Калоева закралася мне ў душу.

Тым часам жанчына дала нам білеты, усё растлумачыла. Дэлегацыя наша складаецца з чатырох чалавек, акрамя нас яшчэ малдаванін і рускі, масквіч. Чаму такі дзіўны склад? Хто згадзіўся, той і едзе, не было часу дужа выбіраць. Самалёт заўтра з раніцы. А вось паперка, па якой заселяць на ноч у гатэль Літаратурнага інстытута па вуліцы Дабралюбава, 11/а. Эліхан, як толькі пачуў гэтыя словы, змяніўся ў твары. На вуліцы ён сказаў мне, што скончыў Літаратурны інстытут і бачыць яго не можа. Яму ёсць дзе спыніцца.

**2.**

Я застаўся адзін у чужой Маскве. Дзве гадзіны выстаяў у чарзе да кіёска «Тытунь», каб набыць цыгарэт, бо давалі толькі дзве пачкі у рукі, даводзілася тройчы ставаць зноў у хвост чаргі. Пакуль заехаў на Дабралюбава, пакуль знайшоў гатэль «Дом писателей», пакуль вахцёр (яго няма чаго апісваць, яны ўсе аднолькавыя: насупленыя бровы, мясісты нос і сам строгі) уладкаваў мяне — надышоў халодны маскоўскі вечар.

Пакой аднамесны, даволі ўтульны, але дзверы не зачыняюцца. Роўна на 5 сантыметраў, на запалкавы карабок, косы коўдраю затыкай. Разам са змрокам, а потым і з цемраю чужыя душы пачалі сваю справу. Яны, гэтыя душы, некалі адзетыя ў матэрыяльныя абалонкі, жылі тут, хадзілі, пілі, пісалі, кахаліся, выскоквалі з вокнаў, — чамусьці любімы занятак пачынаючых пісьменнікаў — распранацца і выскокваць з акна. Цяпер яны ледзь чутна лыталі па пакоі, як кажаны, шорхалі крыльцамі; я адчуваў іх па лёгкім хваляванні паветра. Яны нашэптвалі мне, што раз я тут апынуўся, дык і мне трэба напіцца, скінуць з сябе вопратку і скочыць з акна. Я слаба супраціўляўся, пярэчыў, што тут першы паверх... Стук у дзверы прымусіў мяне ўздрыгнуць.

— Алег Максімяну.

Прыгожы малдаванін, маіх гадоў, а мо і маладзейшы. Акцэнта зусім няма. Тонкі, назіральны, усмешлівы, іранічны. Усё паўтарылася як з Эліханам амаль слова ў слова.

— У Манголію?

— У Манголію.

— З Беларусі?

— З Беларусі. Іоне Друнэску! — выпаліў я, не чакаючы, пакуль ён назаве нашага вядомага літаратара. Але Алег не сказаў пра Ніла Гілевіча, і атрымалася з майго боку недарэчы.

— Праўда, што ваша мова нічым не адрозніваецца ад румынскай? — спытаў я.

— Праўда. Ну, што рабіць будзеце?

Я падумаў, што ён заве мяне на «вы» і яго цікавяць мае асабістыя планы, таму адказаў:

— Спаць сабраўся, ды надта ж цягне з дзвярэй скразняк...

Аказалася, ён меў на ўвазе шырэйшае, глабальнае пытанне: што вы, беларусы, думаеце рабіць далей, як жыць збіраецеся? І адразу ж сам адказаў:

— У вас, беларусаў, ёсць толькі адно выйсце. Яно да таго лёгкае і простае, што вы не хутка да яго прыйдзеце, але ўсё роўна прыйдзеце.

Я згараў ад цікаўнасці. Вось чалавек чужы, ведае рэцэпт выратавання Беларусі, над якім наша нацыянальная эліта столькі білася, столькі галоў за гэта склалі!

— Вам трэба перайсці на лацінку. І ўсё.

Сказаць яму, што ў нас і з кірыліцай не вельмі... Між тым Максімяну пачаў развіваць цэлую тэорыю на тэму, як яно складзецца далей. Усё я пазней амаль даслоўна прачытаю ў ананімнай брашурцы «Што будзе з СССР?» Яе пісаў нейкі аракул, новы Настрадамус. Прадказвалася там, што будзе з Прыбалтыкай, Закаўказзем, сярэднеазіяцкімі рэспублікамі. Памятаю добра апошні сказ: «Галоўным стане ўзвышэнне і крах Украіны». Усё амаль спраўдзілася, толькі ў розныя часы і ў іншай паслядоўнасці. Але вось лёс усяго адной краіны быў там прапісаны цьмяна, можа, таму я і не запомніў яго, менавіта — Беларусі.

Зазірнуў вахцёр і загадаў нам разыходзіцца, бо мы перашкаджалі яму працаваць. Максімяну развітаўся, я сяк-так скруціўся пад коўдрай і заснуў.

**3.**

Назаўтра — таксоўка, аэрапорт Шарамецьева-2; тут далучыліся Калоеў і паэт Расціслаў Смелы, масквіч, чацвёрты і апошні; так сабралася ўся наша кампанія.

Ляцець 8 гадзін толькі да Іркуцка. Каб не сцягвалася, кормяць, даюць бясплатна спіртное і дазваляюць курыць. Самалёт напалову пусты. Да мяне падсеў гэты самы Расціслаў Смелы, першае, што аб'явіў: «У мангола ж...а гола!» Праз паўгадзіны я ведаў яго біяграфію і крэда. З інтэлігенцкай сям'і, сын дзеяча кіно, быў ён сапраўды смелы — русафоб, якіх свет не бачыў. Такія тады (можа, і цяпер) не былі рэдкасцю. У перабудовачным чадзе ён паліваў Расію і рускіх, проста ненавідзеў барадатых русацяпаў, называючы іх зброд, быдла, калхоз, саўкі.

— Турма народаў, імперыя, няма ўвогуле такой нацыі — рускія, — распінаўся Смелы. — Вінегрэт, салат з чорт ведае каго і чаго: ад угра-фінаў да балгараў з мангола-татарамі.

На яго думку, колькі народнасцей, на столькі і павінна падзяліцца Расія: на Масковію, Наўгародскую Рэспубліку, Сібір, Татарстан...

— Рускія не здатныя на самастойнасць! Архітэктуру сяк-так зляпілі італьянцы, Росі з Растрэлі, мову эфіоп з шатландцам, літаратуру ўкраінец Гогаль-Яноўскі, хімію — яўрэй Мендзялееў, фізіку — Ландаў, філасофію — немцы Гегель з Шапэнгаўэрам, нават рэвалюцыю імпарталі, прывезлі з Германіі ў запламбаваным вагоне...

Яго русафобства не ведала межаў. «Ух ты, что ты, Ванька с Манькой коммунизм построили!» — казаў ён. Затое слова «Еўропа» вымаўляў з прыхлюпам, з захапленнем, з насалодаю заплюшчваючы вочы, да таго, што нават падвойваў «п»: «Еўроппа». Ён спяваў: «Вот так! — падымаў вялікі палец, — вот так! живут Америка с Европ-пой! Ну а у нас, ну а у нас, ну а у нас всё через ж...у!»

Спачатку гэта было цікава, потым абыякава, потым пачало раздражняць. Калі правакатар, дык надта прымітыўна, калі шчыра ўсё гэта — дык абрыдае, бачыш, што чалавек трохі прыдуркаваты і стараешся хутчэй пазбавіцца ад яго.

Я перастаў яго слухаць, задрамаў і ачомаўся, калі заходзілі на пасадку ў Іркуцку. Байкал — від зверху. Самалёт паставілі на дазаправку, нам — бясплатны перакус у аэрапорце. Каля ўвахода ў будынак аэравакзала старыя лістоўніцы ці то кедры.

Ад Іркуцка да Улан-Батара гадзіна лёту. І вось аэрапорт сярод гор, малюсенькая, ледзь заўважная палянка — і дотык шассі да чужой зямлі.

У аэрапорце нас сустрэў Чайдог Ядамсурэн. Пярсцёнак на пальцы, жанаты, двое дзяцей. Маладжавы, статны, язык падвешаны, скончыў маскоўскі ўніверсітэт, ведае англійскую, кітайскую, само сабою мангольскую, нават беларускую.

— А, Беларусь? Ніл Гілевіч!

Па дарозе ва Улан-Батар Чайдог правёў кароткую азнаямляльную лекцыю. МНР заціснута паміж Кітаем і Расіяй. Былая кітайская правінцыя. Унутраная Манголія і цяпер у Кітаі, а тое, што завецца МНР, — знешняя Манголія. Да 17-га года ўвогуле з Кітаем была такая ж сітуацыя, як у Беларусі з Расіяй: малодшы брат — старэйшы брат; глядзець у рот, адчуваць сваю другаснасць. Скарысталіся, як многія, рускай рэвалюцыяй, аддзяліліся, у 1924 годзе Сухэ-Батар устанавіў у Манголіі савецкую ўладу і аб'явіў МНР, незалежнасць якой да канца Другой сусветнай не прызнавала ніводная дзяржава, акрамя СССР. Так і жывуць. Выхаду да мора няма, але марское ведамства ёсць. Байкал лічаць сваім морам, як і Калмыкію, і Бурацію — сваімі, і горад Улан-Удэ — сваім горадам. Самыя старыя гавораць па-мангольску і разумеюць па-кітайску, сярэдняе пакаленне — па-руску.

— А ў вас ёсць апазіцыя? — пацікавіўся Расціслаў Смелы.

— Як і паўсюль. Празаходняга кірунку. Бунтары на плошчы юрту паставілі.

— Вам трэба хутчэй скідваць рускае ярмо!

— Амерыканцы будуць у гольф і ў тэніс гуляць, а мы мячыкі падаваць? — прабурчаў Чайдог.

Тым часам уехалі ва Улан-Батар, і тэма змянілася. Улан-Батар прыкладна як наш Гомель, тысяч 500, што складае амаль трэць усяго насельніцтва Манголіі. Маўзалей на плошчы, дзе ляжыць Сухэ-Батар. Помнік яму — копія Чынгізхана на ўздыбленым кані з шабляю. На самой справе гэта герой мясцовай грамадзянскай вайны: батар па-мангольску і ёсць герой, Улан-Батар — «Чырвоны Герой». А да рэвалюцыі зваўся проста Урга, ці Юрга. Чайдог націскаў на самасць, усіхняя звычка любога народа — пахваліцца, што ў іх самае-самае. У дадзеным выпадку было заяўлена, што сярод усіх сталіц свету ва Улан-Батары самая нізкая сярэднегадавая тэмпература — халадней, чым у Маскве, Астане і Хельсінкі.

— А яшчэ ў нас самыя дарагія прастытуткі ў свеце, — дадаў ён, і мы пільней пачалі ўглядацца ў людзей на вуліцах, але твары разгледзець было не так проста: многія носяць марлевыя павязкі, што для нас было дзікавата.

— У Гобі эпідэмія, — патлумачыў Чайдог.

Гатэль «Улан-Батар», куды нас засялілі, як сказаў бы Аверчанка, быў самы лепшы гатэль, ён жа адначасова і самы горшы, таму што гэта быў адзіны гатэль еўрапейскага кшталту ва ўсім Улан-Батары. Дзверы зачыняюцца толькі ўваходныя, астатнія перакошаныя, скасабочаныя, што адразу нагадала мне Маскву, вуліцу Дабралюбава. Туалет малюсенькі, ні душа, ні ванны няма, адзін агульны ванны пакой на ўвесь паверх.

— Кітайцы рабілі, — апраўдваючыся, сказаў Чайдог.

— Ну і правільна зрабілі, — падхапіў Максімяну, — навошта мыцца? — толькі час губляць.

Гэты малдаванін усё хваліў, пачынаючы ад аэрапорта; захапляўся гарадскімі хрушчоўкамі, маўзалеем, гатэлем, а калі нас павялі ў Саюз пісьменнікаў Манголіі, спытаў у сівабародых аксакалаў:

— Колькі гадоў вашаму самаму маладому пісьменніку?

Сумеўшыся, збянтэжыўшыся, падлічылі, успомнілі:

— Сорак.

— Ну і правільна!

Між тым і Максімяну са сваёй іроніяй, і мангольскія пісьменнікі былі недалёкія ад ісціны — пазней я прачытаю, што і правы на кіраванне транспартам пажадана выдаваць з 40 гадоў, калі чалавек пачынае хоць трохі цаніць сваё і чужое жыццё.

Да мяне падыходзілі, абдымалі, прыязна ўсміхаліся, казалі з адабрэннем:

— Беларусь! Ніл Гілевіч!

Высветлілася, што не раз прыязджаў сюды наш славуты паэт, і заваяваў мангольскіх калегаў сваім розумам, гумарам, досціпам, абаяльнасцю, і для іх Беларусь і Ніл Гілевіч засталіся сінонімам, чымсьці непадзельным, як Амерыка і статуя Свабоды. З аднаго боку, мне было прыемна гэта, з другога — я бачыў на тварах лёгкае расчараванне, бо яны, відаць, думалі што ўсе беларусы высокія, статныя, дасціпныя, і што ім было б прыемней, цікавей, калі б прыляцеў замест мяне іх любімы сябар.

Візіт у Рускае консульства, там — Крупін і Распуцін, абодва падобныя знешне, з бародкамі, худыя і высачэнныя. Расціслаў Смелы заплямкаўся: цемрашалы, русацяпы! — і выбег на вуліцу, пайшоў на плошчу ў юрту гаварыць з апазіцыянерамі-нефармаламі.

Потым быў рэстаран з мангольскай ежай, якой я, еўрапеец, імгненна атруціўся. Справа ў тым, што мяса тут звычайна крыху не даварваюць — для захавання вітамінаў; потым — усе стравы мангольскай кухні гатуюцца без спецыяў, і яшчэ — у традыцыйнай кухні практычна адсутнічае хлеб, замяняе яго мясцовая лапша. Але самае галоўнае — авечы курдзючны тлушч, які адграецца так, што выварочвае вантробы. Усё прапітана ім. Нават у гарбату, якая па-мангольску — цай, дадаюць, акрамя малака, солі, падсмажаны мукі гэты самы авечы лой. А трэба было абавязкова паспытаць нацыянальную страву, дзе адначасова перцаў і другое; называецца хар-шул — булён, у якім вараць бараніну і субпрадукты.

**5.**

Назаўтра — дзень азнаямлення з музеямі. Іх тут нечакана многа. Музей Нацацдоржа, Дзяржаўны цэнтральны музей, Музей-рэзідэнцыя Багдахана, Храм-музей Чайджын-ламы, Музей рэвалюцыі, Музей паляўнічых трафеяў або фаўны Манголіі... У апошнім — чучалы жывёлаў якіх толькі хачаш: гадзюкі, маманты, які, насарогі, стравусы, горныя казлы, архары і вярблюды. Дзікія коні. Прыгожыя алені. І тут жа лукі, стрэлы, коп'і, і прыстасаванне — вострае лязо на пятлі-вяровачцы, у якую трапляе нага аленя і якое потым падсякае яму сухажылле.

— Кажуць, жанчына прыдумала.

У мангольскай мове да некаторых слоў дадаецца артыкль, кшталту французскага «ля» — у манголаў гэта «тав». Гастраном, а па-мангольску Тав Гастраном, музей — а напісана: Тав Музей.

— Якая мова прыгожая, спавжная — таварыш музей, — жартаваў Максімяну.

Тав Музей пабыту. Тав Музей выяўленчага мастацтва. Тут адбыўся невялічкі інцыдэнт. Расціслаў Смелы, трымаючы ў руках буклет, заявіў:

— А вось гэта абражае маё эстэтычнае пачуццё! Чалавек прыходзіць у музей, каб набрацца чысціні, прыгажосці, гармоніі, разгортвае кніжку і чытае: тус музейн узмэр хуй нэгдэл. Першы сказ!

Я разгарнуў сваю кніжачку і акрамя першага прачытаў і другі сказ. Ён пачынаўся так: «Хуй нэглийн уейін тасагт...»

Чайдог закашляўся, пачырванеў.

— У нас гэтае слова мае тры значэнні. Тут у значэнні экспанат. Але яшчэ гэтае слова — ножны, тайфун, тарнада. Так што выбірайце...

Манголы любяць карціны-палотны шырокага фармата: эпізоды ад нараджэння да смерці. Карціны выкананы азіяцкай тэхнікай — гэта калі намаляваныя прадметы і людзі не адкідваюць ценяў. Скульптуры ўсе ў асноўным на будысцкія матывы. З дрэва, металу, бронзы, золата, срэбра, каменю, мармуру; звычайныя выявы, як мы — з дзвюма рукамі, дзвюма нагамі, і як павукі — з некалькімі нагамі і рукамі, але ва ўсіх фалас, на фаласе сядзіць азіятка. Або ляжыць такі батыр на спіне. Адна сядзіць задам да яго, там, дзе і трэба ёй сядзець, дзве іншыя — адна злева, другая справа — на вялікіх пальцах рук, і яшчэ дзве — тварам да яго, на вялікіх пальцах ног. Цікавы выраз іх твару — сур'ёзны, без аніякай эмоцыі, вочы абыякавыя, нібы чалавек ляжыць і механічна прабягае вачыма нецікавую газету ці думае пра тое, як бы не праспаць заўтра на працу ў цэх мінскага падшыпнікавага завода.

У Музеі-рэзідэнцыі Багдахана карэта — рэдкасць, французскай вытворчасці — і кафельныя таблічкі, на якіх каляровыя малюнкі з Камасутры. У будысцкіх храмах, дзе бубняць ламы ў сваіх аранжавых балахонах, — будысцкія багі, заўсёды голыя, на фаласе — абавязкова маладая манголка. На сценах і на стале скрозь страшныя, размаляваныя драконы з агнём з пашчаў.

— Чаму вашыя багі такія страшныя і юрлівыя? — спытаў я ў Чайдога.

— Можа, таму, — падумаўшы, адказаў ён, — што чалавек павінен баяцца таго, хто мацней, хто страшней. Як ён будзе верыць і баяцца і паважаць штосьці добрае, сімпатычнае, бяскрыўднае?

Увечары да мяне ў нумар зайшоў Калоеў з пляшкай гарэлкі, паўбуханкай хлеба «Дарніцкі» і двума вялізнымі памідорамі з соллю ў газетцы.

— З Масквы засталося. Бачу, як табе кепска... Не ясі нічога.

Я дастаў шклянкі.

— Што ты думаеш пра ўсё гэта? — як і Максімяну ў Маскве, спытаў Калоеў.

Я пацiснуў плячыма, не разумеючы, што ён мае на ўвазе.

— Ты заўважыў, якія карціны? Які дух, якія пачуцці яны выклікаюць, якое значэнне яны, іхнія багі, надаюць палавому акту? Ніякай сакральнасці, ніякага інтыму, усё будзённа... А потым здзіўляемся, адкуль войны, рэвалюцыі, чаму гінулі і яшчэ будуць гінуць мільёны, мільярды людзей! Ну, не дзеля ж такога абсурду, як ідэалы або вера!

— А чаму?

— Я скажу. У аснове любой вайны, рэвалюцыі, барацьбы — змаганне Мужчыны з Жанчынай. Паміж імі поўная непрымірымасць, люты антаганізм. На зямлі толькі два класы, два лагеры, дзве партыі — Мужчыны і Жанчыны. Немагчыма прыдумаць дзве большыя непадобнасці, дзве большыя супрацьлегласці, вымушаныя ўжывацца на адным шарыку!

Я піў гарэлку, закусваў чорным хлебам з памідорамі, якія перад тым, як адкусіць, мачаў у соль, а Калоеў, захапіўшыся, развіваў сваю тэорыю. Потым я даведаўся, што ён разведзены, а гэта для каўказца рэдкасць, можа, адсюль і ішла яго апантанасць гэтай тэмай.

— Калі ўдумацца, жанчыны нават як бы і не людзі, а нейкія зусім іншыя, асаблівыя істоты, прынесеныя з Космасу, што жывуць побач з людзьмі. Яны лепш за мужчын арганізаваныя, лепш прыстасаваныя, бо ўмеюць прыкідвацца слабымі, а слабасць — самая моцная зброя. Таму яны перамагаюць. Некалі вялікі паэт сказаў: крытыкуйце мужчын, сварыцеся на іх, злуйцеся — нікому ў галаву не прыйдзе заступіцца, абараніць, пашкадаваць іх; але толькі дакраніцеся да слабага полу — усе жанчыны паўстануць на вас адзінадушна, яны складаюць адзін народ, адну секту.

Усё жыццё, працягваў Калоеў, ад заснавання свету, як толькі ўзніклі Мужчына і Жанчына, яны баяцца, не разумеюць і ненавідзяць адно аднаго; адсюль іх і цяга адно да аднаго. Называецца гэтая цяга «працягам роду», «каханнем», гэта значыць палавымі актамі, а любы палавы акт — праява насілля, нянавісці; мала што можа быць больш агіднага, жывёльнага, чым перакошаны твар у час экстазу; займацца каханнем смела можна перайначыць на «займацца нянавісцю»...

Я слухаў і не слухаў — больш прыслухоўваўся да свайго жывата, і з радасцю адчуваў, што гарэлка памагае; нават спаць захацелася; і я з падзякай, з любоўю паглядваў на ўзрушанага Аслана, і згаджаўся з ім у думках — не жанчына, праўда ж, а ён, мужчына, адчуў, што мне кепска і прыйшоў памагчы.

Тым часам усё рабілі для нас у плане азнаямлення з прыродай і побытам... Пабылі ў юрце. Жыве інтэлігентная маладая сям'я, настаўнікі, перабраліся з Улан-Батара на прыроду — хоць на лета. Апранутыя ў нацыянальныя строі, на нагах скураныя мяккія боты з загнутымі насамі — «каб траву не пашкодзіць, зямлю не параніць», патлумачыў Чайдог (а я думаў, каб у стрэмя спрытней упіхнуць); зрэшты, сапраўды калупаць зямлю тут лічыцца грахом, агароду не ўбачыш: цыбулю, часнок, бульбу, капусту, моркву, рэпу — усё купляюць і не ядуць сырымі, а толькі прыгатаванымі на пары. Спіртное гоняць з кабылячага малака, называецца архі — малочны самагон, нібыта градусаў 10 атрымліваецца, як алей, як машыннае масла, такое ж на смак. Калі каля юрты бегаюць дзеці, хлопчык з дзяўчынкаю, абсалютна голыя (пацвярджваючы сказаную ў самалёце прымаўку Расціслава Смелага), затое ў адрозненне ад бацькоў гавораць не па-руску і не па-мангольску, а па-французску.

— Ну, і правільна, навошта чалавеку трусы? — так здаравей, — казаў Максімяну. — Абы французскую мову ведалі.

Пад вечар спыніліся перакусіць у турыстычным кэмпінгу, вельмі прыгожая мясцінка, на лясной паляне, за лесам — сінія горы пад белымі шапкамі. У ляску, куды адлучыліся па малой патрэбе, знайшлі грыб, падобны на масляка, толькі не карычневы зверху, а белы — альбінос.

— Глядзі, якія ў іх маслякі, — сказаў я Расціславу і лёгка злупіў скурку з грыба.

— Тут не можа быць нашых грыбоў! Гэта лісавіннік. Ну, канечне! Давай спрачацца!

— Такога слова не ведаю.

Расціслаў нечакана ўзгарэўся, адчапіцца ад яго было не так проста. Уцягнулі Чайдога, заклікалі ў сведкі, але ён не цікавіўся грыбамі, не ведаў нават мангольскай назвы. Калоеў і Максімяну — не лясныя людзі. А Расціслаў не ўнімаўся. «Давай спрачацца на ўсе грошы, якія з табой!» У мяне было 170 тугрыкаў, а ўсіх на 14 дзён — 400, значыць, палавіна, ды яшчэ ўлічваючы, што мы пяць дзён пражылі — большая палавіна.

— А я, калі прайграю, табе ў гатэлі аддам! Пры сведках! Ну што? Баішся?

Вучылі мяне з дзяцінства — не спрачайся ніколі ні з кім, не гуляй у азартныя гульні. Чорт за мяне працягнуў маю руку.

— Спрачаемся! — каб толькі не бачыць гэтага ненармальнага ўзбуджэння, каб толькі ён адчапіўся ад душы. Дзве думкі адначасова прамільгнулі: першая — навошта мне грошы, усё роўна есці не магу, на цыгарэты хопіць, і другая — не возьме ён.

Зацікаўленыя нашым шумам, ад задніх дзвярэй кавярні падышлі два манголы, пагаварылі па-мангольску з Чайдогам. Расціслаў прыліп да іх: што гэта за грыб? Манголы не ведалі. «Масляк?» — «Масляк», — пацвердзіў адзін. — «Ці лісавіннік?» — «Лісавіннік», — крышку больш упэўнена паўтарыў другі. І гэтай мікраскапічнай долі ўпэўненасці аказалася дастаткова, каб мае грошы спрытна апынуліся перш у далоні Расціслава, а далей схаваліся ў партманеце і ўрэшце ў кішэні яго джынсаў.

Адзін з рабочых узяў грыб:

— Ты за гэта заплаціў 170 тугрыкаў?

Усім было няёмка, акрамя Расціслава. Ён паспакайнеў, палагоднеў. Паляпаў мяне па плячы, прыабняў:

— Вось так. Мяне ніхто ў жыцці ніколі ў спрэчках не пераможа. Есаул, есаул, что ж ты бросил коня...

Калі ўжо зусім позна было, завярнулі да яшчэ адной юрты. Там жылі толькі мужчыны, чалавек сем. Усе паміж сабой гавораць толькі па-руску. Ні да таго, ні пасля я ў жыцці не бачыў больш ветлівых, добрых, ціхмяных людзей. Пакаталі нас па чарзе на высокім кані, прычым абавязкова ішоў збоку мужчына, трымаючы каня за вуздзечку. Трохі пагаварылі.

— А, Беларусь! — узрадваўся мужчына. — Ніл Гілевіч, — прамовіў ён слова-пароль. — Я быў у Беларусі, у Оршы...

Беларусь, Орша, Ніл Гілевіч... І дзе я чую гэтыя словы — пасярод дзікага мангольскага стэпу, у чорта за светам! Мы вырашылі, што гэта якiясь вучоныя-этнографы, эколагі, набіраюцца практыкі сярод роднай прыроды...

Сонца зусім схавалася на далёкім захадзе.

— Давайце тут заначуем.

Чайдог ухіліста, хаваючы вочы, адмовіўся: «Не, ні ў якім разе, паедзем...» Па дарозе растлумачыў, што мы былі ў гасцях у рэцэдывістаў. Серыйныя забойцы, канібалізм, скаталожства...

— На перавыхаванні тут. Чаго ім у турме сядзець? І карысць ад іх, і яны задаволеныя...

— А калі разбягуцца?

— Відаць, даваraюць ім.

Нават гэты эпізод нікога не здзівіў і не рассмяшыў. Мы былі стомленыя, брудныя, цвярозыя, хацелі спаць. Мы ўжо бачылі, ведалі, што ўсё тут багатае, экзатычнае, усё ёсць — акрамя яснасці, правільнасці, парадку, арганізацыі гэтага ўсяго багацця, да якой інтуітыўна цягнецца еўрапеец. Мы прыехалі сюды поўныя сіл, энергіі, самазадаволеныя, упэўненыя, пыхлівыя — кшталту цывілізаваныя людзі, што ашчаслівілі сваім наведваннем Богам забытую кітайска-рускую калонію. Цяпер, калі не прайшло яшчэ і тыдня, мы разумелі, што Манголія перамагла нас. Мы аказаліся не гатовыя да яе нават у якасці турыстаў. Яе стыхія, азіятчына, першабытнасць, разнастайнасць, бяскрайняя вольніца — усё гэта хутка абламала нас, прыцішыла; прыгнечаныя, паніклыя, стомленыя, мы адчувалі, і ўголас казалі, што толькі дзве радасці ёсць у Манголіі: першая — калі сюды патрапляеш, і другая — калі з'язджаеш.

Ва Улан-Батар вярнуліся каля гадзіны ночы, знясіленыя, разбэрсаныя і галодныя. Тут нас чакаў новы ўдар — рэстаран пасля 24 абслугоўвае толькі за даляры. Разам з намі апынулася каля дзвярэй нейкая амерыканка, таксама вярнулася з позняй вандроўкі і, мусіць, адчувала тое самае, што і мы. Спыталася ў Чайдога, у чым справа. Ён патлумачыў.

— Я запрашаю вас усіх, — сказала амерыканка.

— Пайшлі! — загарэўся Расціслаў.

Заманліва было, але ж у нас гонар, а яшчэ больш — сорам...

Я ўжо распранаўся, калі ў дзверы пастукаў Чайдог. У нумары Калоева ўсе былі ў зборы, у тым ліку і амерыканка з вялікай пляшкай джына. Стаяў ядлаўцовы пах. Амерыканка пажылая, з добрымі сінімі вачыма, мала гаворыць, многа слухае. Спачатку гаварылі ўсе адначасова і хутка, Чайдог ледзь паспяваў перакладаць. Калоеў даказваў пра абсурднасць любой барацьбы, пакуль кіруе яго вялікасць інстынкт (я ведаў, што ён мае на ўвазе: глабальную вялікую вайну двух палоў, якія вымушаны ўжывацца на адной Зямлі). Расціслаў Смелы горача пераконваў, што Манголіі з такой багатай прыродай і з такімі рэсурсамі трэба рваць з Расіяй.

— А самім шарыкі падаваць для гольфа? — насмешліва адказваў Чайдог.

— Усё правільна, — падтрымліваў невядома каго Максімяну.

Амерыканка ўсміхалася, слухала ўважліва, згодна ківала і адказвала: «Уес». Потым усе супакоіліся, сядзелі моўчкі: старая амерыканка, беларус, мангол, асецін, малдаванін і рускі — і па чарзе пілі джын з рыльца, трымаючы аберуч цяжкую двухлітровую чатырохгранную бутэльку. Наступала шостая раніца нашага прабывання ў Манголіі. Заставалася яшчэ восем.

**2015 г.**

# Жыцця вяршыня і верша



Мікола МАРТЫНЮК

* * *

*Жыцця ўсяго з Вялікадня да Тройцы,*
*А рэшта — пост… Далей — да плоці крок.*
*А я такі ўжо… (veni! vidi!) віцязь,*
*Што хто б… прыйшоў.*
*Пабачыў, перамог!..*

*Жыцця таго — тры прэсных крошкі*
*ў жмені,*
*А рэшта — соль… А болей — слёзы й кроў.*
*І зноў — бы тромб у (vidi! vici!) вене:*
*Пабачыў, перамог!.. Ды ці прыйшоў?*

*Так і жывем, пустэльнікамі сыдзем:*
*То радасці, то горкая журба…*
*Ці зразумееш гэты (vici! veni!) відзень:*
*Хто перамог, прыйшоў, а хто паба…*

*Ці ў гэтым сэнс? На смех усе ваганні…*
*Ты мусіш знішчыць іх бязмежны рай!..*
*Параза/перамога — хай не ганяць,*
*Ды я, на жаль, не Цэзар.*
*Юлій.*
*Гай.*

* * *

*А ночы зноўку пахлі львоўскім півам…*
*І вечны дыспут: пан — прафан — прапаў…*
*І месяц-здраднік помсліва й зласліва*
*Інтрыгу краў світанкавых актаў.*

*І вечны покліч: хто мы паміж зораў?..*
*Банальна ўсё, як снег сярод зімы…*
*Сапраўдныя мы з Богам, як у творах,*
*Хаця і ў вершах часам мы — не мы.*

*І прыйдзе ўсё: адплаты і вяртанні…*
*І пройдзе ўсё, нібыта не было.*
*«Быць ці не быць?» —*
*бясконцыя пытанні —*
*Бы ўсё зямное, зменяцца на тло.*

*Адыдзем мы, прыгожыя на дзіва.*
*Нам на слязу нікога не натхніць…*
*А ночы зноўку пахлі львоўскім півам,*
*Нібыта травы ў прадчуванні навальніц.*

### Зімовая містэрыя

*Дзень крыкнуў птахам і ачах,*
*Скруціўся гадам.*
*Цяжарыў месяц на вачах*
*Над даляглядам.*

*Воўк надсадзіў жыцця працяг*
*Магільным сола.*
*Ноч серабрыла Млечны Шлях*
*І свет наўкола.*

*Чакаў ахвяру хіжы жах —*
*Без плоці голем.*
*Зіма стварала сагу саг*
*Завейным болем.*

* * *

*Перавітыя дні*
*Перавяслямі шляху,*
*На нябесным агні*
*Сонца спальвае плаху,*
*Што на розных прыблуд*
*Рыхтавалася дзецьмі,*
*Каб сусвету тут суд,*
*Нібы сутву даўмець нам.*
*Нібы плату за страх,*
*Як бясконцую трызну,*
*Ім паранены птах*
*Прыхіляе айчызну.*
*Перавітыя дні*
*Перавяслямі шляху,*
*На нябесным агні*
*Сонца спальвае плаху.*

* * *

*Па-над усім*
*паэт любіў*
*аўтографы*
*калекцыянаваць*
*Сабраў нямала*
*найбольш рэдкіх*
*Не спяшаўся адно*
*па аўтограф*
*да Бога*

# І да бога змяняюцца коды



Валадзімір ВАКУЛЕНКА

### Іншае

*Закісаюць жаданні, у ночы прымаем мы роды.*
*Вунь і зорка зляцела — шмат вядома,*
*але за дзвярыма*
*Ўжо не просяць зайсці,*
*і да Бога змяняюцца коды,*
*Пыл на талент абсеў, а яму хоць бы што*
*— дзеля рыфмы…*

*Рыбы цішу дап'юць; хай у глеі, пакінуць*
*нам вершы.*
*Верыць трэба, а ноч прыбірае*
*у стужкі світанак;*
*Колькі ў Леце трухі — СМС у жыцці*
*стала першай,*
*Калі піша нам смерць пасля песень*
*п'яных і гулянак.*

*Супакойся: аўрал пачынаўся яшчэ*
*ў першым бунце.*
*Што іначай цяпер — не інакш як з таго,*
*што мінула.*
*Звербаваныя ўсе берагі на прыёмным*
*падпункце,*
*Без паэзіі ўжо ці трохі, ці цалкам паснулі.*

### Чарніла

*Я сведка таго,*
*Што мой верасень розум згубіў пасярэдзіне,*
*Нічога не з'еўшы на ранак,*
*Не ўзгадаўшы застольнай малітвы…*
*Восень, ты ж — у жаху падзення.*
*Зіма пакуль што на варце,*
*Каб ахоўваць цябе.*
*Верасень-злодзей*
*У лецейка скраў квітненне —*
*Трохдзённым будзе свята*
*У Вінніцы.*
*А далей маразы.*
*Чарнілам паэты спісаныя.*

### Лігатура

*Свет — літаратар.*
*Літары й мацюканне;*
*Алітэрацыя алкагольных узгадак.*
*На сподзе гадаў злосць языкоў —*
*Агонь у агонію кідае!*
*Як хочацца жыць і спакойна*
*Ў пакоі чорна-белых дзён…*
*У дні неставанне гадзін.*
*Адзін я, басанож, распрануты, з вітрын*
*Дэвальвуюся манекенам, людам,*
*Грамадскімі лялькамі…*
*Назаўжды застаюся*
*П'яною памяццю, прымятаю мятаю,*
*Літрамі, матамі. Мы, літаратары, —*
*Для тых, каму выгадна,*
*Для тых, чый канвеер, —*
*Для нас мясарэзка!*
*Так хочацца з чагосьці пачаць,*
*Не закрычаць, пячатку*
*На востраве ціхім*
*Садраць… Далей я абрыдзеў?*
*Далей я сябе аддаляю…*

### Плюшавыя людзі

*Людзі плюшавыя*
*пілавіннем набітыя будняў*
*кожны другі з іх геній*
*кожны трэці — прарок*
*і я паміж іх*
*на шосце з рухомымі прусакамі*
*гандлюю бягамі падсвядомасці*
*пакідаю аўтографы лжэпрарочыя*
*бо як казаў Ягорка*
*я шчэ жывы*
*дык забі мяне любер*
*два ў кубе сонца*
*з плашчаніцы студні*
*часам вадаспадам*
*а часам і ледзяшом*
*што звісае з вігвама Аляскі*
*тое музыка-казка*
*моваю кобзы*
*нервамі кантрабаса*
*з балалайкаваю гарэлкай*
*ды на лыжках Неа*
*лета топлесам сцервы*
*згары да долу кветкі*
*у што верыць*
*калі з большасці*
*сыпецца сточаны прах*

# Багі ажываюць намі



Аляна РУТА

* * *

*Калі распінае болем,*
*Калі выцінае шокам,*
*Ты станеш чужым полем,*
*Ты станеш чужым вокам.*

*І стане табе цесна*
*Між подыхам, словам і крокам —*
*І гэта шлях твой дзейсны,*
*І ён — углыбкі спакою.*

*Калі адатнеш нервы,*
*Цябе не пачуе й камень —*
*Багі ўжо даўно памерлі.*
*Багі ажываюць намі.*

*Здалееш сваю гаВЕРлу —*
*Забудзеш, што джаляць раны.*
*І сцежка нікуды не зВЕРне*
*З жарствою,*
*з крывёю*
*рання.*

* * *

*А я ўцякла. Прыбегла, як на сполах*
*У ваш неміласэрна родны свет.*
*Прасіла цішы й сцен маўкліва-голых,*
*Крыху вадзіцы — змыць мой рабскі след.*

*Прасіла цемрадзі. Без люстраў і вакон,*
*Не бачыла каханае няволі.*
*Крыху вадзіцы й гострых верацён,*
*Як пакаранне, што забыла волі колер.*

* * *

*Расплюшчы вочы*
*Й не думай,*
*Што вечнасць ёсць сапраўды.*
*Яе прыдумалі адумысна,*
*Каб адцягнуць*
*Ад найцэласнейшага —*
*Ад імгнення*
*Цяперашняга.*
*Вечнасць —*
*Гэта калі ты маеш багата*
*Часу ні на што.*
*А імгненне —*
*Калі ты маеш дуж-жа*
*Мала часу*
*На ўсё.*

* * *

*А я сябе згубіла, запляла*
*У косы вусцішы, прыпраўленае сумам.*
*Вярнуся я, а як жа не прыйсці*
*Бязладдзем, цяжарам і холадам бяздумным.*



*Салёным прывідам, глыбокавокім цудам,*
*Запечанай кавалкамі спакусы.*
*Але не той, што тлее ўся ад болю,*
*А створанаю болем я вярнуся.*

* * *

*Гэта і ёсць пачатак паэзіі,*
*тое, што я не разумею гэтага свету.*
*Чорт з ёю, з двудушнасцю — я звыкну.*
*Ды не, не звыкну.*
*Я проста выхваляюся для блізіру.*
*Я не звыкну, і гэта будзе*
*найгоршая мая нязвычка.*
*Бо*
*на адной дарозе*
*аднаго чалавека —*
*я бачу —*
*не змяшчаюцца іпастасі*
*securiтнапраўдзівыя.*
*Гэта і ёсць паэзія,*
*гэта яе кроў*
*(не рыфмаваць з любоў).*
*Сумленне суровае,*
*і здрада —*
*не лекі і не транквілізатар,*
*і не лад жыцця аднаго з аблічаў.*
*Тут не будзе рэха,*
*кліч не кліч.*
*Глеба*
*нейкая*
*глейкая.*

### Развітальнае

*Захад сонца масты выпальвае:*
*Памаранчавы крык вады…*
*Між крыжамі і вострымі палямі*
*Па лязе развітання прайдзі.*

*Паза-ўчора, у паза-вечнасці*
*Не было ні красы, ні хімер.*
*З паза-ўчырасцю ў паза-вернасці*
*Ты заснуў. Ты забыў. І ты ўмер.*

*І адплача цябе шэпт рэальнасці.*
*І не будзеш ведаць мяне.*
*З паза-самасцю ў паза-існасці*
*Шкадаванне й журба міне.*

### Проста

*развітаемся нас паклікалі*
*і не мае на свеце формул*
*каб памножыць боль шчасця звыклы*
*ў шчасці злосць перасохла горла*

*пасля шторму світанкі сівеюць*
*я сабе высцілаю шлях*
*не тваімі слядамі стыгматамі*
*пылам зорным, што на нагах*

*запісана ўсё і аздоблена*
*розум ў гульнях эрзацамі фраз*
*сэрца ёсць ды ўваход забаронены*
*і вяртацца дадому пара*

*файна йсці і далёка і блізка*
*і не йсці і не быць і не тут*
*да узору нямога прыгледзься*
*шчасце й неба проста жывуць*

**Пераклала з украінскай**
**Аксана Спрынчан**

# Старонкі новай кнігі

Уладзімір АРЛОЎ

## Давыд Гарадзенскі

**У часы валадарання вялікіх князёў Віценя і Гедзіміна ў нашай дзяржаве ды ў іншых блізкіх і далёкіх землях грымела слава гарадзенскага старасты Давыда, мужнага і ўдалага змагара з крыжацкай навалаю.**




### Сын князя Даўмонта

Давыд быў сынам князя Даўмонта, які калісьці моцна пасварыўся з Міндавам і разам з вернымі баярамі і дружынай з'ехаў з родных мясцін у Пскоў. Жыхары гэтага старажытнага горада, якому ўвесь час пагражалі крыжакі, абралі Даўмонта сваім князем. Пскоўцы не памыліліся: іхні ўладар адбіў шмат нямецкіх нападаў і за вялікія заслугі пасля смерці быў абвешчаны святым.

Даўмонт браў сына з сабою на паляванне, калі той быў яшчэ падлеткам. Князевіч хутка навучыўся ўпэўнена сядзець на кані, добра «чытаць» звярыныя сляды і знаходзіць правільны шлях нават у самай густой пушчы. Хаджалыя паляўнічыя хвалілі Давыда за трапную стральбу з лука. Хлопчык мог, скачучы на кані, пацэліць і ў зайца на зямлі, і ў каршуна ў небе. Ён ніколі не вяртаўся дадому з пустымі рукамі.

Бацька рана пачаў браць сына і ў баявыя паходы. Князь Даўмонт заўважыў, што ваярская справа цікавіць Давыда нават больш, чым паляванні. Юнак не толькі загартоўваў цела і дасканаліў валоданне зброяй, але і вучыўся ад бацькі кіраваць войскам. Нягледзячы на ягоны яшчэ зусім малады век, Давыда ў Пскове любілі і паважалі. Шмат хто думаў, што сын стане бацькавым наступнікам на княскім пасадзе.

Аднак, пахаваўшы бацьку, Давыд развітаўся з пскоўцамі і выправіўся на радзіму, у Літву-Беларусь. Малады князь хацеў служыць зямлі продкаў. Ён адчуваў, што якраз там здолее найлепей прыкласці свае здольнасці.

### «Будзем стаяць непарушна!»

Вялікі князь Віцень і ягоныя прыдворныя сустрэлі Давыда насцярожана. У Вялікім Княстве Літоўскім памяталі, што ягоны бацька варагаваў з Міндавам, а з Пскова хадзіў вайною не толькі на немцаў, але і на Полацкую зямлю.

Але неўзабаве ўсе ўбачылі, што малады князь — выдатны ваяр, які ніколі не хаваецца за чужыя спіны, і шчыры чалавек, які адразу палюбіў радзіму сваіх бацькоў.

Віцень даверыў Давыду абарону памежнага Гарадзенскага замка, на які зноў і зноў нападалі падступныя і жорсткія крыжакі-тэўтонцы.

Ворагі, што стаялі на мяжы нашай дзяржавы, мелі моцнае дысцыплінаванае войска і надзвычай добрую зброю. Яны ўжо здолелі захапіць Прускую зямлю. Частка яе жыхароў уцякла ў Вялікае Княства, астатнія ж прусы з часам анямечыліся: страціўшы сваю мову, веру і звычаі, ператварыліся ў немцаў.

Тое самае захопнікі хацелі зрабіць і з нашымі продкамі. Ды вельмі хутка крыжакі зразумелі, што могуць зламаць сабе зубы.

Спачатку Давыд разам з Гедзімінам, будучым вялікім князем, разбілі каля гарадзенскіх муроў войскі знакамітага крыжацкага ваяводы Конрада Ліхтэнхагена. Немцы апраўдваліся перад сваімі, што гэта здарылася выпадкова, але да наступнага нападу рыхтаваліся надзвычай старанна.

Праз год гарадзенцы ўбачылі, як да горада зноў набліжаецца велізарнае варожае войска. «Будзем стаяць непарушна!» — абвясціў сваім ваярам князь Давыд.

Крыжакоў было больш за шэсць тысяч. Разам з лёгкай конніцай наступалі цяжкаўзброеныя рыцары на закутых у жалеза баявых конях. Немцам удалося захапіць і спаліць вуліцы, размешчаныя вакол замка. Аднак, калі натхнёныя першым поспехам крыжакі пайшлі на штурм замкавых умацаванняў, іх сустрэлі сапраўдныя хмары стрэл і град камянёў. Здавалася, абаронцам дапамагае само неба.

І тут адбылося тое, чаго захопнікі зусім не чакалі. У самым кіпені бою замкавая брама раптам расчынілася і гарадзенская дружына, якую вёў Давыд, ударыла па немцах так рашуча і моцна, што тыя адступілі за Нёман.

Пасля той перамогі Давыда і назвалі Гарадзенскім.

### У Прусію не вярнуліся

Самую славутую перамогу над крыжакамі Давыд здабыў у 1314 годзе. Тады нямецкія рыцары тры разы нападалі на Вялікае Княства Літоўскае. Монцнае варожае войска рушыла на нашу тагачасную сталіцу — Навагародак. Яно хацела ўдарыць у самае сэрца дзяржавы.

Гарадзенцы на чале з князем Давыдам выйшлі на дапамогу.

На ўзбраенні ў нашага ваяводы былі і смеласць, і ваенная хітрасць. Нечаканым нападам гарадзенскі князь перабіў палову крыжакоў, а таксама захапіў паўтара тысячы коней і ўсё нарабаванае захопнікамі дабро.

А потым ён павёў сваё войска тым самым шляхам, якім прыйшлі крыжакі, але ў адваротным кірунку. Усе зробленыя немцамі ў лясах сховы з харчовымі прыпасамі трапілі ў рукі нашым ваярам.

Вяртаючыся, немцы ўбачылі на месцы сваіх сховішчаў адну перабітую варту. Роспач ахапіла галоднае варожае войска. Амаль ніхто з тэўтонцаў у Прусію не вярнуўся.

Пасля гэтага немцы чатыры гады не асмельваліся нападаць на нашу краіну.

### Падступнае забойства

Князь Давыд граміў няпрошаных гасцей на сваёй зямлі і хадзіў паходамі на нямецкія ўладанні. Некалькі разоў яго клікалі дапамагчы бараніцца ад крыжакоў жыхары Пскова, якія добра памяталі і шанавалі Давыдавага бацьку Даўмонта і самога маладога князя.

Гарадзенская дружына разам з пскоўскімі ваярамі разбіла шматтысячнае крыжацкае войска, паклаўшы на полі бітвы безліч тэўтонцаў. Налета наш ваявода яшчэ раз разбіў ворага пад сценамі Пскова, а затым узяў нямецкі горад Рэвель.

Крыжакі так і не здолелі перамагчы князя Давыда ў адкрытым баі. Тады яны вырашылі адпомсціць яму падступна і подла.

Аднаго разу шэсцьсот тэўтонцаў патаемнымі сцежкамі прабраліся ў наваколле Горадні і абкружылі родавую сядзібу ваяводы Давыда.

Усіх яе жыхароў напаткала смерць ад нямецкіх мячоў і дзідаў. Загінула і Давыдава жонка Бірута, дачка вялікага князя Гедзіміна.

Да канца сваіх дзён Давыд не мог забыць страшнага папялішча на месцы роднага дома.

Неўзабаве ён рушыў у новы паход на тэўтонцаў ды іхніх хаўруснікаў.

Ліцьвіны дайшлі да нямецкага горада Франкфурта-на-Одэры. Яны атрымалі некалькі перамог і захапілі шэсць тысяч палонных.

Але крыжакам удалося падкупіць аднаго зайздрослівага і прагнага да грошай польскага рыцара. Пад выглядам сябра ён прыйшоў у паходны шацёр нашага ваяводы. Гаспадар запрасіў госця павячэраць, а той здрадніцкім ударам у спіну забіў князя Давыда.

Баявыя паплечнікі перанеслі цела свайго правадыра ў Горадню. Там, каля старажытнага Барысаглебаўскага манастыра, гарадзенцы і пахавалі свайго надзейнага абаронцу.

## Разгром татараў пад Клецкам

### Небяспека з усходу і поўдня

Разбіўшы нямецкіх рыцараў пад Грунвальдам, нашыя продкі ўсталявалі мір на заходняй мяжы. Але неўзабаве ў Вялікага Княства Літоўскага з'явіліся новыя небяспечныя ворагі.

На ўсходзе гэта была Расейская дзяржава, якую тады называлі Масковіяй. Маскоўскія князі аб'ядналі расейскія княствы і пачалі прагна пазіраць на суседнюю краіну. Беларусь яны называлі «спрадвеку сваёй» зямлёй, хоць яна ніколі не была пад уладаю Масквы.

Масковія распачала з Вялікім Княствам бясконцыя крывавыя войны.

Расейскія землі доўгі час жылі ў татарскай няволі. 250 гадоў яны былі часткаю велізарнай мангола-татарскай дзяржавы — Залатой Арды. Але і пасля вызвалення з-пад ардынскага ярма парадкі ў Маскоўскім княстве засталіся такія ж дзікія і жорсткія, як і ў татарах. На малюнках у тагачасных еўрапейскіх кнігах маскоўскія ўладары надзвычай падобныя да татарскіх ханаў.

Тым часам на рэштках былой Залатой Арды ўзнікла Крымскае ханства. Яно атрымлівала вялікую дапамогу з Турцыі і хутка мацнела.

Ваяўнічае Крымскае ханства зрабілася для нашай дзяржавы яшчэ адным ворагам, які пагражаў з поўдня.

### Лета 1506 года

Тое лета прынесла беларускай зямлі новае цяжкае выпрабаванне. У ліпені на Беларусь рушыла 20-тысячная конная арда. Яе вялі сыны крымскага хана «царэвічы» Біці і Бурнаш.

Татары хутка дайшлі да Навагрaдка і Ліды. Яны палілі вёскі і цэрквы, забівалі мужчын, а жанчын і дзяцей, абыходзячыся з імі, як з жывёлай, гналі ў палон.

Наш гаспадар Аляксандр і вялікакняская рада пастанавілі, што гэтым разам ардынцаў нельга адпусціць жывымі. Усе, хто мог трымаць у руцэ шаблю, пачалі з Навагрaдчыны, Гарадзеншчыны і Меншчыны збірацца ў Лідзе. Адтуль войска рушыла да Навагрaдка. Баяры Юрай і Андрэй Неміровічы ўзялі ў палон шасцёх татараў. Ад іх даведаліся, што галоўны стан ворагаў знаходзіцца пад Клецкам.

Памаліўшыся за перамогу ў навагрaдскіх цэрквах і касцёлах, нашыя аддзелы выправіліся на Клецак. У войску было ўжо блізу 10 тысяч вершнікаў. Іхні шлях пралягаў праз спаленыя вёскі і мястэчкі Цырын, Паланечку, Ішкалдзь, Молева, Ліпу.

Ваярамі камандаваў князь Міхайла Глінскі. Яму было 36 гадоў. У маладосці князь вучыўся ў Італіі і Нямеччыне, ведаў шмат моваў і падарожнічаў па Еўропе. Перад вяртаннем на радзіму ён служыў у арміі германскага імператара і добра ведаў вайсковую справу.

5 жніўня князь са сваімі рыцарамі дасягнуў вёскі Красны Стаў на рацэ Лань. З высокага берага яны ўбачылі на тым баку ракі гатовую да бітвы татарскую арду. Удалечыні пад аховаю сядзелі на зямлі тысячы нашых палонных. Жанчыны тулілі да сябе дзяцей, шапталі малітвы і з надзеяю глядзелі на ліцьвінскае войска.

### Нашы дзеці не будуць рабамі

Ворагаў было ўдвая болей. Аднак ліцьвіны (так у тыя часы зваліся беларусы) адрозна ад захопнікаў мелі не толькі лукі, але і агняпальную зброю. Перастрэлка з татарамі доўжылася некалькі гадзінаў. Пад заслонаю трапных стрэлаў нашых гармат і ручніцаў удалося зрабіць цераз Лань дзве гаці для пераправы.

Перад пачаткам бітвы князь Міхайла ўзняў над галавой шаблю і звярнуўся да ваяроў з прамоваю. Паказваючы на захопленых татарамі палонных, Глінскі запытаўся: «Няўжо мы дазволім, каб нашы жанчыны сталі рабынямі? Няўжо дазволім, каб дзеці былі нявольнікамі і забылі сваю зямлю?» «Не дазволім!!!» — адказаў шматтысячны хор галасоў.

**Пачатак.**

**Працяг на стар. 20 (12) »**



# Старонкі новай кнігі

« Працяг.
Пачатак на стар. 19 (11)

Правы фланг княскага войска пераправіўся на другі бок Лані так імкліва, што апярэдзіў іншых і трапіў пад моцны націск найлепшых татарскіх сечкароў. Нашы ваяры трымаліся мужна, але шмат хто гінуў, бо на аднаго налятаlі па два-тры ворагі.

Князь загадаў паскорыць пераправу астатніх сілаў. Ён сам павёў іх на бітву з гучным воклічам «За мной, браты!». Пад Глінскім двойчы забівалі каня, але князь не пакінуў поля бітвы. Шляхоцкая конніца ў сталёвых панцырах рассекла ардынцаў надвое. Тым часам перайшлі ў наступ і палкі правага фланга. Частку ворагаў заціснулі ў «абцугі» і пасеклі. Рэшта разам з татарскімі «царэвічамі» кінулася наўцёкі.

У небе радасна заспявалі беларускія жаўрукі.

### Вянок князю Міхайлу

Пагоня доўжылася шмат дзён. Захопнікі гінулі ў рэках і балотах. Татараў пераймалі каля Слуцка, Петрыкава і нават ва Украіне. Чатыры тысячы ворагаў трапілі ў палон. Толькі некалькі сотняў з велізарнай арды дабраліся да Крыма жывымі. Здабычаю пераможцаў стаў і табун з 30 тысяч коней.

Рыцары Міхайлы Глінскага вярнулі свабоду ўсім 40 тысячам палонных. З жахам успамінаючы дні, праведзеныя ў няволі, беларускія жанчыны, дзяўчаты і дзеці вярталіся ў родныя хаты.

Захавалася паданне, што на знак падзякі вызваленыя дзяўчаткі звілі князю Міхайлу вялікі вянок з лугавых рамонкаў і званочкаў.

Клецкая бітва сталася першай буйной перамогаю над крымскімі татарамі. Хан Менглі-Гірэй так напалохаўся, што адразу пачаў мірныя перамовы. На нейкі час ён нават перакінуўся ў хаўрусніка Вялікага Княства Літоўскага.

### Настасся Слуцкая

Побач з рыцарамі-мужчынамі супроць татараў мужна змагаліся і жанчыны. Гісторыя захавала імя адной з іх — Настассі Слуцкай.

На пачатку XVI стагоддзя загоны хана Баты-Гірэя ўсё часцей даходзілі да Слуцка. Яны пустошылі наваколле, палілі слуцкія прадмесці, але ўзяць Слуцкі замак не маглі.

Аднойчы вялікае войска стэпавікоў зноў абкружыла замак. Каля татарскіх вогнішчаў гучаў радасны смех. Захопнікі ведалі, што гэтым разам слуцкі князь Сямён Алелькавіч у ад'ездзе, і не сумняваліся, што без правадыра случакі не вытрымаюць аблогі.

Але ворагі пралічыліся. Жонка князя Сямёна Настасся загадала ваярам і ўсім жыхарам горада сабрацца на пляцы. Неўзабаве здзіўленыя случакі ўбачылі незнаёмага ім коннага рыцара. Калі ён зняў шалом, людзі пазналі залацістыя косы княгіні Настассі. «Я сама павяду вас на бітву!» — абвясціла яна.

Татары цярпліва чакалі, калі горад здасца. Але замест гэтага замкавая брама нечакана расчынілася і адтуль рынулася на ардынцаў конная лавіна. Наперадзе імчалася княгіня Настасся. Пасля кароткай сечы ворагі не вытрымалі і пачалі адступаць.

Праз некалькі дзён вярнуўся князь Сямён. Ён сціснуў жонку ў радасных абдымках, аднак адмовіўся сядаць за святочны стол. Трэба было як мае быць правучыць татарскіх рабаўнікоў. Іх дагналі і разбілі пад Давыд-Гарадком. Побач з мужам у бітве была і княгіня Настасся.

Яна і пазней, калі князя Сямёна не стала, працягвала ваяваць з татарамі. Стэпавікі ні разу не змаглі захапіць Слуцак.

## Крывавае стагоддзе

**Беларусь не паспела загаіць цяжкія раны, пакінутыя вайной з маскоўскім царом Іванам Жахлівым, як на нашую зямлю зноў абрынулася ваеннае ліхалецце. У войнах прайшло ўсё сямнаццатае стагоддзе.**

**За гэта яго і называюць крывавым.**

**Такой цяжкай пары ў гісторыі нашай дзяржавы яшчэ не было.**

**Ворагі знішчалі гарады і вёскі, не шкадавалі ні старых, ні малых.**

**Але беларусы не здаваліся. Яны мужна баранілі сваю зямлю і яе незалежнасць. Царскім ваяводам і гэтым разам не ўдалося паняволіць наш народ.**

### Непрыступны Смаленск

Расейскія валадары не пакідалі мары захапіць Беларусь. Самым блізкім да Масковіі быў наш старажытны Смаленск. На яго не раз нападалі царскія ваяводы. Смаленск пераходзіў з рук у рукі. Але на пачатку сямнаццатага стагоддзя, пасля доўгай вайны з Масковіяй, Смаленшчына была вернутая ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Разам з ёю да нашай дзяржавы адышла Чарнігаўшчына ды іншыя землі з 30 гарадамі.

Аднак мір з усходнімі суседзямі працягваўся, як заўсёды, нядоўга.

У 1632 годзе цар паслаў у наступ на Смаленск 40-тысячнае войска свайго баярына Шэйна. Ворагі ўзялі горад у аблогу і пайшлі далей. Яны захапілі Полацак, Асвею, Друю ды іншыя беларускія гарады. Але жыхары Смаленска мужна баранілі і не збіраліся здавацца.

На дапамогу смаленцам кароль і вялікі князь Уладзіслаў выслаў моцнае 25-тысячнае войска. Яно абкружыла маскоўскія палкі і прымусіла іх здацца. Пераможцы адпусцілі палонных




дадому, пакінуўшы сабе толькі гарматы.

Цар так угневаўся, што загадаў адсекчы баярыну Шэйну галаву.

### «Велели мы всё выжечь»

Праз дваццаць гадоў цар Аляксей Міхайлавіч зноў адправіў свае войска на Беларусь. Ён абяцаў беларусам вызваліць іх ад «польскага ўціску», а ў сапраўднасці хацеў зусім іншага. Нашыя прадзеды вельмі хутка зразумелі цану царскіх абяцанак.

У межы Вялікага Княства ўварваліся тры велізарныя варожыя арміі. 100-тысячная вайсковая сіла захопнікаў пакідала за сабой спустошаную і абрабаваную зямлю.

Расейскія стральцы спалілі Бабруйск, Глуск, Чавусы, Копысь... Разам з нашымі жаўнерамі геройчна баранілі свой горад жыхары Амсціслава. За гэта царскі ваявода Трубяцкой аддаў сваім стральцам загад перабіць усіх амсціслаўцаў — ад старых да немаўлят. У горадзе засталіся толькі здзічэлыя сабакі.

Былі захопленыя Віцебск, Ворша, Дуброўна, Крычаў, Гомель, Рэчыца, Шклоў. Калі горад адмаўляўся здавацца, цар загадваў разбураць яго. Жыхароў, як і ў Амсціславе, забівалі або вялі ў палон.

Калі маскоўскае войска наблізілася да Полацка, большасць яго насельніцтва на чаўнах і наўплаў пераправіліся цераз Дзвіну і ратаваліся хто як мог. Манахі везлі з сабою абразы і дамавіны з мошчамі святых, бо захопнікі не шкадавалі ні храмаў, ні магілаў.

Накіроўваючы на нашую зямлю ўсё новыя і новыя войскі, цар наказваў ваяводам на сваім шляху ўсё паліць і разбураць, а каб болей паншчыць — назад ісці іншымі мясцінамі. Захаваліся пісаныя ў Маскву граматы ваяводы Трубяцкога, дзе ён паведамляў цару: «Вокруг Слуцка велели мы всё выжечь, а идучи дорогою до Слонима, села, и деревни, и хлеб, и сено по обе стороны жгли и людей побивали, и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех». Сваімі рабункамі ворагі давялі народ да страшнага голаду.

### Партызаны, партызаны — беларускія сыны

На захопленай зямлі беларусы ўсё часцей браліся за зброю. Простыя вяскоўцы стваралі партызанскія аддзелы і не давалі захопнікам спакою ні ўдзень, ні ўначы. Асабліва ўдала народныя мсціўцы дзейнічалі на Амсціслаўшчыне. Аднаго разу на расейцаў напала цэлае сялянскае войска з трох тысяч змагароў.

У той час праз Беларусь праязджаў нямецкі пасол Аўгусцін Маербэрг. Ён быў глыбока ўражаны ўбачанымі на месцы гарадоў і вёсак бязлюднымі руінамі ды папялішчамі. У сваім лісце дадому пасол напісаў, што здзекі і гвалт маскоўцаў адвярнулі ад іх сэрцы нашых продкаў. Замежны падарожнік адзначыў, што беларусы гналі чужынцаў з сваёй спустошанай зямлі з вялікай нянавісцю, якую тыя заслужылі.

На Віцебшчыне партызаны вызвалілі ад маскоўцаў Бешанковічы, Лукамль і Глыбокае. У самім Віцебску заваёўнікі былі ўзятыя ў аблогу і баяліся нават нос выткнуць за гарадскія ўмацаванні.

Не чакаючы падыходу войскаў Вялікага Княства, самастойна знішчылі царскія гарнізоны жыхары Амсціслава і Крычава.

Масква мусіла пасылаць супроць народных мсціўцаў вялікія сілы з артылерыяй. Карнікі палілі партызанскія вёскі і чынілі жорсткія расправы з захопленымі ў палон. Але змаганне ні на дзень не спынялася.

Дарослым заўсёды дапамагалі дзеці і падлеткі. Яны, добра ведаючы лясныя сцежкі, былі сувязнымі, паведамлялі мсціўцам пра рух і ўзбраенне варожых войскаў.

Самому вялікаму князю Яну Казімеру аднойчы распавялі пра адважнага полацкага хлапчука Васільку. Каб перадаць нашым ваярам звесткі пра набліжэнне захопнікаў, ён не збаяўся пераплыць халодную восеньскую Дзвіну. Гаспадар дзяржавы загадаў узнагародзіць юнага героя, а калі той вырасце, запрасіць яго да сябе на службу.

### Ля Палонкі шаблі звонкі

Каб кіраваць захопленымі беларускімі землямі, цар загадаў стварыць у Маскве асобны Прыказ Вялікага Княства Літоўскага. Аднак Літва-Беларусь упарта супраціўлялася захопнікам. Аляксей Міхайлавіч намерыўся канчаткова паняволіць няскораную краіну і паслаў сюды вялізную армію пад камандаю князя Івана Хаванскага.

Царскія стральцы, выпальваючы ўсё на сваім шляху, дайшлі да Горадні і захапілі Берасце. На акупантаў рушылі ліцьвінскія палкі на чале з гетманам Паўлам Янам Сапегам. Пад рукой у яго было 8 тысяч ваяроў. На дапамогу Сапегу прывёў 4-тысячную польскую дывізію Стэфан Чарнецкі.

Нашыя войскі сустрэліся з галоўнымі сіламі маскоўскага ваяводы 25 чэрвеня 1660 года каля мястэчка Палонка паміж Слонімам і Ляхавічамі. Расейцы мелі больш за 20 тысяч ратнікаў, па два на кожнага ваяра-ліцьвіна.

Конніца Хаванскага пайшла ў наступ першаю. Але контратака нашых кавалерыстаў-гусараў атрымалася надзвычай імклівай і ўдалаю. Варожая пяхота, якая перапраўлялася цераз рэчку Палонку, была пасечаная і патопленая. Вырваўшыся на другі бераг, нашы жаўнеры мелі выбар: загінуць або перамагчы. У гарачай сечы ім дадавала моцы прага помсты за паняволеную Айчыну.

У бітве пад Палонкаю загінулі 16 тысяч маскоўцаў. Гэта быў поўны разгром арміі захопнікаў.

Ужо ў нашы дні беларускія патрыёты ўсталявалі на месцы тых векапомных падзеяў мемарыяльныя камяні з выявамі Паўла Яна Сапегі і Стэфана Чарнецкага, а таксама звесткамі пра бітву.

### Тры рублі за чалавека

Вайна прынесла яшчэ адно страшнае гора. Цар пастанавіў перасяліць у Масковію трыста тысяч беларусаў. У сапраўднасці гэтых перасяленцаў было значна болей.

Шмат нашых продкаў сталі прыгоннымі сялянамі расейскіх памешчыкаў. У Астрахані ды іншых паўднёвых гарадах царскія стральцы гандлявалі палоннымі з-пад Полацка, Віцебска, Воршы і Амсціслава. Іх прадавалі персам і туркам у вечнае рабства па тры рублі за чалавека.

Вялікую частку палону цар пасяліў у сваёй сталіцы. Жыхары цёмнай, амаль цалкам непісьменнай Масквы вельмі здзіўляліся, што ледзь не палова перасяленцаў з Беларусі ўмелі чытаць і пісаць. Нашы землякі адчынялі там школы.

З гістарычных дакументаў вядома, што адну такую школу трымаў беларус Якуб Якаўлеў, а полацкі манах Варлаам вучыў маскоўскіх дзяцей лацінскай мове. З нашых здольных юнакоў і дзяўчат быў створаны першы ў Маскве і ва ўсёй расейскай дзяржаве тэатр.

Самымі каштоўнымі для цара і ягоных баяраў палоннікамі

былі беларускія майстры. З-пад Воршы перасялілі на чужыну друкароў з іхняй друкарняю. На ўсход гналі разбяроў, ювеліраў, кахляроў, пераплётнікаў, збройнікаў… Яны аздаблялі саборы і царскія палацы, вучылі свайму рамяству мясцовых людзей.

Шмат якія скарбы Залатой, Срэбнай і Майстроўнай палатаў Крамля створаныя таленавітымі рукамі нашых суайчыннікаў.

У другой палове XVII стагоддзя беларускія майстры складалі пятую частку насельніцтва Масквы. Гістарычныя дакументы кажуць, што нашы землякі мелі болей за пяцьдзясят спецыяльнасцяў. Шмат якія рамёствы, добра асвоеныя ў Беларусі, расейцам былі зусім невядомыя.

Турыстаў з розных краін, якія прыязджаюць у Маскву, часта прыводзяць у славуты Смаленскі сабор Новадзявочага манастыра. Кожны, хто трапляе туды, захапляецца дзівоснай пазалочанай разьбою, якая ўпрыгожвае храм. На жаль, расейскія экскурсаводы не кажуць, што гэтае дзіва стварыла арцель выдатных беларускіх майстроў.

# Магілёўскае паўстанне і канец вайны з Расеяй

## Цана маскоўскага слова

Калі царскія ваяводы падышлі да Магілёва, яго жыхары вырашылі ўратаваць свой вялікі і прыгожы горад ад разбурэння і таму добраахвотна адчынілі перад маскоўцамі браму. Месцічы спадзяваліся, што стральцы і царскія ваяводы, якія былі адной з магілёўцамі веры, будуць выконваць дамову і не чыніць гораду ніякай крыўды. Але яны моцна памыліліся.

Як ужо не раз бывала, далейшыя падзеі паказалі, што ўсялякая дамова з расейцамі не каштуе нават той паперы, на якой напісаная. Чужынцы абыходзіліся з магілёўцамі як з палоннымі. Яны нахабна адбіралі ў гараджанаў грошы і зброю, коней і хлеб, забіралі нават кухонны посуд.

У Магілёве жыло шмат габраяў. Захопнікі абвясцілі, што пастанавілі адправіць іх усіх у Польшчу. Ім загадалі ўзяць самыя каштоўныя рэчы і выйсці з горада. У полі ў габраяў забралі грошы, упрыгожанні ды іншае багацце і амаль усіх — не шкадуючы ні старых, ні малых — перарэзалі, нібы авечак.

Магілёўцы рыхтаваліся адпомсціць крывадушным прыхадням.

Царскія стральцы аднойчы абрабавалі на рынку жанчын, што прадавалі хлеб. Пасля гэтага цярпенне ў жыхароў скончылася. На таемны загад гарадскіх уладаў магілёўцы, у чыіх дамах жылі захопнікі, выкруцілі з іхніх стрэльбаў крэмені. Такія стрэльбы былі ўжо нікуды не вартыя.

Мужчыны даставалі прыхаваную зброю. У шматтысячным горадзе не знайшлося ніводнага здрадніка, і ворагі да апошняй хвіліны нічога не ведалі.

### Пара, браты, пара!

1 лютага 1661 года магілёўскі жыхар Язэп Леванові, які кіраваў падрыхтоўкай паўстання, з крыкам «Пара!» выхапіў шаблю і кінуўся на стральцоў.

«Пара, браты! Пара!» — ляцела ад дома да дома.

Над вуліцамі паплыў набатны звон, які клікаў да помсты.

Паўстанцам дапамагалі вызваленыя з палону жаўнеры нашага войска. За некалькі гадзін ад шабляў і куляў палеглі тысячы захопнікаў.

Паданне кажа, быццам жывы застаўся толькі адзін-аднюткі стралец, які схаваўся на печы. Яго адпусцілі дадому, наказаўшы перадаць цару і ягоным ваяводам, што беларусы не даруюць падману і здрады і ўмеюць бараніць свой гонар.

За мужнасць, выяўленую ў часе паўстання, Магілёў быў ураўнаваны ў правах са сталічнай Вільняй і атрымаў новы герб з «Пагоняй». Цяпер гэты герб можна ўбачыць на беларускай купюры вартасцю 200 тысяч рублёў.

Узяўшы прыклад з магілёўцаў, панішчылі захопнікаў у сваіх гарадах таксама жыхары Дзісны, Себежа, Шклова, Гомеля і старога Быхава.

### 130 варожых сцягоў

У лістападзе 1661 года ліцьвіны святкавалі новую перамогу над ардой захопнікаў. Паблізу цяперашняй вёскі Кушлікі на Полаччыне ваявода Казімер Жаромскі разам з ужо знаёмым нам пераможцам маскоўцаў пад Палонкаю Стэфанам Чарнецкім сустрэліся з варожым войскам Івана Хаванскага. Летапісы кажуць, што нашых было 22 тысячы, а царскі ваявода меў на восем тысяч ратнікаў больш. Аднак Хаванскі, як жартавалі ў ліцьвінскім войску, хацеў не біцца, а хавацца.

Стоячы на дзвінскім беразе, каля месца, што звалася Кушлікавы Горы, ліцьвіны і палякі сапраўды ўбачылі на досвітку, што царскія палкі пад прыкрыццём густога туману пачынаюць адыходзіць да Полацка. Дружным магутным націскам нашы ваяры спынілі ворага і прымусілі яго адбівацца. Пасля трэцяй атакі яны канчаткова разарвалі абарону маскоўцаў і ўрэзаліся ў іхнія шэрагі.

Захопнікаў гналі 25 кіламетраў ажно да самага Полацка, дзе Хаванскі з невялікім аддзелам сваіх людзей і здолеў уратавацца. Разгром ворагаў завяршылі сяляне, якія некалькі дзён дабівалі рассеяных па лясах рэшткі заваёўнікаў.

Прывітаць пераможцаў праз некалькі дзён прыехаў сам гаспадар Ян Казімер, які разам з часткаю войска Вялікага Княства знаходзіўся тады ў недалёкім ад месца бітвы Глыбокім. Праспяваўшы гімн і адсалютаваўшы высокаму госцю гарматным салютам, нашы ваяры кінулі яму пад ногі 130 захопленых у маскоўцаў баявых сцягоў.

### Загінуў кожны другі

Вайна з расейскай дзяржавай доўжылася трынаццаць гадоў — ад 1654 да 1667 года. Гэта была самая страшная і крывавая вайна за ўсю гісторыю Беларусі. Бітвы, голад і хваробы скарацілі насельніцтва нашай Бацькаўшчыны ў два разы.

Загінуў кожны другі, а на ўсходзе Беларусі — кожныя восем чалавек з дзесяці. У Полацку перад вайною было болей за 1500 дамоў, а засталося толькі сто, у Віцебску з 982 дамоў у попел і руіны ператварыліся 926. Захопнікі вынішчылі пад корань цэлыя беларускія роды.

Беларусь страціла Смаленскую зямлю.

Ад мора пралітай крыві летапісцы назвалі тыя гады не вайною, а крывавым патопам.

Велізарнай і незваротнаю стратай сталі для Беларусі не толькі палеглыя. Сотні тысяч беларусаў вайна назаўсёды адарвала ад родных дамоў і змусіла застацца на чужыне.

# Асветнік Галляш Капіевіч

## Царская зайздрасць

У канцы XVII стагоддзя на царскі трон у Расеі сеў Пётр І. Як вы памятаеце, сярод ягоных настаўнікаў быў і наш зямляк Сімяон Полацкі. Цар добра разумеў культурную і навуковую адсталасць сваёй краіны ад Еўропы, часткаю якой было Вялікае Княства Літоўскае. Каб павучыцца ў блізкіх і далёкіх суседзяў, Пётр І з вялікім пасольствам выправіўся за мяжу.

Цар вельмі здзівіўся, што амаль ва ўсіх буйных еўрапейскіх гарадах працавалі друкарні. Яны выдавалі самыя розныя кнігі — рэлігійныя, навуковыя, падручнікі, слоўнікі, мастац-




кія творы сучасных і даўніх пісьменнікаў. А ў велізарных уладаннях Пятра былі ўсяго тры друкарні, якія выпускалі толькі літаратуру для цэркваў. Паслы бачылі вялікія бібліятэкі з тысячамі тамоў. Расейскі ўладар з зайздрасцю ўспамінаў, што ў ягонага бацькі, цара Аляксея Міхайлавіча, было ўсяго чатырнаццаць кніг.

Трапіўшы ў галандскі горад Амстэрдам, Пётр І вырашыў распачаць там друкаванне неабходнай для Расеі літаратуры. За гэтую справу ўзяўся адзін тамтэйшы купец, аднак высветлілася, што галандзец не ведае расейскай мовы і не мае адпаведнага шрыфта. Але цару пашанцавала. Ён даведаўся, што ў Амстэрдаме займаецца друкарскай справаю адукаваны беларус, які, апрача роднай мовы, валодае яшчэ польскай, нямецкай, галандскай, лацінскай і расейскай.

### Выхаванец Слуцкай гімназіі

Гэтага вучонага чалавека звалі Галляш Капіевіч. У дзяцінстве, пад час вайны Рэчы Паспалітай з Расеяй, царскі баярын вывез яго на чужыну. Хлопчыку часта сніліся родныя мясціны, сябры, ласкавы кот Базыль і бацькоўскі дом, які спалілі расейскія стральцы. Толькі праз шэсць гадоў Галляшу пашчасціла вярнуцца з маскоўскай няволі.

Капіевіч вучыўся ў заснаванай Янушам Радзівілам славутай Слуцкай гімназіі. Яна давала амаль такую самую адукацыю, як і ўніверсітэты. Неўзабаве Галляш сам пачаў выкладаць у гімназіі. Аднак родавы маёнтак Капіевічаў трапіў у рукі ворагаў, і малады настаўнік мусіў пакінуць радзіму.

Пасяліўшыся ў Галандыі, Галляш хутка асвоіў кнігавыдавецкае майстэрства і адчыніў уласную друкарню. Ён пазнаёміўся з вядомымі еўрапейскімі вучонымі. Да прыкладу, перапісваўся з выдатным нямецкім філосафам Ляйбніцам, які быў першым прэзідэнтам Берлінскай Акадэміі навук. Там і цяпер захоўваюцца лісты таленавітага беларуса.

Пазнаёміўшыся з Пятром І, Галляш пагадзіўся дапамагчы яму. Ён хацеў, каб навука прыйшла і ў непісьменную Расею. Першым чынам усходнім суседзям трэба было даць падручнікі.

### Гісторыя, арыфметыка, граматыка…

Наш зямляк меў няпростую задачу. Трэба было не толькі падабраць патрэбныя кнігі і перакласці іх на расейскую мову. У Расеі датуль не існавала многіх слоў, якія называюцца навуковымі тэрмінамі. Але Капіевіч не разгубіўся. Ён сам прыдумаў дзясяткі тэрмінаў, якімі дагэтуль карыстаюцца расейцы.

Першай выдадзенай Капіевічам кнігаю стаў падручнік гісторыі. Гэта было невыпадкова. Наш зямляк добра разумеў, што чалавека, які не ведае гісторыі, нельга назваць адукаваным.

Цар Пётр збіраўся ваяваць і хацеў хутчэй атрымаць кнігі, патрэбныя якраз для гэтага. Капіевіч мусіў выдаць падручнікі вайсковага майстэрства і марапалавання. Але ён сказаў цару, што трэба друкаваць і іншыя кнігі, бо людзі нараджаюцца найперш не для вайны, а для мірных справаў.

Галляш падрыхтаваў і выпусціў буквар, першую друкаваную расейскую арыфметыку, падручнік астралогіі і першую ў Расеі карту зорнага неба. З друкарні нашага земляка выйшлі расейская і лацінская граматыкі, расейска-лацінска-нямецкі і расейска-лацінска-галандскі слоўнікі. Побач з расейскімі словамі ў яго кнігах часта пракідваліся і беларускія.

Капіевіч упершыню ўвёў у расейскі друк арабскія лічбы. Раней лічбы абазначаліся ў нашых усходніх суседзяў літарамі.

А яшчэ асветнік, які і сам складаў вершы, пераклаў і надрукаваў свае ўлюбёныя творы старажытнагрэцкіх пісьменнікаў Эзопа і Гамера. У Беларусі іх чыталі яшчэ ў часы Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага.

Да сваіх выданняў Галляш Капіевіч пісаў цікавыя прадмовы і пасламовы. Там ён тлумачыў, як важна чалавеку быць адукаваным, а непісьменных людзей параўноўваў з сляпымі кратамі.

### Беларуская азбука

Вялікай заслугаю Капіевіча было стварэнне новага друкарскага шрыфта. Ён узяў за аснову шрыфт свайго выдатнага папярэдніка Францішка Скарыны і зрабіў яго яшчэ прыгажэйшым. Літары сталі больш круглыя і зручныя для чытання.

Пётр І упадабаў шрыфт Капіевіча і зацвердзіў яго ў Расеі ў 1708 годзе. Новыя літары назвалі «беларускай азбукай».

Як вы ўжо ведаеце, асвета і культура тады ішла ў Масковію з нашай краіны. Беларусь можна назваць культурным мастом, дзякуючы якому еўрапейскія дасягненні траплялі да адсталых суседзяў.

Шрыфтам Галляша Капіевіча і сёння карыстаюцца беларусы, украінцы, расейцы, балгары, сербы, македонцы.




**Ілюстрацыі Паўла Татарнікава**

# Заметкі на палях кнігі Віктара Казько «Час збіраць косці»

Казько — гэта Казько. Успрымаю як дадзенасць.

Чытаць цяжка. А потым — лёгка.

Мы ўспрымаем тэкст, як нас вучылі. Літары — у словы, словы — у сказы, сказы — у абзацы. Літара — адзінка інфармацыі. Такім чынам і мастацкі тэкст рабіўся інфармацыяй.

У Віктара Казько тэкст — не інфармацыя. Гэта квінтэсэнцыя настрою. Яе нельга разбіваць на кавалкі і часткі, бо яна сама па сабе — той самы старадаўні пяты элемент стыхіі.

Чытаем не літарамі, не словамі. Недзе — абзацамі, часцей — старонкамі.

Не імкнёмся разблытаць выкрутлівасць тропаў, не шукаем сэнс у неспадзяваных пераходах, не засяроджваемся на дэталях.

Разуменне прыходзіць пасля, крышачку пасля, як адчуваецца сапраўдны смак абсэнту пасля некалькіх уздыхаў.

Мабыць, правільна будзе сказаць, што ўвесь тэкст Казько складаецца з сімвалаў. Калі ў сюжэтным тэксце аўтар вядзе нас ад падзеі да падзеі, дык Казько разгортвае перад чытачом адзін сімвал за другім.

Сам герой — сімвал. Сімвал — яго знаходжанне ў сына, а ягонай жонкі — у дачкі. І вось, скажам так, перад сакральным момантам уз'яднання сын просіць бацьку, каб не казаў адразу матцы, што той паехаў. Маўляў, дай пабыць без яе.

Сімвалічнасць героя ў яго невядомым нам занятку, у абсалютна цёмнай дзейнасці, у пазбаўленасці мінулага.

Казько ўзяў чалавека, паказаў яго душу і… пахаваў яго. Бо пасля яго героя не засталося нічога. Абсалютна. Ён жыў, пакутаваў і радаваўся, але ўсе ягоныя перажыванні варыліся ў ім самім і не мелі ніякага выхаду вонкі праз дзеі ці хоць словы.

Пакаленне ценяў — яно адышло і не пакінула ад сябе нічога.

Жыццё было для героя нечым абсалютна яму непадуладным. Поўная аналогія: герой — чалавек на насыпе, а жыццё — цягнік, які імчыць міма…

Сімвалы, сімвалы, сімвалы…

Пра грубку… Вось яна і ёсць вакол яе — самы што ні на ёсць беларускі сімвал і сімвал беларуса.

Забудзем пра дэталі і храналогію. Нам важная агульная карцінка, агульны сімвал. А ён такі: грубка як цэнтр хаты, як крыніца цяпла, без якога немагчыма жыццё. І вось гэты цэнтр перастае функцыянаваць. Чалавек вакол яго… бегае, моліцца, успаміная ўсе парады і забабоны. Ён імкнецца лячыць. Гэткая тэрапія грубкі: асінавымі дровамі, бульбяным лупіннем, бензінам і дызпалівам…

Не дапамагло. Тады ідзе ў ход, скажам сучаснай мовай, лапараскапія. Гэта сучасная аперацыя, дзе не рэжуць тканкі, а робяць невялікі пракол, а праз яго нешта там выкалупваюць. Вось і герой Казько з дрылем вакол грубкі — лапараскапія! Наш




сімвал — грубка — становіцца падобнай на рэшата: у пошуках перашкоды для цягі герой нарабіў там столькі дзірак, што сам дзівіўся, як яна яшчэ стаяла.

Спецыялісты раяць і сам ён разумее: трэба ад пачатку было разабраць, знайсці, выправіць і наноў скласці.

Не, немагчыма такое! Гэта ж — вунь колькі работы, пылу, гразі, а тут жа зверху — плітка, яе маць! Патрушчыш, а грошы?

Вось тое, што вызначала нас, як беларусаў: не брацца за вялікую работу. Мы баімся распачаць нешта нармальнае і вялікае, цураемся ЗНАЧНАСЦІ ўсякіх зменаў. Мы падпіраем, падвязваем, падмазваем там, дзе трэба разваліць і па новай скласці. Бо баімся гэтага самага смуроду і сажы. Баімся, што не здолеем зрабіць лепш. Абы трошкі грэла, абы хапала да зарплаты грошай, абы ў год выходзіла хоць адна кніжка на роднай мове, абы не забаранялі той мовы навогул.

Я здрадзіў свайму першаму каханню. Канечне, гэта было яшчэ не каханне, нешта там такое завязалася ў душы, як зярнятка ў спарышу, і трэба было расціць, песціць, змагацца, пераадольваць страх. Вось што галоўнае — страх. Страх быць збітым на дарозе, страх наведвання чужой вёскі… Хто з хлопцаў не ведае, што гэта такое: ісці падлеткам да дзяўчыны ў «чужую зону»? Ці ў суседнюю вёску, ці з Чыжоўкі на Шабаны — няма розніцы…

Герой Віктара Казько таксама здрадзіў.

Мне трохі лягчэй — тая дзяўчынка з майго юнацтва сталася паспяховай прыгожай жанчынай, добрая маці разумных дзяцей.

Віктар Казько нібыта зацята маўчыць пра тое, што сталася з тае дзяўчынкі з роснага саду. Але ж падказвае.

Тая чыстая і светлая, хвалюючая і пяшчотная стала Фенькай.

Той самай, сустрэчы з якой так унікаў герой па дарозе, сустрэча з якой была так непрыемная яму.

Ад самага пачатку мяне здзівіла вось гэтая вельмі ж адмоўна насычаная рэакцыя мужчыны на сустрэчу з зямлячкай. Ну, хай сабе яна і выпіўшы. Але ж ніякіх такіх страшных заганаў у ёй ні мы, ні герой не бачым. Вясковая баба. Паважай за працу яе, разумей тыя акалічнасці, у якіх яна фарміравала свой светапогляд, узровень інтэлекту яе асяродку — і прымі, якой яна ёсць.

Не, не прымаецца.

Таму што яна — вынік здрады.

Прымерваю сітуацыю зноў на сябе.

Пякучае пачуццё сораму і нове — пачуццё віны — поўніць свядомасць пры ўспамінах. Віна — за тое, што мог сам, а галоўнае — мог яе зрабіць шчаслівай. Што яна марыла — а я растаптаў яе мару.

Казько закрывае ад нас душу героя. Таму, што ў той душы — пустэча. Герой сам баіцца згадаць сваё першае каханне, сам баіцца ўспомніць — і ён пнецца не пусціць да сябе нават роздуму пра тое, што магло б быць. І галоўнае — хто вінаваты. Ён, герой, ведае, што як толькі пачне згадваць далей, як толькі пачне шукаць прычыны і следствы, ён зразумее страшнае для сябе, яму прыйдзецца прызнаць гэта страшнае: ён здрадзіў першаму каханню.

І нават куды больш.

Ён здрадзіў чысціні. Святой чысціні.

Мы не ведаем, як гэта адбылося. Бо герою страшна зазірнуць на гэты раз глыбей.

Але гэтая чысціня — апошні яго паратунак, які можа выцягнуць яго з ямін. Апошні. І ён чапляецца за яго, яму на нейкі момант падаецца, што ён заслугоўвае прабачэння і спагады — вось за тое, што помніць. Крычыць свайму сумленню: я харошы, у маёй душы жыве яна — чыстая і светлая! Але розум яго бязлітасны, як і любы іншы розум: у памяці — эфемернасць, а на яве ты прадаў усё, што мела першапачатковую чысціню. Ты не з той памяці, не з таго саду маеш нешта матэрыяльнае ў сваёй хаціне…

Тэлевізар — яшчэ адзін сімвал Віктара Казько. Аўтар не зрабіў тут адкрыцця, але пайшоў яшчэ далей, углыб, і гэтая скрыня для ідыёта пачала жыць у Казько самастойным жыццём.

У аповесці «Час збіраць косці» праз тэлевізар Казько паказаў зменлівасць часу, зрабіўшы націск на яго маральны бок. І гэты час набывае паралельнае цячэнне з часам галоўнага героя.

Гэтая незалежнасць тэлевізара ад яго гаспадара яшчэ мацней і куды глыбей адмяжоўвае героя аповесці ад жыцця. Калі раней адчужэнне героя ад жыцця перадавалася праз успаміны, у якіх дзейнасць хоць нейкая — творчая, вытворчая, асабістая — адсутнічала зусім і тым стварала вобраз героя як слімака на камяні ў ручаі. Сядзіць, учапіўся, грызе плесню пад сабой і радуецца — жывы, нешта маю! А жыццё нясецца міма…

Так, менавіта слімак на камяні. Герой не плыве па цячэнні, яго не нясе нейкая асобная плынь, не прыбівае яго ў ціхую затоку, не выносіць на быстрыню, не кружыць у віры. І тым самым герой не мусіць высільвацца ці хоць колькі напружвацца, каб адчуваць сябе зручней. Ён застыў аднойчы, прысмактаўся да слізкага боку, хапае яму той слізі пад сабой, каб не памерці з голаду — і адно пазірае за плынню ды часам выносіць свой вырак убачанаму, часам нудзіцца, часам жаліцца — такому ж слімаку побач.

Поўнае бяссілле героя яшчэ і ў тым, што ён не можа пазбавіцца тэлевізара. Няхай сабе яго, украдзенага, вяртае міліцыя — тое яшчэ куды ні ішло. А вось той факт, што герой можа проста не ўключаць тэлевізар, Казько нават не разглядвае. Герой не можа не ўключыць сваю скрыню. Як слімаку жыць у плыні і не думаць пра сухі бераг — так і герою жыць з гэтым тэлевізарам да скону.

Апошні бунт героя, калі ён бухае свайго вылюдка аб падлогу, пацвярджае тое: тэлевізар разбіў, але і сам ледзь канцы не аддаў — трапіў у яму.

І тут раскрываецца галоўны сімвал Віктара Казько. Дакладней — адсутнасць гэтага сімвалу. Гэткі сімулякр.

Увесь час герой шукае (і мы разам з ім) адказ на пытанне: што скралі. Ну што такое ў цябе, стары слімак, можна скрасці?

Тут я пляскаю ў ладкі Віктару Казько. Ён, як і з тэлевізарам, узяў самае простае і звычайнае і зрабіў з яго сімвал яшчэ глыбейшы, літаральна — сакральны. Канечне ж, гэта бульба.

Дык вось, глядзім ланцужок.

Тэлевізар ляціць на падлогу, узрываецца, героя адкідвае назад, ён трапляе ў падполле, ледзь не на той свет. І там бачыць бульбу, дакладней — бачыць адсутнасць бульбы. Вось што ў яго ўкралі — насенне.

Перакладзем.

Кволы напачатку супраціў сягае свайго піку, герой вырашае пазбавіцца свайго каменя, адчапіцца ад яго, каб плыць самастойна, можа, паспрабаваць вырасціць нейкія плаўнікі ці хоць вусікамі плёхаць у вадзе… Карацей, спроба атрымліваецца — адвязаўся! І — падае ў яміну. Ну, ты яшчэ дзядзька жывы, цябе апошняй саломінкай выцягваюць успаміны, выцягвае цябе на паверхню тваё адзіна светлае з твайго жыцця — тая дзяўчынка з роснага саду.

Але ж ты, гіцаль стары, не давёў сваю справу дарэшты. Ты — не раскайваешся. Ты не бярэш на сябе віну за сваё бязладнае жыццё, ты і ў думках не хочаш прызнаць, што не толькі сваё жыццё бесхрыбетнае змарнаваў, ты загубіў лёс той дзяўчынкі. Гэта ты вінаваты, што з вясковага анёла чысціні атрымалася ўрэшце вясковая п'яніца, абмежаваная, прымітыўная.

Не, не такі дурны лёс, не дасць ён табе шанец на ачышчэнне, не падманеш ты яго разбітым тэлевізарам. Бо новы ж купіш, сучасны…

Бо не ачысціўся ты сам, не павініўся, не пракляў мінулае і самога сябе найперш у тым мінулым. Не прызнаў сябе за вінаватага.

І таму ў цябе скралі бульбу.

Цябе пазбавілі насення.

Табе больш нічога на гэтай зямлі не ўзрасціць.

Ты пазбаўлены права на сяўбу.

Ты — парожні колас.

Ты знікнеш — і праз гадоў колькі знікне ўсё, што звязана было з табой, тваёй дзейнасцю, якой нават у тваіх успамінах не было.

Сын? Сын не твой працяг, трыма штрыхамі Віктар Казько праклаў прорву між табой і тваімі нашчадкамі. Нездарма мы пра дзяцей нічога не ведаем, не ўвайшлі яны ў кнігу, не знайшлося ім месца ва ўспамінах.

Што засталося? Блукаючыя крыніцы?

З першага наскоку, так мовіць, гэты сімвал у Віктара Казько як быццам зусім просты. Кшталту надзеі на лепшае. Маўляў, праб'ецца чыстая вадзіца, ёсць у глыбіні нашай зямлі рэзервы для духоўнага росту, не ўсё яшчэ страчана і etc.

Але не быў бы Казько майстрам, калі б так было на самой справе.

Па-першае, чаму — блукаючыя?

Па-другое, навошта герой шукае тую крыніцу? Ён не ведае, на які ляк яму тая крыніца. Для мяне блукаючыя крыніцы Віктара Казько — гэта доўг. Доўг, не асэнсаваны дарэшты героем. Ён разумее, што павінен нешта зрабіць, павінен змяніць сябе і жыццё вакол сябе, павінен, павінен, павінен… А вось што канкрэтна — не ведае. Яго поўная разгубленасць і адчай шукаюць выйсце.

Герой Казько не змог пабачыць сваю асабістую віну ў сваім жыцці. Не бачыць, не ўсведамляе. І тым не менш, душа яго цалкам не закасцянела. Кавалачак чыстага там застаўся і прагне свайго выяўлення праз дзеянне.

Таму і блукаючыя крыніцы, бо, бадай што, ці не галоўная праблема свядомага беларуса — знайсці рэальны шлях да рэалізацыі свайго доўгу, сваю справу на карысць радзіме…

Герой Казько, увасабляючы сабой пакаленне разгубленых і апляваных новымі павевамі, не бачыць перад сабой, вобразна кажучы, ні прыладаў працы, ні вытворчасці. Ёсць хіба кволае жаданне нешта змяніць, якое пры ўсёй кволасці здольнае зруйнаваць унутраную ляноту і заспакоенасць.

Дык што рабіць?

Шукаць блукаючую крыніцу.

Ні адна з прачытаных кніг не лягла так на маё жыццё, як «Час збіраць косці». І грубка ў мяне дыміла, не палілася. І з першым пачуццём я стаўся падлюгай, і доўгі-доўгі час жыў слімаком на камяні. І крыніцу сваю шукаў і аднаўляў.

Мне яшчэ не час збіраць косці. Яшчэ ёсць у запасе колькі гадоў…

І падагульняючы.

Што б ні пісалі пра гэтую аповесць, што б ні было напісана да Казько, я перакананы цвёрда, што гэта — першае сапраўднае асэнсаванне нас, як беларусаў, на зломе эпох. Са страшным выракам аўтара. І з кволай надзеяй.

Дзякуй аўтару за апошнюю.

**Валер Гапееў**

# «Праўда дзесьці побач»

**Нярэдка даводзіцца чуць і чытаць пра занепад айчыннай мастацкай літаратуры і адсутнасць чытацкага попыту...**




Я думаю, гэта не зусім адпавядае ісціне. Наша нацыянальная літаратура па-ранейшаму трымаецца на сваім прыстойным узроўні. Яна мае дастаткова выбітных талентаў для свайго далейшага развіцця. Праблема ў самім беларускім грамадстве, якая палягае ў прымітыўным спрашчэнні нацыянальнай ідэі, духоўнай і культурнай дэвальвацыі народа, яго гвалтоўным моўным знямненні. Дадаецца і сусветны тэхналагічны і глабалізацыйны ціск. Аднак усё гэта не выбіваецца са звычайнага шэрагу праблем, якія суправаджалі літаратурную творчасць цягам усяго часу беларускага пісьменства. А што да кніжных накладаў і чытацкай зацікаўленасці, то гэта часовая і спецыфічная праблема. Яна знікне разам з вышэй пазначанымі праблемамі ў самім грамадстве. Ды і ў нашых папярэднікаў — ці такія ўжо былі вялікія тыражы і шматтысячныя чытацкія аўдыторыі, апроч кароткага савецкага часу, калі ідэйны змест пераважаў над мастацкім? А наклады твораў Дантэ, Шэкспіра, Цютчава, Багушэвіча, Багдановіча, дасавецкіх Купалы і Коласа пры іх жыцці хіба не параўнальныя з тыражамі нашых цяперашніх кніг?! А да ўсяго яшчэ трэба памятаць, што не ўсё прарочa-таленавітае атрымлівае прызнанне пры жыцці аўтара. Тым больш, што на айчынную літаратуру адпачатку ўскладзена і дадатковая маральная місія — як носьбіта нацыянальна-гістарычнага асветніцтва і захавальніцы роднай мовы. Таму кожны новы беларускі літаратар і чытач — гэта наш каштоўны нацыянальны і духоўны набытак.

Пра тое сведчыць і сучасны літаратурны працэс, у якім адну з важных місій выконвае часопіс «Дзеяслоў». Выйшаў яго чарговы 76 нумар. Адразу скажу, што першая яго палова — мастацкая — апроч выбітной паэзіі В. Гронскай і перакладаў з літоўскай літаратуры, яўна прасядае, тады як другая палова якраз уражвае і прыцягвае чытача сваім эмацыянальным зрухам і палемічнасцю, спрэчнасцю і супярэчнасцю, што, на маю думку, і ёсць адзнакай сапраўднай літаратуры. Але пра ўсё па парадку.

Апавяданне **Андрэя Федарэнкі** «Шчасце» сухавата-статычнае ў адрозненне ад яго лепшых высокамастацкіх твораў. Яно сучаснае і, можна сказаць, злабадзённае якраз у адносінах да цяперашняга літаратурнага і калялітаратурнага працэса. Залішне кансерватыўнае? Дык у маральным і духоўным плане ўсе творы гэтага аўтара не выпадаюць з падобнай строга класічнай ідэйнай скіраванасці. Сам аповед, калі да яго аднесціся як да праграмнага ў супрацьстаўленні мастацва і маскультуры, нечым асацыятыўна напамінае артыкул Малгажаты Бухалік пра кнігу Казько, прэмію Гедройца і літаратурны працэс (друкуецца ў гэтым нумары «ЛБ»). І ўсё ж нават пры адноснай няўдачы (з майго пункту гледжання) тэкст А. Федарэнкі з'яўляецца фактам мастацтва, а не літаратурнай штучнасці.

Вядомы паэт **Васіль Зуёнак** піша ў сваім пашанотным веку вельмі здаровыя і мудрыя вершы, што здараецца з паэтамі вельмі рэдка. Гэта пазнака не толькі майстэрства творцы, але і глыбокага духоўнага інтэлекту. У нас цяпер шмат геніяў — і жывых, і адышоўшых, Васіль Зуёнак наўзбоч іх — талент Боскі:

*Калі звініць спякотны дзень,*
*Калі ў грудзях гарыць сухмень,*
*Ты марыш аб адным тады:*
*О, хоць бы кропельку вады!..*
*А да крыніцы прыпадзеш –*
*То неспатольна п'еш і п'еш...*
*Так і жыццё: няма мяжы*
*Жаданню — вечна жыць і жыць...*
*І смутку нашага выток,*
*Што — усяго адзін глыток...*

Наіўны па сваёй сутнасці тэкст **Міхася Зізюка** з Навагрудка, які ён назваў аповесцю «Развітанне з летам», зроблены ў традыцыйным апісальным рэчышчы. Аднак імя аўтара для нашай літаратуры новае, і да яго варта прыглядзецца, магчыма, і падтрымаць. Бо чалавек пакуль у разладзе — расцягвае сябе на дзве мовы. Нездарма ж пры чытанні не-не — ды і прабівае душу сваёй шчырасцю і несапсаванай натуральнасцю. Сюжэт просты: чалавек стамляецца ад шараговай штодзённасці і ўпадае ў дэпрэсіўны адчай, але вера ў дабро і каханне падымаюць яго і вяртаюць да паўнакроўнага жыцця... Малады чытач наўрад ці пакваліцца на такую дабротную, але не новую літаратуру. Я прачытаў. Не скажу, што надта шкадую...

Паэт **Васіль Макарэвіч** не мяняецца ў сваёй вершаванай творчасці: майстравіты адпачатку і аднастайны да канца. Асабліва тое тычыцца формы і стылістыкі. Яго паэмы — нібы здоўжана-расцягнутыя дарогі з дому ў далёкі свет, якія не скарачаюцца пры звароце назад.

Часопіс працягвае публікацыю нізкі аповедаў **Віктара Казько.** Гэтым разам глыбока-вірааватым стылем пісьма аўтар распавядае нам пра рыб (краснапёрку і карпа) і прыроду чалавека ў хуткаплынным асяроддзі спрадвечнага часу... *«Краснапёрка, калі меркаваць па яе вёрткасці і хуткасці ў вадзе, зусім невялічкая. Але я таксама займаю ў даравaнай мне прасторы не так ужо багата месца. Увогуле мы, палешукі, не любім адсвечваць і вытыркацца. Я стоена ляжу на верасе пад дубам. Наглядаю, цікую і пільную жыццё, што знікае і нараджаецца ў мяне на вачах, за мігатлівым лётам адлітага з серабра і золата часу, яго куль, што няздольныя нікога забіць. Прызначэнне якіх толькі адраджаць. Гэта, паўна, і з'яўляецца нятленным працягам жыцця. Бессмяротнасцю вечнага спакою заўсёды жывой памяці».*

Гарадзенскі паэт **Анатоль Брусевіч** — паэт арыгінальны і самабытны, але зрэдзьчасу мае праблемы з майстрэствам і версіфікацыяй. Не ўсе яго вершы дыхтоўныя ад пачатку да канца. Складваецца ўражанне, што на ўвесь натхнёна-эмацыйны запал яму іншым разам не хапае паэтычнага дыхання... На высокім узлёце раптам пачынаецца адчувальнае кіслароднае галаданне.

**Уладзімір Сіўчыкаў** публікуе свае нататкі з кніжкі «Уладзевы гісторыі», якая, дарэчы, пабачыла свет услед за выхадам часопіса. Піша Сіўчыкаў проста і шчыра, можна нават сказаць, сям-там праставата, але з драйвам і здаровай эмоцыяй ды цвярозай іроніяй і гумарам...

У гэтым нумары ёсць-такі добры падарунак для чытачоў-эстэтаў — нізка цудоўных тонкіх і адборных па чысціні паэтычных твораў **Вольгі Гронскай.** Хаця, на першы погляд, можа падацца, што ўвесь гэты паэтычны крышталь абманлівы сваёй крохкай каштоўнасцю, можа, нават зрэдку версіфікацыйнай выштукаванасцю. Бытта бы не хапае нечага глыбокага, пераканаўчага, самасцвярджальнага. Нейкай трагедыйнай паўзы, аддаленага трывожнага гулу... Лёсавай драмы, калі хочаце, чаго аўтару я, вядома, не жадаў бы, але як чытач менавіта яе затоена чакаў бы... Вось адзін з фрагментаў:

*У яе падсвядомым*
*спрачаюцца дзіўныя галасы,*
*пальцам холадна,*
*ные шыя і штосьці ніжэй ключыц.*
*Вусны пахнуць суніцамі,*
*травою скошанай — валасы...*
*Толькі радасць яе і смех*
*замкнёныя на ключы*

Апавяданне **Аляксея Чубата** «Навушнікі» ў мастацкім плане кволае і недацягнутае. Так, яно ўздымае праблемную тэму. Глухату і нячуйнасць сучаснай моладзі, якая ў сваёй пераважнай большасці сышла ў віртуальны свет, засланіўшыся ад гэтага свету навушнікамі. Замкнёным колам выпісана супрацьстаўленне чуйнага пакалення бацькоў і сузіральнага — дзяцей. Але бракуе глыбокага і яркага мастацкага мазка, яскравага ці патаемнага папераджальнага падтэксту...

Вершы з падборкі **Паўла Гаспадыніча** «Аблокі над Крывіяй» пасуюць сваім ментальным вычуваннем свядомай беларускай душы. Шматкроць пашматаныя і няпэўныя, сезонныя восеньскія настроі...

*Апранулася восень у дождж,*
*Капялюшык крывёй набрынялы...*
*Побач з намі, вакол ды і ўздоўж –*
*Успамін пра Радзіму апалы.*

У дэбютнай нізцы вершаў сямнаццацігадовай **Яўгеніі Пракапчук** з Ганцавіч праглядвае здаровы юны песімізм з праблескамі надзеі... Даўно ў згаданай рубрыцы не было такіх яркіх публікацый.

*Я ўсё ж вышыю ўзор жыццёвы,*
*І каб спеў у віры не згінуў,*
*На тканіне крыжоў і мовы*
*Кроплю цёплай крыві пакіну.*

Не ўсё роўна, майстравіта і прафесійна (і дзякаваць Богу), але ў галоўным і паасобным гэты юны талент паказвае на годную паэтычную перспектыву. І я пажадаў бы Яўгеніі дачасна і стрымгалоў не імкнуцца да вяршыні Парнаса, а па-паляшуцку ўдумліва-разважна папасвіцца-паабівацца на сваёй роднай лугавіне, каб пасля было з кім і з чым заставацца...

**«Парадны ўваход у мастацтва»** — пад такой назвай публікуюцца перакладныя творы сучаснай літоўскай прозы і паэзіі. Тэксты варты шырокай чытацкай увагі. Прынамсі, мне яны падаліся мацнейшымі за вышэй згаданыя публікацыі беларускіх аўтараў. Літаратура суседзяў адметная ад нашай сваёй унутрана-валявой прагай да мастацкага ідэалу і дасканаласці, нават, я сказаў бы, боязі апусціцца ніжэй пэўнай, зададзенай папярэднікамі, планкі ў духоўна-нацыянальным самавыяўленні. Найперш выдзяліў бы паэзію Айдаса Марчэнаса, ды і творы Гінтараса Граяўскаса (абодва ў перакладах А. Хадановіча), Гедрэ Казлаўскайтэ (М. Мартысевіч) і Гедры Радвілавічутэ (С. Паўкштэлы) пакідаюць уражанне высокага мастацкага кшалту. Пэўна, што ў тым і несумненная заслуга нашых перакладчыкаў.

Я тэатрал, можна сказаць, ніякі. Апроч «Тутэйшых» і «Сабачага сэрца» на сцэне на свае вочы больш нічога не бачыў. І тут вось такая нечаканая мадэрновая фантасмагорыя маладога драматурга **Васіля Дранько-Майсюка** (містэрыя ў двух дзеях «Сатурніянка»). Гэткая вузка-нацыянальная з шырокім касмічным замахам штучка, якая прачыталася ў адзін прысест і без высілак. Атрымаў творчы і чытацкі драйв... Узвышаны Язэп Драздовіч і прыземлены Міхась Машара — іх умоўная ўраўнаважанасць як хісткая аснова нацыянальнай беларускай ментальнасці. Цікава, ці паставіць усё ж гэты спектакль у Беларусі які-небудзь умоўны «Пятро Пятровіч»?..

«Пра атрыбуцыю і фальклярызацыю» разважаюць у сваіх супольных (адносна) літаратуразнаўчых эсэ пад назваю «Праўда дзесьці побач» **Юры Пацюпа** і **Вячаслаў Мартынюк.** Прыгожыя і ясныя мовай і стылем захапляльныя тэксты, а калі яшчэ ўзгадаць пра іх унутраную напружаную экспрэсію і палемічнасць, то абысці гэтую публікацыю для прыхільнікаў краснага пісьменства грэху падобна... У асноўным вядзецца пра ўдакладненне аўтарства некаторых твораў і пра тэксты, якія выклікалі і выклікаюць пытанні ў беларускім літаратуразнаўстве. Хоць можа так стацца, што і саміх аўтараў апублікаваных эсэ па часе нехта паспрабуе паправіць. Літаратура рэч няпэўная...

Чытэльная, іранічная, і зрэдзьчас гнеўна-абуральная, але заўжды шчырая, дасціпная і дасведчаная эсэістыка **Міхася Скоблы.** Цыкл эсэ з будучай яго кнігі «Саркафагі страху» публікуецца ў гэтым нумары. Асноўная падаплёка — умацаванне аслаблай веры суайчыннікаў у тое, што Беларусь жыла, жыве і будзе жыць...

«Мая беларускамоўнасць» («між здрадаю і кампрамісам») **Анатоля Івашчанкі** — чытанка ў нечым падбухторная, якая павінна выклікаць у спакутаваных нацыянальна-дзяржаўнымі хістаннямі беларусаў пождаў вострага палемічнага абмеркавання. Шчыры аналіз (на прыкладзе ўласнага жыцця) беларускамоўных (свядомых і несвядомых) супольных і асабістых непаразуменняў і разважанняў у пошуках магчымай ідэальнай нацыянальнай ідэі... Аўтар прызнаецца, што *«першапачаткова гэты тэкст задумваўся як роздум над феноменам беларускамоўнасці ў сённяшніх варунках. Чым яна ёсць на тле цяперашняй рэчаіснасці: адзнакай якасці, пасіянарнасці/самаахвярнасці? Можа, гэта ў большай ступені рэлігія/служэнне? Ці — поза (спосаб вылучыцца з шэрае масы)? А, можа, як лічыць мой прыяцель, — вырак і праклён?..»* Менавіта такіх тэкстаў (адкрытых і нажытых, а не надуманых), на мой погляд, і нестае ў нашай пуста-расхрыстанай перыёдыцы.

У часопісе дзве публікацыі старраннага **Сяргея Шапрана** (працяг старонак новай кнігі «Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія» і «Апошняе сумоўе» — запіс развітальных гутарак з Генадзем Бураўкіным). Раю пачытаць і паразважаць... Тое ж тычыцца і цікавай даўняй гутаркі **Зіновія Прыгодзіча** з Максімам Лужаніным.

Напрыканцы нумара — тры рэцэнзіі: **Ірыны Саматой** на дзённікавую прозу Сакрата Яновіча, **Паўла Абрамовіча** на кнігу «У віры быцця» Ніла Гілевіча і **Леаніда Галубовіча** на дэбютны зборнік вершаў Антона Рудака «Верхні горад».

Прыемнага прачытання і роздумных уражанняў.

**ЛеГАЛ**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*



# Нямеччына: 9 мільярдаў еўра за кнігі

**За апошні год у Нямеччыне выпушчана менш кніг і менш прададзена. Тым не менш, эксперты станам айчыннага кніжнага рынку амаль задаволеныя.**

У Нямеччыне выйшла ў мінулым годзе каля 74 тысяч назваў кніг — менш, чым раней, а агульны абарот продажаў на нямецкім кніжным рынку скараціўся на 2,2%. Аднак гэты абарот па-ранейшаму складае вялікую суму: 9,32 мільярда еўра.

Галоўнай перадумовай скарачэння аб'ёмаў збыту з'яўляецца адсутнасць буйных бэстсэлераў, гаворыцца ў паведамленні Біржавага аб'яднання нямецкага кнігагандлю. Так, абарот з продажаў дзесяці самых ходавых кніг у 2014 аказаўся на 20 адсоткаў меншым, чым у 2013 годзе. З той жа прычыны (адсутнасць выбітных у камерцыйным дачыненні бэстсэлераў) ужо другі год запар у Нямеччыне горш, чым раней, прадаецца мастацкая літаратура.

Тым не менш, раманы, навелы і белетрыстыка ў цэлым складаюць у Нямеччыне амаль трэць усіх выдадзеных кніг. Навукова-папулярная і даведачная літаратура, а таксама даведнікі павялічылі свае долі ў аб'ёме абароту на кніжным рынку.

Па дадзеных Біржавага аб'яднання нямецкага кнігагандлю, кожная другая кніга ў Нямеччыне паступае да пакупніка традыцыйна — праз прылавак кнігарні. Больш за тое, у канкурэнцыі з сеткавым гандлем у інтэрнэце кнігарні змаглі ўмацаваць свае пазіцыі. Абарот іх, праўда, нязначна знізіўся, склаўшы 4,58 мільярда еўра, але ўсё ж лёс традыцыйных кніжных крамаў у агульных аб'ёмах продажаў нашмат вышэй, чым у сеткавых (амаль 50 адсоткаў супраць 16,2). Кожная другая кніга ў Нямеччыне прадаецца ў кнігарні і толькі кожная сёмая — праз інтэрнэт. Прычым абарот анлайн-гандлю ўжо другі год запар скарачаецца.

Сярод чытачоў электронных кніг моладзі ва ўзросце ад 20 да 39 гадоў нават менш. Эксперты тлумачаць гэта тым, што электронныя выданні ў Нямеччыне не нашмат танней папяровых — па законе аб фіксаваным кошце на кнігі. Між тым, цэны на электронныя кнігі ў Нямеччыне ўсё ж працягваюць падаць і, у сярэднім, ледзь перавысілі ў мінулым годзе 7 еўра.

Тым не менш, электронная кніга застаецца мала папулярнай: яе доля складае ў агульным аб'ёме продажаў крыху больш за 4 адсоткі. Але нават у ЗША, дзе рынак гаджэтаў-чытачоў і электронных выданняў з'яўляецца нашмат больш распаўсюджаным, яны не перавышаюць 25 адсоткаў усяго абароту кніжнага гандлю. Гэта значыць, што гаварыць аб гібелі традыцыйных друкаваных кніг, як гэта робяць некаторыя каментатары, зусім не даводзіцца.

# «Украінская кніга года»

**Ва Украіне ўручылі штогадовую прэмію прэзідэнта «Украінская кніга года».**

Званне кнігі года ў намінацыі «За выдатныя дасягненні ў галіне мастацкай літаратуры» атрымала трылогія «Самотнасць прарока, або Добры Анёл Івана Франка: Раман-эсэ» Ляўко Рызніка. У намінацыі «За ўклад у развіццё ўкраіназнаўства» прэмію атрымала выданне «Вуліцы старога Кіева» Вольгі Друг. У намінацыі «За садзейнічанне ў выхаванні падрастаючага пакалення» ўзнагарода дасталася кніжнаму выданню «З Божага саду. Расліны і жывёлы ў Святым пісанні» Андрэя Тапачэўскага.




# Перапахавалі аўтара «Дон Кіхота»

**У Мадрыдзе праз 400 гадоў пасля смерці пахавалі астанкі Сервантэса.**

Меркаваныя парэшткі іспанскага пісьменніка Мігеля дэ Сервантэса афіцыйна пахавалі ў Мадрыдзе. У царкве жаночага манастыра ордэна трынітарыяў прайшла цырымонія ўскладання вянкоў да падножжа помніка, узведзенага на месцы, дзе будзе пакоіцца яго прах.

Пісьменніку таксама аддалі ваенныя ўшанаванні, паколькі ён служыў у іспанскай арміі. У цырымоніі прыняла ўдзел мэр Мадрыда Ана Ботэлья.



Шкілеты, якія маглі належаць Сервантэсу і яго жонцы Каталін дэ Салазар, археолагі выявілі ў сакавіку 2015 года ў тым жа манастыры. Першапачаткова месца пахавання Сервантэса было вядома, аднак пасля рэканструкцыі кляштара ў 1673 годзе яго магіла была страчана.

Пошукавыя работы вяліся каля года.

Хоць абодва шкілеты дрэнна захаваліся, некаторыя прыкметы (калецтвы, атрыманыя Сервантэсам на ваеннай службе; на момант смерці ў пісьменніка заставалася толькі шэсць зубоў) дазволілі навукоўцам заявіць, што яны выявілі менавіта парэшткі пісьменніка і яго жонкі.

Мігель дэ Сервантэс Сааведра, аўтар рамана «Мудрагелісты ідальга Дон Кіхот Ламанчскі», аднаго з найважнейшых твораў еўрапейскай літаратуры, памёр у Мадрыдзе 22 красавіка 1616 года. У 2015-м святкуецца 400-годдзе публікацыі другой часткі «Дон Кіхота».

# Аўдыёзапіс Стывена Кінга

**Новы аповед Стывена Кінга «П'яныя феерверкі» можна будзе паслухаць.**



Дзеля таго, каб пашырыць сваю чытацкую аўдыторыю, «кароль жахаў» С. Кінг перадаў правы выпуску аўдыёзапісу свайго новага апавядання «П'яныя феерверкі» выдавецтву «Simon & Schuster Audio».

Апавяданне «П'яныя феерверкі» ўваходзіць у зборнік «Кірмаш страшных сноў», які будзе апублікаваны ў лістападзе гэтага года.

Па сюжэце кнігі бесклапотны Олдэн МакКосланд пастаянна заняты распіццём алкагольных напояў. Ён атрымлівае асалоду ад жыцця і плануе парушыць закон, каб абысці ворага на конкурсе феерверкаў у штаце Мэн.

«Гэты аповед варта пачуць», — сказаў С. Кінг. Таксама пісьменніку вельмі цікава, наколькі будзе паспяховым фармат новай аўдыёкніжкі і ці можна будзе яго выкарыстоўваць у далейшых прамоцыях сваіх зборнікаў.

У «Кірмаш страшных сноў» уключаны яшчэ 19 навел. Урывак аднаго з апавяданняў, «Смерць», ужо друкаваўся ў «The New Yorker».



# Дзеці ў Даніі чытаюць

**Нядаўняе даследаванне, праведзенае Цэнтрам дзіцячай літаратуры ва ўніверсітэце Орхус (Данія), паказала, што дзеці ўсё часцей выбіраюць кнігі для чытання ў вольны час.**

Хоць прагляд тэлевізара і кампутарныя гульні таксама папулярныя, гэта не перашкаджае дзецям вылучаць шмат часу для чытання.

Апытаўшы амаль дзве тысячы школьнікаў, даследчыкі вызначылі, што ў 2014 годзе працэнт дзяцей-чытачоў ва ўзросце 9–12 гадоў склаў 61%, тады як у 2000 годзе гэты паказчык быў 56%.

Кіраўнік даследавання Сцін Рэйнхолд Хансэн перакана765ная, што павышэнне цікавасці да кніг сярод школьнікаў абумоўлена шэрагам дзяржаўных кампаній, праведзеных у дацкіх школах, напрыклад — «Стыль жыцця» або «Любоў да чытання». Таксама вядома, што па ўмовах школьнай праграмы дзеці мусяць штотыдзень прачытваць адну кнігу на свой выбар. Так дзеці разумеюць, што кнігі — гэта задавальненне, а не ціск і прымус з боку настаўнікаў, бацькоў ці бібліятэкараў. Адпаведна павялічыўся і асартымент кніг у бібліятэках. Яшчэ адной прычынай кніжнай зацікаўленасці лічыцца павышэнне якасці самой выдавецкай прадукцыі і якасці тэкстаў.



# Кнігі Сэнт-Экзюперы б'юць рэкорды

**Выдавецкі бум на кнігі знакамітага Антуана Сэнт-Экзюперы, які адзначаны на рынку многіх краінаў свету, мае цалкам зразумелае тлумачэнне.**

З 1 студзеня гэтага года прыбыткам ад выданняў не трэба будзе ні з кім дзяліцца, паколькі, згодна з заканадаўствам, правы аўтара і яго спадчыннікаў на творы закончыліся ў пераважнай большасці краін, за выключэннем Францыі.

На радзіме вялікага пісьменніка гэты тэрмін закончыцца толькі на пачатку 2032 года, паколькі Экзюперы загінуў на баявым пасту, абараняючы сваю краіну, як і належыць ваеннаму лётчыку, у паветры, летам 1944 года. А на творы такіх літаратараў у Парыжы ёсць адпаведная папраўка ў закон. (Сэнт-Экзюперы не вярнуўся з разведвальнага палёту, пазней былі знойдзеныя часткі яго самалёта, якія цяпер размешчаны ў Музеі авіяцыі ў Ле Бурже).

У іншых жа краінах попыт на кнігі Экзюперы настолькі вялікі, што друкарні завалeныя замовамі. Напрыклад, толькі ў Турцыі пабачылі свет некалькі дзясяткаў выданняў самага знакамітага твора французскага лётчыка «Маленькі прынц».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Gazeta.ua, The Bookseller, The New York Times, The Guardian, Associated Press, vsiknygy.net, prostokniga.com.ua, novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 31 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Меладраматычны серыял «Дзявочая паляванне» (Расія-Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**17.30** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**18.00** Нашы.
**18.15** Таямніцы следства.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Нашы.
**21.55** Прэм'ера на канале! Меладрама «Каханне з выпрабавальным тэрмінам» Украіна. 1-я і 2-я серыі.
**01.15** Навіны.
**01.35** Дзень спорту.
**01.50** Дэтэктыў «Асобы, якіх ахоўваюць» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Серыял «Дом з лілеямі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Вярбоўшчык».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Мастацкі фільм «Тэлефонная будка».
**00.30** Гарадскія піжоны.
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Не адступаць і не здавацца». ЗША - Ганконг, 1986г.
**10.15** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 8». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Татальны распродаж».
**14.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Ля параднага пад'езду».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Шоў пачынаецца». ЗША - Аўстралія, 2002г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** Фільм «Апраўданая жорсткасць». ЗША - Германія, 2005г.



### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**10.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.35** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.30** Кіпень.
**13.50** Капейка ў капейку.
**14.20** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.15** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**17.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія). 5-я серыя.
**18.55** Фантастычны баявік «Драпежнік» (ЗША).
**20.50** Хачу ў тэлевізар!
**20.55** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.45** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці-шоў (Украіна).
**23.45** Рэпарцёр.
**00.35** Трылер «Паляўнічы на забойцаў» (ЗША-Германія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Шчыт і меч». Ваенныя прыгоды. 4-я серыя, заключная (СССР, 1967 г.
**09.20** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма СССР, 1980 г.).
**10.40** Мультфільмы.
**11.50** «Сіла веры».
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Жанчыны». Меладрама (СССР, 1965 г.).
**14.10** «У гасцях у Барыса Аверына». Сустрэча з кінарэжысёрам Аляксандрам Сакуравым. Часткі 1-я і 2-я.
**15.05** «Маскарад». Драма (СССР, 1941 г.).
**16.45** Мультфільмы.
**17.50** «Дваццаць шэсць дзён з жыцця Дастаеўскага». Біяграфічная драма СССР, 1980 г.).
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Зніклыя сведкі». Прыгодніцкі дэтэктыў (Румынія, СССР, 1988 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** «Камертон». Заслужаная артыстка Расіі Алена Варабей.
**21.25** «Пасажыр пад даждЖом». Крымінальная драма (Італія, Францыя, 1969 г.
**23.20** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Спорт-мікс.
**07.55** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 3-ці кваліфікацыйны раўнд. Першы матч.
**10.10** Валейбол. Еўраліга. Грэцыя - Беларусь. Мужчыны.
**12.10** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - ПСЖ.
**14.05** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Рэал Мадрыд - Мілан.
**15.55** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.05** Сэлфі.
**17.25** Чэмпіянат свету па водных відах спорту. Сінхроннае плаванне. Прамая трансляцыя.
**19.10** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**20.10** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Чвэрцьфіналы. Жанчыны.
**22.20** Піт-стоп.
**22.45** Еўрапейскі покерны тур.
**23.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Акварыум, серыял.
**09.20** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма): У краі духаў.
**09.50** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**10.45** Невядомая Беларусь: Рок назаўжды – 2, д/ф: ч. 2.
**11.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Вялікі князь літоўскі, польскі кароль Ян III Сабескі.
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**11.45** Два на два (тэледыскусія): Таццяна Малашчанка і Вольга Мазурава: Беларускамоўная адукацыя для дзяцей – справа не для слабакоў.
**12.20** Валерый і Ірына, рэпартаж.
**12.35** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**13.25** Дэкалог-89+, цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 9: Філіжанкі Ёка Она.
**16.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**16.45** Аўтаспынам па Беларусі: Залатыя пары.
**17.00** Апантаныя, дак. цыкл.
**17.10** Мова нанова: Трасянка.
**17.30** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**18.25** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ігар Бабкоў.
**18.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Паўночная вайна.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Эмілія Плятэр.
**19.20** Невядомая Беларусь: Каўчэг, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Брак ці шлюб?
**22.10** Джэкі без Джэка, д/ф.
**23.05** Разьюшаныя нябёсы, трымценнік.
**00.45** Студыя «Белсат».

## 1 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.25** Існасць.
**05.55** Вострасюжэтная меладрама «Парогі» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Буйным планам.
**09.40** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).
**10.50** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**12.50** Кулінарная дыпламатыя.
**13.25** Выхад ёсць.
**14.00** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Нашы.
**15.45** Прэм'ера на канале! Меладрама «Заезджы малайчына» (Расія).
**17.35** Вострасюжэтная меладрама «Пенелопа» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.35** Прэм'ера на канале! Меладрама «Шэсць сотак шчасця» (Расія). 1-я і 2 я серыі.
**23.20** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Леанід Якубовіч.
**10.30** Смак.
**11.10** Ідэальны рамонт.
**12.20** Шматсерыйны фільм «Асабістае жыццё следчага Савельева».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Ундзіна».
**18.10** Здабытак рэспублікі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** КВЗ. Прэм'ер-ліга.
**00.05** Мастацкі фільм «Людзі Ікс».

### ТВ

**06.15** Фільм «Шоў пачынаецца». ЗША - Аўстралія, 2002г.
**07.50** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.40** «Салдаты 4». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Фантоцы бярэцца за рэванш». Італія, 1990г.
**15.15** «Вадзіць па-руску».
**15.50** «Вялікі горад».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** «Наша справа».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.25** Фільм «Сімона». ЗША, 2002г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Сцягі нашых бацькоў». ЗША, 2006г.
**22.25** «Дакументальны спецпраект».
**00.10** Фільм «Фантоцы бярэцца за рэванш». Італія, 1990г.
**01.35** «Масква. Дзень і ноч».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**07.25** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**09.25** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Азбука густу.
**10.35** Прэм'ера. Анімацыя для ўсёй сям'і. «Воблачна, магчымыя ападкі ў выглядзе фрыкадэлек» (ЗША).



**12.05** Капейка ў капейку.
**12.40** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці шоў (Украіна).
**14.40** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**17.10** Прэм'ера! Містычны дэтэктыў «Сёмая руна» (Расія). 1 я - 4-я серыі.
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** Рамантычная камедыя «Будзь маім хлопцам на пяць хвілін» (ЗША).
**23.25** Хачу ў тэлевізар!
**23.30** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «АРТиШОК». Музыкант, лідэр гурта «Без Билета» Віталь Артыст.
**08.35** «Верныя сябры». Лірычная камедыя (СССР, 1954 г.).
**10.15** «Камертон». Заслужаная артыстка Расіі Алена Варабей.
**10.40** Мастацкі фільм «Першы ўзвод». Драма (СССР, 1932 г.).
**12.05** «Таямніцы першай сусветнай». Фільм першы «Сябры-ворагі». Дакументальны фільм.
**12.50** «Музыканты аднаго палка». Камедыя (СССР, 1965 г.).
**14.10** «Калейдаскоп».
**14.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.50** «Зніклыя сведкі». Прыгодніцкі дэтэктыў (Румынія, СССР, 1988 г.).
**16.15** «Калейдаскоп».
**16.25** «Верныя сябры». Лірычная камедыя (СССР, 1954 г.).
**18.00** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм 1-ы «Запавет імператара» (Расія, 2000 г.).
**19.20** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм 2-гі «Запавет імператрыцы» (Расія, 2000 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** «Камедыянт». Драма (Вялікабрытанія, 1960 г.).
**22.25** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Яўген Барышнікаў.
**23.05** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Манчэстар Юнайтэд - ПСЖ.
**09.55** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Паўфіналы. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**12.00** Чэмпіянат свету па водных відах спорту. Сінхроннае плаванне.
**13.55** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Матч за 3-е месца. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.00** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Фінал. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.00** Піт-стоп.
**16.25** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Чвэрцьфіналы. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**20.35** Змешаныя адзінаборствы. ММА. М-1.
**22.40** Еўрапейскі покерны тур.
**23.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Новы год.
**08.40** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Ліс Леон, мультсерыял.
**09.05** Зорны пірат, тэлесерыял.
**09.35** Мова нанова: Эканоміка.
**09.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.25** Людскія справы: Ватнікі, бандэраўцы, украінцы ці навасарыйцы – хто ўцякае ў Беларусь?
**10.55** Форум (ток-шоу): Брак ці шлюб?
**11.40** Я люблю дэмакратыю. На шляху: Іран. Забароненыя словы, д/ф.
**12.30** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Аперацыя «Фокслі».
**13.25** У пошуках царскіх скарбаў, д/ф.
**14.15** Глыбокая вада, серыял.
**15.00** Разьюшаныя нябёсы, трымценнік.
**16.40** Урок беларускай мовы, д/ф.
**17.30** Час гонару, серыял.
**18.20** Беларусы ў Польшчы.
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**18.50** Сяржук Вітушка, рэпартаж.
**19.10** Заўтра, д/ф.
**20.40** Аўтаспынам па Беларусі.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.15** Шэрая Сава, м/ф, 1999 г., Канада–Вялікабрытанія.
**23.15** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**24.00** Студыя Белсат.
**00.20** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Аляксей Ляляўскі.
**00.50** Камчатка. Жыццё ў цені вулканаў, д/ф.
**01.35** Акварыум, серыял.

TV

## 2 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**05.50** Вострасюжэтная меладрама «Парогі» (Расія). Заключныя серыі.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Нашы.
**15.45** Меладрама «Шэсць сотак шчасця» (Расія). 1-я і 2-я серыі.



**17.35** Вострасюжэтная меладрама «Пенелопа» (Расія). Заключныя серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.30** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Заезджы малайчына» (Расія).
**00.35** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).

**АНТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** «Фазэнда».
**10.10** Новае летняе тэлебачанне.
**11.55** Чорна-белае.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Сфера вядзьмарства».
**17.50** КВЗ. Кубак у Сочы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Мастацкі фільм «Гарпастум».
**23.20** Мастацкі фільм «Перавозчык».

**СТВ**

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.55** Фільм «Сцягі нашых бацькоў». ЗША, 2006г.
**10.05** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Салдаты 4». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Набожная Марта». СССР, 1980г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** Фільм «Мсціўцы». ЗША, 1998г.
**22.05** «Званая вячэра».
**23.45** Фільм «Набожная Марта». СССР, 1980г.
**02.05** «Масква. Дзень і ноч».

**Беларусь 2**

**07.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.45** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.35** Я хачу гэта ўбачыць!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.30** Серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.30** Рамантычная камедыя «Будзь маім хлопцам на пяць хвілін» (ЗША).



**16.10** Фантастычны баявік «Драпежнік» (ЗША).
**18.10** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Цела чалавека.
**21.40** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.45** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**23.35** Хачу ў тэлевізар!
**23.40** Трылер «Паляўнічы на забойцаў» (ЗША-Германія).

**Беларусь 3**

**07.40** «Калейдаскоп».
**07.50** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм 1-ы «Запавет імператара» (Расія, 2000 г.).
**09.10** «Таямніцы палацавых пераваротаў». Гістарычная драма. Фільм 2-гі «Запавет імператрыцы» (Расія, 2000 г.).
**10.35** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.25** Гала-канцэрт і цырымонія ўзнагароджання XIII Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2015».
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Байран». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, ЗША, 2003 г.).
**16.05** «Грані Перамогі». Галасы Перамогі.
**16.30** «Музеі Беларусі». Нацыянальны мастацкі музей. Часткі 1-я і 2-я.
**17.25** «Калейдаскоп».
**17.35** «Пасажыр пад дажджом». Крымінальная драма (Італія, Францыя, 1969 г.
**19.30** «Сны». Эксцэнтрычная камедыя (Расія, 1993 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Байран». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, ЗША, 2003 г.).
**00.20** «Калейдаскоп».

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Фінал. Жанчыны.
**09.05** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Барселона - Чэлсі.
**10.55** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Паўфіналы. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.20** Змешаныя адзінаборствы. ММА. М-1.
**14.25** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Матч за 3-е месца. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.40** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Фінал. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.55** Фактар сілы.
**17.25** Чэмпіянат свету па водных відах спорту. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**19.45** Сэлфі.
**20.00** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 4-ы этап. Лагойск.
**21.15** Пляжны валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Фінал. Мужчыны.
**21.55** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. Фіярэнціна - Барселона.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.20** Фітнес-шмітнес.
**07.40** Беларусы ў Польшчы.
**07.55** Два на два (тэледыскусія): Таццяна Малашчанка і Вольга Мазурава: Беларускамоўная адукацыя для дзяцей – справа не для слабакоў.
**08.30** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Электрычнасць сучасны чарадзей!
**08.40** Ліс Леон, мульсерыял.
**08.50** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**09.05** Зорны пірат, тэлесерыял.
**09.35** Мова нанова: Птушкі.
**09.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.20** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці задаволеныя беларускі сваім інтымным жыццём?
**10.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Культура. Адказнасць. СМІ.
**11.35** Час гонару, серыял.
**12.25** Валерый і Ірына, рэпартаж.
**12.40** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**13.30** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.15** Заўтра, д/ф.
**15.45** Генадзь Бураўкін, рэпартаж.
**16.05** Джэкі без Джэка, д/ф.
**16.55** Шэрая Сава, м/ф.
**18.55** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**19.05** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 3.
**19.50** Невядомая Беларусь: Таямніца следства. P.S., д/ф.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.40** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лаўрышаўскай лаўры.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Павел Севярынец.
**21.15** Ціхі хаос, м/ф.
**23.05** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**23.55** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ганна Хітрык.
**00.30** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.30** Minsk-Mixt–2008. канцэрт гурта «Джамбібум».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

# Прызнаць Ісламскую дзяржаву

Алег НОВІКАЎ

**У заходняй прэсе з'явіліся першыя артыкулы, аўтары якіх заклікаюць лідараў Захаду афіцыйна прызнаць «Ісламскую дзяржаву» (ISIS).**

Знятыя на відэа архаічныя сцэны калектыўных забойстваў вязняў, продаж жанчын у рабства, стварэнне сеткі тэрарыстаў па ўсім свеце, нарэшце, нядаўнія газавыя атакі супраць курдаў, што парушае ўсе міжнародныя канвенцыі… Нягледзячы на ўсе згаданыя ўчынкі тэрарыстаў, якія называюць сябе «Ісламская дзяржава», некаторыя лічаць, што гэта не прычына для іх дыпламатычнай ізаляцыі. Усё часцей агучваецца думка, што прызнанне Халіфату — так часта называюць сваю структуру тэрарысты, — калі не знішчыць цалкам радыкальны ісламізм, то як мінімум панізіць градус тэрарыстычнай актыўнасці на Блізкім Усходзе.

Якімі аргументамі аперуюць аматары блізкаўсходняй Realpolitik? Перш за ўсё, яны звяртаюць увагу на тое, што спробы вайсковымі сродкамі лакалізаваць ISIS з-за шматлікіх фактараў пакуль былі беспаспяховымі. Наадварот, ісламісты за год пасля абвяшчэння «Ісламскай дзяржавы» ўмудрыліся падмяць тэрыторыю, роўную плошчы Вялікабрытаніі. Адзначаючы гэты факт, Джон МакЛаўфін, былы віцэ-дырэктар ЦРУ (2011–2014), піша: «Людзі не ваююць таму, што іх навучылі. Яны змагаюцца за тое, у што вераць. Зараз у рэгіёне найбольш апантаныя вераць у «Ісламскую дзяржаву», якая ў сілу гэтага будзе набываць контуры дзяржаўнага інстытуту».

На яго думку, дыпламатычнае прызнанне дазволіць гуляць на комплексах лідараў, якім будзе прыемна аказацца сябрамі палітычнай эліты. Узняўшыся па сацыяльным ліфце, тэрарысты не змогуць не даражыць сваім новым статусам. Метамарфоза прымусіць іх больш уважліва прыслухоўвацца да думкі сусветнай супольнасці і, як следства, як мінімум адмовіцца ад практыкі публічных смяротных пакаранняў. Таксама, як лічаць МакЛаўфін і яго аднадумцы, кіраўніцтва групоўкі пры такім сцэнары падзей можа прымусіць ісламскую міліцыю на месцах не захапляцца акцыямі генацыду.

Прызнанне ISIS — гэта крок да геаграфічнай лакалізацыі экспансіі радыкальнага ісламізму. Калі верыць амерыканскаму выданню «The Week», з'яўленне на мапе свету дзяржавы з аформленымі межамі дапаможа пераарыентаваць экстрэмістаў з тэмы вайны на будаўніцтва дзяржаўных інстытутаў на тэрыторыі часткі Сірыі і Ірака, якую яны кантралююць. Новая парадыгма, быццам, дазволіць хутка рэфармаваць прававую базу рэжыму, які зараз заснаваны на канонах шарыяту. Жыць па нормах шарыяту сапраўды можна, аднак выключна ва ўмовах вайны. У мірных умовах, тым больш калі на двары XXI стагоддзе, сярэднявечны шарыят не здольны рэгуляваць адносіны. Ісламістам спатрэбіцца кадыфікацыя новага права, стварэнне судовых інстанцый, інстытутаў следства і адвакатуры. Працэй кажучы, пачнецца трансфармацыя цяперашняй зоны, дзе пануе беззаконне і гвалт, у нешта больш-менш адэкватнае з пункту гледжання права.

Цікавы тэзіс у абарону ідэі прызнання ISIS прапануе італьянскае выданне «Limes». Яго журналісты ўзгадваюць няўдалы вопыт нядаўніх крыжовых паходаў Захаду на Усход. У час тых кампаній, якія вяліся супраць ісламістаў, камуністаў або дыктатараў, Захад шукаў на месцы тактычных саюзнікаў, дапамагаў ім фінансава і тэхнічна. Пры гэтым вельмі часта такімі саюзнікамі выступалі асобы і рухі, што часта аказваліся значна больш небяспечныя для Захаду. Так было ў Афганістане, дзе ЗША, змагаючыся з камуністамі, стварылі інкубатар талібаў і «Аль-Каіды». Групоўка «Ісламская дзяржава» таксама скарысталася вайсковай дапамогай, якая ішла з Захаду на падтрымку сірыйскай апазіцыі.




**Прызнанне «Ісламскай дзяржавы» — крок да геаграфічнай лакалізацыі экспансіі радыкальнага ісламізму**

«Можа хопіць заходнім палітыкам нараджаць монстраў, падобных да «Аль-Каіды» і шукаць іншыя шляхі супрацы з экстрэмістамі — задаюцца пытаннем італьянскія журналісты, аматары дыпламатычнага кансенсусу з Халіфатам. Яны таксама лічаць, што нават фармальная прапанова пра прызнанне здольная выклікаць у штабе экстрэмістаў падзел на фракцыі, што паслабіць маналіт руху і, магчыма, ягоную дэфрагментацыю на некалькі секцый, з некаторымі з іх можна будзе шукаць кантакты. Альтэрнатывай прызнанню, быццам, будзе афганскі рэмейк, калі базы тэрарыстаў у буйных гарадах знішчаць, аднак сацыяльная база для рэпрадукцыі тэрарыстычных настрояў застанецца.

Самы незвычайны тэзіс наконт міру з ISIS належыць амерыканскім кансерватарам, якія крытыкуюць Абаму за пасіўны характар вайны з ісламізмам. Заакіянскія ястрабы мяркуюць, што легітымізацыя ISIS дазволіць ЗША легальна абвесціць яму вайну, падключыць да яе ўсе існуючыя рэсурсы, апаратыўна рэагаваць на кан'юктуру на тэатры баявых дзеянняў, а не збіраць розныя саветы ААН. Зараз, нагадаем, атакі на базы тэрарыстаў абмежаваныя авіяналётамі і падрыхтоўкай вайсковых кадраў для армій, якія супрацьстаяць ісламістам.

Нарэшце, вельмі правакацыйную думку агучвае расійскі клуб аналітыкаў. Некаторыя лічаць, што спрачацца наконт прызнання або не прызнання ISIS не мае сэнсу. Гэтая дзяржава будзе прызнаная ў адной з рэгіянальных сталіц. Матывы могуць быць розныя, напрыклад, жаданне першымі наладзіць кантакты з лідарамі ісламскай дзяржавы і за кошт гэтага ўзняць свой міжнародны статус. Дамінуе падыход, што першым, хто прызнае ISIS, у бліжэйшы час стане Катар.

Нягледзячы на знешнюю лагічнасць канструкцый прыхільнікаў мірнага пакту з ISIS, іх разважанні пакуль успрымаюцца як нейкая экзотыка. Нават не вельмі дасведчаны ў сітуацыі на Блізкім Усходзе чалавек можа пабачыць слабыя месцы ў аргументацыйнай базе «пацыфістаў». Напрыклад, відавочна, што нават афіцыйная заява пра магчымае прызнанне ISIS паслабіць маральны стан у лагеры праціўнікаў ісламізму, што можа мець кепскія наступствы для фронту.

Што тычыцца экспертнай супольнасці, то яна не верыць, што вынікам прызнання ісламістаў стане іх нармалізацыя і эвалюцыя ў палітыкаў, з якімі можна мець справу. Па-першае, цяжка ўявіць, як тэхнічна будзе выглядаць дэмаркацыя мяжы новай дзяржавы, ідэолагі якой ставяць глабальныя задачы. Як адрэагуе на гэта сусветная грамадскасць, Багдад і Дамаск, чым землі павінны будуць адыйсці ў склад халіфату? Спецыялісты міжнароднага права таксама не могуць зразумець, як тая ж ААН, якая мае справу з дзяржавамі-нацыямі, можа прызнаць «ісламскую нацыю»? Нарэшце, атрымаўшы больш-менш стабільную сітуацыю на знешніх межах, ісламісты могуць не супакоіцца, а сканцэнтравацца на іншых задачах — напрыклад, кінуць свае рэсурсы на стварэнне ядзернай зброі, пра якую даўно мараць.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Парад кандыдатаў апынуўся нечаканым для мясцовай палітычнай грамадскасці і журналістаў. Справа ў тым, што апроч палітыкаў прыняць удзел у кампаніі вырашылі зусім далёкія і раней не вядомыя грамадзяне краіны. Журналістам прыйшлося выдаткаваць нямала высілкаў, каб хоць што-небудзь даведацца пра ахвотнікаў паўдзельнічаць у выбарах. Праўда, эксперты лічаць такую сітуацыю заканамернай — калі вынік выбараў вядомы загадзя, то чаму б не стаць вядомым такім простым спосабам? У той жа час эксперты мяркуюць, што ўлада не падтрымае далейшую тэатральнасць выбараў і не дасць нагоды ставіцца да іх так несур'ёзна, паколькі задача афіцыйнага Мінска — правесці выбары максімальна дэмакратычна і дамагчыся прызнання іх дэмакратычнасці і сумленнасці, а таксама легітымізацыі Лукашэнкі як прэзідэнта.

**«Независимая газета» (Расія)**

Але ёсць і яшчэ адна група, якая раней не была заўважаная ў палітычных раскладах. Гэта кандыдаты, якія выступаюць з пазіцый «рускага свету». Такіх адразу два: кіраўнік «беларускага казацтва» і прадпрымальнік-арганізатар «мядовых фэстаў» — не хаваюць сваіх сімпатый да РФ. Абодва адкрыта выяўляюць незадавальненне зменамі ва ўнутранай і знешняй палітыцы Беларусі. Пры гэтым пакуль асцярожныя ў крытыцы Лукашэнкі. Такім чынам можна смела сцвярджаць, што ўпершыню за гісторыю прэзідэнцкіх выбараў Расія адкрыта можа ўмяшацца ў ход кампаніі. Ці бачыць гэта Лукашэнка? Натуральна, бачыць. Але ісці на звыклыя для яго рэзкія крокі, на жаль, не можа. І гэта сітуацыя мае некалькі чыннікаў. Неабходна нармалізацыя адносін з Захадам. А рэпрэсіі падчас электаральнай кампаніі — далёка не лепшы фон. Плюс Беларусь пакуль не можа сабе дазволіць рэзкі разрыў адносін з Расіяй.

**«Хвиля» (Україна)**

Укастрычніку гэтага года ў Беларусі пройдуць «прэзідэнцкія выбары». Пагаршэнне эканамічнай сітуацыі павінна больш за ўсё турбаваць кіраўніка гэтай краіны, які знаходзіцца пры ўладзе больш за 20 гадоў. Калі да гэтага часу на маніфестацыі пасля выбараў выходзілі галоўным чынам незадаволеныя іх вынікамі моладзь і інтэлігенцыя, то сёлета да іх могуць далучыцца збунтаваныя працоўныя цяжкай прамысловасці.

**«Rzeczpospolita» (Польшча)**

Зразумела, што ў Беларусі падзенне коштаў на нафту і дэвальвацыя расійскага рубля выклікалі істотныя страты. Экспартныя прыбыткі зменшыліся на 25–30%, але пры гэтым існуе дастатковы рэсурс трываласці. І ў гэтым плане беларуская дзяржава цалкам захоўваецца ў тым сацыяльным выглядзе, у якім яна існавала дагэтуль. Развагі пра непазбежнасць пратэстаў хутчэй пацвярджаюць тэзу пра тое, што Захад спрабуе дэстабілізаваць сітуацыю. Да таго ж рэсурсы для дэстабілізацыі невялікай краіны запатрабуюцца адносна невялікія, а любыя пратэстныя выступы ў Беларусі тут жа абнуляць усе памылкі Захаду ва Украіне.

**«Правда.ру» (Расія)**

Для захавання ўлады аднаго чалавека, беларускія «ідэолагі» прапануюць далей кансерваваць эканамічную мадэль мінулага, на падтрыманне якой у дзяржавы ўжо даўно няма грошай. І ашукваць людзей, абяцаючы ім тое, чаго дзяржава даць ужо не можа. Колькі яшчэ на гэтым можна працягнуць? Паглядзім. Шкада толькі страчанага часу. Чым далей беларускае кіраўніцтва будзе супраціўляцца рэальнасці, тым цяжэй будзе потым.

**«REGNUM» (Расія)**

Рэжым Лукашэнкі знаходзіцца ў неадназначных адносінах з Украінай і Расіяй. Мы сапраўды ведаем, што беларускія вайскоўцы бяруць удзел у баявых дзеяннях на ўсходзе Украіны ў якасці стажыроўкі, мы ведаем, што яны адпрацоўваюць сумесныя планы з расіянамі на выпадак поўнамаштабнага канфлікту, у тым ліку наступ на тэрыторыю Украіны. Гэта значыць, з ваеннага пункта гледжання ў Беларусі ідуць ваенныя падрыхтоўкі, накіраваныя супраць Украіны.

**«Обозреватель» (Україна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Бегемот стаў сімвалам Тбілісі

Буйная паводка ў грузінскай сталіцы, ахвярамі якой сталі жыхары заапарку, мела незвычайныя наступствы. Грузін уразіў лёс бегемота па мянушцы Беглар. Жывёліна збегла з вальеру і блукала па сталічных вуліцах, пакуль за ім ганяліся спецыяльныя структуры. Спачатку бегемота хацелі ўсыпіць, але паколькі той быў неагрэсіўны, вырашылі вярнуць у заапарк. У выніку вялізарны натоўп радасных гараджан суправадзіў жывёліну ў вальер. Аднак гэта быў толькі пачатак яго славы. Гісторыя беднага бегемота настолькі ўразіла людзей, што за кароткі тэрмін для Беглара яны сабралі каля 6 тысяч еўра. У дадатак бегемот сёння стаў своеасаблівым сімвалам сталіцы. Грамадзяне нават выказалі ідэю аб стварэнні помніка гіпапатаму. Яе падхапілі многія прадстаўнікі сферы мастацтва. Сярод іх і грузін Ніка Абазадзэ, які пражывае ў ЗША. Ён ужо стварыў невялікую мадэль помніка бегемоту, які выяўлены ў плаўках. Гарадскія ўлады пакуль не адрэагавалі на прапанову, хаця Абазадзэ абяцае адмовіцца ад ганарару, калі ў сталіцы з'явіцца гэты помнік.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Партыя Меркель дапамагала Сталіну

Як вядома, не так даўно нямецкая ўрадавая партыя «Хрысціянска-дэмакратычны саюз» (CDU) адзначыла 75-ю гадавіну з дня заснавання. Пакуль на захадзе краіны ўздымалі тосты, на ўсходзе думалі, як выходзіць з пікантнай сітуацыі. Справа ў тым, што CDU была заснавана, калі фармальнага падзелу Германіі на ФРГ і ГДР не было. Пасля падзелу Германіі структуры CDU на ўсходзе захаваліся, аднак былі ўпісаныя ў лакальную палітычную сістэму. CDU была так званай «блокавай партыяй» — марыянетачнай структурай, якая дапамагала камуністам рабіць ілюзію дэмакратыі. Больш за тое, хрысціянскія дэмакраты на ўсходзе былі нашпігаваныя агентурай спецслужбаў, паколькі вельмі часта незадаволеныя рэжымам грамадзяне ГДР прыходзілі ў квазіапазіцыйныя партыі. Парадаксальна, што пасля падзення берлінскай сцяны CDU ў экс-ГДР ніхто не пераследаваў, а сама партыя спакойна інтэгравалася ў заходненямецкую матрыцу CDU. Сёння з-за юбілею роля кансерватараў у станаўленні і нармалізацыі таталітарызму ў ГДР нечакана стала відавочнай. Каб неяк захаваць твар, лідар кансерватараў Цюрынгіі прапанаваў стварыць незалежную камісію, якая вывучыць месца і ролю партыі ў камуністычнай сістэме.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Тыгры выйшлі на палітычную сцэну

Расійская партыя «Родина», якая называе сябе «спецназам Пуціна», абвясціла пра стварэнне на базе моладзевай секцыі руху «ТИГР», што расшыфроўваецца як «Традиции, империя, государство, родина». У прынцыпе, гэта чарговая антымайданаўская патрыятычная структура, з той, аднак, розніцай, што «ТИГР» плануе працаваць з фанацкай тусоўкай, дзе шмат прыхільнікаў экстрэмісцкіх дактрын, і ў тым ліку аматараў майданаў. Аднак, магчыма, з'яўленне «тыграў» не звязана з пагрозай Майдану. Справа ў тым, што, паводле вынікаў апошніх сацыялагічных даследаванняў, «Родина» па папулярнасці падабралася да чацвёркі цяперашніх думскіх партый — адзінаросаў, камуністаў, ліберал-дэмакратаў і эсэраў. Стварэнне «тыграў» — гэта закамуфляваная прапанова Крамлю, які баіцца Майдану, наладзіць супрацоўніцтва. Акрамя таго, не выключана, што новая структура павінна дадаць партыі «Родина» сур'ёзнасці. Ходзяць чуткі, што віцэ-прэм'ер Дзмітрый Рагозін, які быў заснавальнікам партыі,плануе ўзначаліць яе выбарчы спіс на думскіх выбарах 2016 года.

**Паводле расійскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Створаны турэцкі выбарчы ліст

На выбарах у венскі гарсавет, якія прызначаныя на 11 кастрычніка, будзе ўпершыню прадстаўлены выбарчы спіс, складзены выключна з аўстрыйскіх грамадзян турэцкага паходжання. Гэта першая спроба турэцкай камуны абараняць свае інтарэсы наўпрост, а не праз удзел у розных аўстрыйскіх парструктурах. Ініцыятыва турак раз'юшыла правыя партыі Аўстрыі, якія называюць учынак туркаў «актам знявагі на адрас аўстрыйскай гасціннасці». На іх думку, турэцкі спіс — «пятая калона» Анкары, якая яго тайна фінансуе. Выказваецца думка, што ў выпадку ўдзелу туркаў у выбарах, іншыя меншасці, якія жывуць у Вене, таксама зоймуцца партыйным будаўніцтвам. Аўстрыйскія левыя ў сваю чаргу перакідаюць усю адказнасць на правых, чыя ксенафобская агрэсіўная прапаганда, маўляў, правакуе нацменаў на фармаванне сваіх праектаў. У гэтым выпадку туркаў перапужаў рост рэйтынгу правай папулісцкай «Партыі свабоды», якая можа атрымаць 11 кастрычніка рэкордныя 32 працэнты. Мясцовыя сатырыкі тым часам заклікалі туркаў аўстрыйскага паходжання ў адказ на турэцкі спіс у Вене таксама ўдзельнічаць у турэцкім выбарчым працэсе.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Грэкі Карыбскага мора

*Алег НОВІКАЎ*




**Пакуль уся ўвага была прыцягнута да пытання знешняга доўгу Грэцыі, на другім канцы планеты пра банкруцтва абвясціў урад Пуэрта-Рыка.**

Самае незвычайнае ў сітуацыі з пуэрта-рыканскім дэфолтам — тое, што Пуэрта-Рыка — фактычна частка ЗША, а дакладней, юрыдычна гэта гучыць як «асацыяваная з ЗША тэрыторыя». Сувязь з ЗША заключаецца ў наяўнасці агульнага грамадзянства, супольнай абароны і валюты. Іншымі словамі, за фінансавую стабільнасць адказвае Вашынгтон, а ўзровень жыцця ў краіне, па логіцы, павінен быць не горшым, чым у Злучаных Штатах.

У дадатак тое, што Канстытуцыя ЗША мае тут абмежаваны характар, часам выглядае пазітывам. Так, тубыльцы не плацяць падаткі ў федэральны бюджэт, затое маюць гарантаваныя сацыяльныя стандарты амаль як у Штатах. Гадавы прыбытак на чалавека складае на востраве каля 16 тысяч долараў ЗША. Памер дапамогі па беспрацоўю тут даходзіць да 700 долараў, хаця плацяць не часта рознымі талонамі на ежу і адзенне. Праўда, на агульнаамерыканскім фоне ўзровень жыцця ў Пуэрта-Рыка застаецца вельмі нізкім. Інакш бы кожны год адсюль не эміграваў у ЗША адзін працэнт насельніцтва.

Незвычайная правая катавасія ў адносінах ЗША і вострава на Карыбах — следства пакету законаў, якія былі распрацаваныя пасля захопу вострава амерыканцамі ў выніку амерыкана-іспанскай вайны 1898 года. Сярод тых законаў быў блок, прысвечаны эканамічнай кампетэнцыі мясцовага аўтаномнага ўраду. Напрыклад, закон надаваў права Пуэрта-Рыка друкаваць свае крэдытныя аблігацыі, або боны. Прыкладна з пачатку 1970-х гадоў друк такіх бонаў (іх існуе тры катэгорыі) стаў асноўным прыёмам, каб падтрымліваць бюджэтны баланс вострава. Тым больш астраўныя боны разыходзіліся добра, паколькі былі вызваленыя ад федэральных падаткаў, што выклікала да іх вялікі інтарэс інвестараў.

Нягледзячы на дыстанцыю ад тэрыторыі ЗША, востраў не змог застацца ўбаку ад фінансавага крызісу 2008–2009 года, што прымусіла пуэрта-рыканскія ўлады розных узроўняў актыўна размяшчаць свае боны на крэдытных рынках. Тым больш, што мясцовую эканоміку ліхаманіла і раней. У 2006-м нават часова звольнілі ўсіх чыноўнікаў, а Мінадукацыі ўвогуле вырашылі ліквідаваць.

Цяжка сказаць, калі эксперты пачалі падазраваць, што ў Пуэрта-Рыка маюцца праблемы з ліквіднасцю, аднак у лютым мінулага года большасць крэдытных агенцтваў ЗША, дзе знаходзяцца галоўныя ўладальнікі пуэрта-рыканскіх каштоўных папераў, рэзка панізілі інвестыцыйныя індэксы для Пуэрта-Рыка. А на пачатку ліпеня гэтага года губернатар Пуэрта-Рыка афіцыйна прызнаў, што чарговую выплату працэнтаў па крэдытах востраў дакладна не аплаціць.

> **40**
> **працэнтаў насельніцтва Пуэрта-Рыка не маюць працы і жывуць за рысай беднасці**

Цяпер на востраве і ў Вашынгтоне ўсе носяцца з юрыдычным казусам, які таксама з'яўляецца наступствам малазразумелага прававога стану вострава ў амерыканскай юрыдычнай сістэме. Амерыканскія законы не прадугледжваюць прымяненне да Пуэрта-Рыка працэдуры банкруцтва для рэструктурызацыі запазычанасці, якую маюць іншыя суб'екты краіны. Пакуль не зразумела, калі папраўка будзе прынятая, хаця яе актыўна лабіруюць не проста палітыкі, аднак фаварыты прэзідэнцкай кампаніі 2016-га Хілары Клінтан ад дэмакратаў і Джэб Буш ад рэспубліканцаў.

Між тым, усе пагаджаюцца, што нават увядзенне працэдуры банкруцтва не зможа зняць праблему хуткага росту сацыяльнай напружанасці на Пуэрта-Рыка. Тут і так 40 працэнтаў насельніцтва не маюць працы і жывуць за рысай беднасці, а праграма санацыі эканомікі, па словах аўдытараў, павінна ўключаць такія непапулярныя змены, як рэформа працоўнага заканадаўства, рост падаткаў і скарачэнне пенсій. Прычым рабіць гэта ўсё прапануюць тэрмінова.

Відавочна, радыкальныя рэформы выклікаюць палітызацыю насельніцтва і актуалізацыю статусу вострава. Шмат хто звязвае цяперашні дэфолт з тым, што Пуэрта-Рыка не цалкам інтэграваная ў амерыканскую сістэму, іншыя лічаць, што краіна, наадварот, занадта інтэграваная. Першая фракцыя ўжо патрабуе плебісцыт аб канчатковым уключэнні Пуэрта-Рыка ў склад ЗША на правах штату. Па іх словах, адсутнасць у Кангрэсе дэпутатаў ад вострава не дазваляе лабіраваць салідныя федэральныя праграмы падтрымкі. Нагадаем, што ў свой час прэзідэнт Кенэдзі паабяцаў жыхарам вострава права стаць грамадзянамі ЗША, калі яны так вырашаць.

Прыхільнікі ж незалежнасці бачаць крыніцу ўсіх цяперашніх праблем у адсутнасці самастойнасць. Пуэрта-Рыка як фармальная частка ЗША эканамічна абмежаваная ў кантактах з іншымі краінамі. Напрыклад, яна падпадае пад закон, які забараняе замежным караблям перавозіць грузы паміж партамі ЗША. З-за таго ж закону замежныя караблі з грузам не могуць заходзіць у мясцовыя порты, а імпарт з вострава дазваляецца рабіць выключна амерыканскім кампаніям, што вельмі дорага для мясцовых бізнесменаў. Дарэчы, нягледзячы на просьбу жыхароў вострава перагледзець той закон, Кангрэс некалькі разоў заварочваў іх просьбы. Нарэшце, амерыканскія кампаніі, якія, як правіла, працуюць на востраве, могуць вывозіць адсюль заробленыя грошы без падаткаў у мясцовы бюджэт.

Згадваюць незалежнікі і псіхалагічны фактар. Палітыкі на Пуэрта-Рыка, маўляў маюць комплекс перад суседзямі па Карыбскім моры, у якіх ёсць увесь набор прыкмет суверэнных нацый, у тым ліку свае грашовыя сістэмы. Забарона на друк сваіх грошай, быццам, выклікае ва ўлады Пуэрта-Рыка некантраляваную манію друкаваць аблігацыі, якія часткова кампенсуюць траўму.

Час пакажа, у якім накірунку — незалежніцкім або праамерыканскім — будзе развівацца грамадска-палітычная думка на Пуэрта-Рыка. Хаця, магчыма, цэнтр знойдзе варыянт вырашыць праблему Карыбскай Грэцыі. Прынамсі, еўрапейцы лічаць пуэрта-рыканскі дэфолт дробяззю на фоне грэчаскай эпапеі.



# Ад тытана і стратэга да жывога сонца

Алег НОВІКАЎ

**У рамках Дня сталіцы Казахстан адсвяткаваў 75-ю гадавіну дня нараджэння прэзідэнта Нурсултана Назарбаева, якое вылілася ў каскад самых неверагодных праяў падхалімажу. Прапануем іх невялічкі хіт-парад.**

10-е месца можна смела аддаць акіму (губернатару) Усходне-Казахстанскай вобласці Даніялу Ахметаву, які падкрэсліў Назарбаеўскі талент горадабудаўніка. Віншуючы жыхароў рэгіёну з Днём сталіцы, Ахметаў заявіў: «Астана — увасабленне ў рэальнасць смелых намераў лідара нацыі Нурсултана Абішавіча Назарбаева. Дзякуючы яго намаганням сталіца нашай дзяржавы стала адным з самых прыгожых гарадоў свету, у якім пераплятаюцца гісторыя і культура Казахстана з сучаснымі тэхналогіямі».

Сярод губернатараў Казахстана Ахметава пераплюнуў толькі акім Кустанайскай вобласці Нуралы Садукасаў, які займае 9-е месца. У сваім віншаванні Садукасаў назваў Астану прадуктам Назарбаева, кропкай планетарнага маштабу. «Наш Елбасы (каз.: «лідар нацыі» — афіцыйны тытул Назараева) стварыў еўразійскі феномен. У абліччы Астаны гарманічна пераплятаюцца архітэктура і культуры Усходу і Захаду, сталіца стала актыўнай дыялогавай пляцоўкай у сусветным маштабе, збліжаючы паміж сабой краіны і канфесіі», — мяркуе Садукасаў.

На 8-м месцы сакратар Саюза журналістаў Расіі Юрый Батурын, які на юбілей ганараваў Елбасы вышэйшай узнагародай Саюза журналістаў Расіі — знакам «За заслугі». Узнагарода дзіўная, асабліва з улікам таго, што на журналісцкай ніве Абішавіч праславіўся як вораг СМІ (дастаткова ўзгадаць забарону ў Казахстане шматлікіх інфармацыйных сайтаў). Тым не менш, на думку Батурына, юбіляр варты ўзнагароды, паколькі яму характэрна «адкрытасць да новых ведаў».

7-е месца па праву акупаваў старшыня сената Казахстана Касым-Жомарт Такаеў. У артыкуле «Тытан», апублікаваным у газеце «Казахстанская праўда», старшыня сената называе прэзідэнта Казахстана неардынарнай асобай, сапраўдным лідарам, які валодае дарам стратэга. Такаеў піша: «Такі дар стратэга, які быў пасланы Усявышнім, даецца далёка не кожнаму палітыку і кіраўніку дзяржавы. Наш прэзідэнт з'яўляецца рэдкім выключэннем у сучасным свеце, дзе, на жаль, востра адчуваецца дэфіцыт лідараў, якія валодаюць сапраўды стратэгічным мысленнем».

А хто на 6-м месцы? Гэта расійскі журналіст Леанід Млечын, які ў сваім нарысе «Рэфарматар» прааналізаваў асноўныя вехі станаўлення Нурсултана Назарбаева як палітыка ды нечакана задаўся пытаннем: што б усё ж такі адбылося, калі б Гарбачоў у тыя вырашальныя гады перабудовы прызначыў Назарбаева віцэ-прэзідэнтам СССР або кіраўніком саюзнага ўрада? «Ці не быў гэта шанец захаваць вялікую і адзіную краіну?» — разважае аўтар «Рэфарматара».

5-е месца трэба аддаць паэту Руслану Бахцігарэеву за верш «Дзякуй прэзідэнту», які, па яго словах, з'яўляецца своеасаблівым падарункам да дня нараджэння Нурсултана Назарбаева. Паэт-аматар спадзяецца, што гэтыя радкі пакладуць на музыку, а хто-небудзь з казахстанскіх спевакоў выканае гэты твор. Вось фрагмент верша, які выразна перадае сэнс твору:

*«Спасибо президенту,*
*За жизнь благую эту.*
*Квартира, машина,*
*Не жизнь, а малина».*

На 4-ю пазіцыю цягне тырада журналіста Кірыла Прывалава, які пабачыў у Елбасы рысы шматлікіх вялікіх людзей мінулага: «Назарбаеў — фігура выдатная. Гэта апошні з гігантаў эпохі, якая зараз сыходзіць. Былі дэ Голь, Атацюрк, Дэн Сяапін, Лі Куан Ю, Чэрчыль, Рузвельт. Іх можна любіць ці не любіць, але гэта былі «монстры», гіганцкія людзі. Назарбаеў — апошні з гігантаў сусветнай палітыкі, гэта трэба прызнаваць».

Трэцяе месца ў спаборніцтве за тытул лепшага падхаліма належыць паэту і пісьменніку Алжасу Сулейменаву, які адгукнуўся на юбілей Нурсултана Назарбаева артыкулам пад назвай «Залатое сячэнне». Пісьменнік лічыць, што рост казахскага насельніцтва ў краіне — заслуга прэзідэнта. Сулейменаў піша: «У выніку пісьменнай інтэрнацыянальнай палітыкі нам удалося дасягнуць таго, што матэматыкі называюць залатым сячэннем. <…> І ў лічбах гэта зусім не 50 на 50, а нечаканае для многіх 62 на 38! <…> Нядаўна я прачытаў у газеце, што казахскае насельніцтва ў нашай рэспубліцы дасягнула 62%! <…> Залатое сячэнне, да якога мы наблізіліся за 25 гадоў развіцця, — гэта галоўнае, чаго мы дасягнулі шмат у чым дзякуючы палітычнаму мастацтву высокай пробы ў дзейнасці вялікага палітыка Нурсултана Назарбаева».

2-е месца ў топе падхалімажу трэба аддаць экс-дэпутату казахскага парламента Уладзіміру Нехарошаву. Нехарошаў адкрыў невядомы фізічны феномен — ад Нурсултана як ад сонечнага свяціла сыходзяць прамяні, фармуючы асобы тып ззяння — т.зв. «нурззянне». «Нурсултан Абішавіч — геній ад бога і прыроды! (...) Не можа быць іншага сонца на небе. Яго «нурззянне» хай і далей асвятляе нашу краіну! І сёння не можа быць іншага прэзідэнта, акрамя Назарбаева. На гэтым настойвае і гэтага патрабуе народ Казахстана!» — лічыць Нехарошаў.

І, нарэшце, першае месца. Яно, як і трэба было чакаць, дасталася самому юбіляру, які лічыць, што фактычна безальтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары ўвесну гэтага года, на якіх Назарбаеў атрымаў 90 працэнтаў, дапамаглі казахам стаць сапраўднай нацыяй. «Аднадушнасць на выбарах апошніх, — за што я вельмі ўдзячны нашаму народу, калі ніхто не адзначыў ніякіх парушэнняў, уключаючы Злучаныя Штаты Амерыкі, калі, напэўна, упершыню людзі стаялі ў чарзе... На гэтых выбарах я адчуў, што ў нас утварылася нацыя», — сказаў у дзень нараджэння Елбасы — пераможца нашага хіт-параду.

Заканчваючы хіт-парад, варта адзначыць, што падчас юбілею ніводнае афіцыйнае СМІ не ўзгадала артыкул казахстанскай Канстытуцыі, дзе гаворыцца, што адна і тая ж асоба не можа быць абрана прэзідэнтам больш за два разы запар. Нурсултан Назарбаеў займае пасаду прэзідэнта Казахстана з 1990 года.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ганна Гранкевіч-Вальц



Мэр Варшавы, сябра «Грамадзянскай платформы», трапіла пад агонь крытыкаў з правых партый і СМІ за тое, што 22 ліпеня адзначыла незвычайную дату. Менавіта ў гэты дзень 60 год таму ў цэнтры польскай сталіцы пачалося будаўніцтва вядомага, напэўна, усім палякам Палацу культуры і навукі. Афіцыйна яго будаўніцтва было падарункам ад савецкага народа, аднак у польскай прававай міфалогіі папулярная тэма, што за кошт будынка (дарэчы, гэта самы вялікі будынак у Польшчы) Сталін хацеў таксама сімвалічна падкрэсліць залежны ад Масквы статус Варшавы: Палац культуры і навукі нагадвае славутыя сталінскія высоткі ў Маскве. Сябры «Грамадзянскай платформы», абараняючы сваю пазіцыю, звяртаюць увагу на месца будынка ў гісторыі польскай культуры. Тут адбываліся самыя значныя культурныя падзеі 1960–1980-х гадоў. Напрыклад, канцэрты гуртоў «ABBA» і «Rolings Stones». Палац узгадваецца ў шматлікіх літаратурных творах. Нарэшце, з 2007 года ён фігуруе ў спісе культурных помнікаў. Варта адзначыць, што праз сто дзён у Польшчы адбудуцца выбары, па выніках якіх польскія правыя хутчэй за ўсё сфармуюць урад. Няма сумневаў, што існаванне Палацу культуры і навукі зноў будзе пастаўлена пад пытанне, як гэта было ў 1990-я гады на хвалі дэкамунізацыі.

### Дональд Трамп



Амерыканскі мільярдэр, які вырашыў падацца ў кандыдаты ў прэзідэнты ад Партыі рэспубліканцаў, нечакана для ўсіх стаў фаварытам партыйных праймерыз. Па стану на 22 ліпеня за Трампа гатовыя прагаласаваць 24 працэнты рэспубліканцаў. Асноўны супернік — Скот Валкер (Scott Walker) — папулярны толькі сярод 12 працэнтаў аднапартыйцаў. Трамп абавязаны сваім поспехам шэрагу эксцэнтрычных сентэнцый. Так, эмігрантаў з Мексікі ён лічыць «гвалтаўнікамі, дылерам і злачынцам». Дасталася ад яго і сенатару Джону МакКейну, якога Трамп не лічыць героем в'етнамскай вайны, бо героі не трапляюць у палон. Паколькі МакКейн лічыцца амаль эталонам сапраўднага рэспубліканца, Трампа асудзіў партыйны істэблішмент. Нарэшце, Трамп зноў вярнуўся да тэмы, што Барак Абама не нарадзіўся на тэрыторыі ЗША і не мае права на грамадзянства Злучаных Штатаў. Мала хто верыць у здольнасць Трампа сапраўды стаць кандыдатам ад рэспубліканцаў, аднак стварыць партыі адмоўны імідж сярод тых жа выбаршчыкаў — выхадцаў з Лацінскай Амерыкі, ён здольны. На думку палітолагаў, Дональд у выпадку працягу кампаніі экстэрнам забяспечыць Хілары Клінтан — найбольш верагоднаму кандыдату дэмакратаў — прапіску ў Белым Доме.



### Дзмітрый Яраш

Лідар украінскай палітычна-вайсковай структуры «Правы сектар» загнаў украінскую палітыку ў стан цугцвангу пасля партыйных збораў 21 ліпеня. Зборам папярэднічаў ледзь не адкрыты канфлікт з уладай, выкліканы інцыдэнтам у Мукачава. З'езд радыкалаў нечакана закончыўся дастаткова рэфармісцкай рэзалюцыяй — правесці рэферэндум аб недаверы да ўраду, прэзідэнту і мінскім дамовам. Магчыма, гэта звязана з тым, што відавочнай падтрымкі ПС у грамадстве няма, маніфестацыі групоўкі не вельмі шматлікія, мясцовыя секцыі часта працуюць на алігархаў, а ЗША яўна сталі на бок Парашэнкі ў канфлікце з ПС. З іншага боку, відавочна, што адпаведных людскіх рэсурсаў і дастатковага маральнага алібі (раней ПС падавалі як герояў Майдану) для зачысткі «Правага сектару» ў дзяржавы няма. Акрамя таго, ПС мае ў народзе імідж галоўнай антыалігархічнай сілы. У выніку назіраецца халоднае супрацьстаянне, якое вельмі небяспечнае ў кантэксце набліжаючыхся мясцовых выбараў, калі шмат хто з палітыкаў будзе рабіць стаўку на крытыку ўлады.

# «Наша справа»: Крывавая расправа ў Бельскім павеце



Сяргей ЧЫГРЫН

**Была ў Заходняй Беларусі такая газета — «Наша справа». У 1926–1927 гадах яна была апошнім афіцыйным перыядычным выданнем Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ). Грамадска-палітычны дзеяч Пятро Мятла выдаваў яе два разы на тыдзень на беларускай мове**

«Наша справа» публікавала розныя звароты, заклікі, пісала пра дзейнасць Грамады ў Заходняй Беларусі, пра розныя напады і арышты сяброў Грамады. Газета на сваіх старонках давала слова ўсім беларусам, якія шчыра распавядалі пра тое, што адбываецца ў іх вёсцы, мястэчку ці горадзе. Вяскоўцы і гараджане маглі выказаць свае аб'ектыўныя і суб'ектыўныя думкі наконт тагачаснай палітыкі Польшчы, адносінаў улады да беларусаў, да сяброў Грамады. Асабліва шмат яна пісала пра тое, як на Беласточчыне білі і разганялі сяброў Грамады, паслоў Паўла Валошына і Пятра Мятлу.

У 1926 годзе «Наша справа» (№2) надрукавала аб'яву, што ў нядзелю, 5 снежня, у 10 гадзін раніцы ў вёсцы Беразова Арлянскай гміны ў доме Тодара Трэшчынкі адбудзецца Павятовы з'езд сяброў Грамады Бельскага павета.

Прайшло некалькі дзён, і ў сераду, 8 снежня 1926 года, газета надрукавала артыкул «Бандыцкі напад на павятовы з'езд Беларускай сялянска-работніцкай Грамады». Аказалася, што 5 снежня ў вёсцы Старое Беразова планаваўся з'езд Грамады Бельскага павета. Але перад пачаткам з'езду пад'ехаў кардон паліцыі на аўтамабілях. А «цывільныя» асобы затрымлівалі людзей, якія ішлі на з'езд, і пыталі ў іх пашпарты. А ў каго іх не было, затрымлівалі і адбіралі партыйныя білеты, якія адразу перадавалі «мундуровай паліцыі». Але 120 грамадоўцаў прыйшлі ў памяшканне. Сюды з'явіліся і намеснік старасты з камендантам паліцыі. На самым пачатку з'езда ў дзверы залы пачалі ламіцца тыя самыя людзі ў «цывільным», якія адбіралі білеты. Але ахоўнікі з'езда іх не пусцілі. Тады «цывільныя» пачалі праз вокны ўрывацца ў залу. Намеснік старасты і камендант паліцыі пакінулі залу. Калі «цывільныя» лезлі праз вокны ў залу, іх пачалі не пускаць грамадоўцы. Як пісала газета, «трашчалі вокны і сцены, ламіліся калы, дручкі і прыклады стрэльбаў. Рабілася нешта немагчымае». У гэтай мітусні прымала ўдзел і «мундуровая паліцыя», якая праз чорны ход таксама ўварвалася ў залу і пачала біць людзей, выганяць іх на вуліцу, дзе грамадоўцаў таксама білі, усюды было шмат крыві, ляжалі параненыя і непрытомныя вяскоўцы.

Людзей выгналі з залы, дзе засталіся толькі паслы. Аднак праз некалькі хвілін бандыты вярнуліся і напалі на паслоў. А паліцыя стаяла за вокнамі. Тады пасол Пётр Мятла дастаў рэвальвер і стрэліў у столь. Але паліцыя «звярнула ўвагу» і з крыкамі «Хто страляў?» забегла ў залу. Паслы стаялі акружаныя бандытамі. На вачах паліцыі паслоў Мятлу і Валошына моцна білі. Яны, акрываўленыя, страцілі прытомнасць.



Цана асобнага нумару 20 грошаў.

НАША СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пятыту ў 1 шпальту.

№. 1 | Вільня. Чацьвер, 30-га верасьня 1926 г. | Год I.

Дзеля тэхнічных прычынаў замест чарговага нумару „Народнае Справы" ўсім не падпішчыкам у гэтым тыдні рассылаецца № 1 „Нашае Справы".

Да асьветнае працы.

Урадавы крызіс у Польшчы.

Недаверые Сойму да мін. Суйковскага і Млодзяновскага.—Адстаўка ўраду Бартля-Пілсудскага і... паварот яго да ўлады ў старым складзе!

24 і 25 верасьня Сойм даў „гарачы бой" Ура- ... большасьць Сойму—„адступіла" ў поўным парадку

У наступным нумары «Нашай справы» з'явіўся артыкул «Пралітая кроў». Невядомы аўтар паведамляў: «Пішучы ў папярэднім нумары аб выніках змагання адміністрацыі з адзінай масавай арганізацыяй беларускіх сялян і работнікаў — Грамадой, мы сапраўды думалі, што ўсе даступныя адміністрацыйным уладам спосабы барацьбы ўжо вычарпаны. Аднак, як аказалася, мы памыліліся: гэта паказвала крывавая расправа ў Бельскім павеце... Мы не ведаем яшчэ, ці ў Бельшчыне ёсць сярод ахвяр нападу — забітыя. Але са слоў паслоў, якія былі збіты да беспрытомнасці, вынікае, што ў зале разгромленага з'езду Грамады былі цэлыя лужы крыві... І гэтая кроў пэўна не скора будзе забыта!..»



Павел Валошын



Пётр Мятла. Малюнак Анатоля Крывенкі

Далей аўтар упэўнена заяўляў і заклікаў беларусаў да згуртавання: «А мы, сяляне і работнікі, не ўпадайма на духу: не бывала таго на свеце ніколі, каб пралітая кроў не давала пладоў! Дык шчыльней гартуйма нашыя рады, ідучы наперад раз абраным шляхам, і не давайма сябе справакаваць на неабдуманыя ўчынкі. Наша сіла — у нашай арганізаванасці, і працу над нашай арганізацыяй мы мусім за ўсякую цану спакойна і абдумана давясці да канца».

Падзеі ў Беразова ўсхвалявалі ўсіх грамадоўцаў Заходняй Беларусі. Сотні лістоў у падтрымку пацярпелых у Бельскім павеце пасыпалася ў рэдакцыю «Нашай справы». Газета нават распачала рубрыку «Водгук крывавае расправы», дзе публікавала лісты-абурэнні чытачоў наконт падзеі ў Беразова. Самкоўскі гуртож з Навагрудскага павета паведамляў у тэлеграме: «Шлём гарачае прывітанне барацьбітам за вызваленне беларускага народа — паслам Валошыну і Мятле» (НС, 1926 г., № 8). «Ад імя ўсіх сяброў Мядзведзеўскага гуртка Грамады прыношу шчырае і гарачае прывітанне дарагім нашым Павадырам — паслам Мятле і Валошыну, выказваю спогад у іх крывавым змаганні за долю сялян і работнікаў. Заклікаю ўсіх сяброў Грамады ўсяго Заходняга кутка Беларусі ісці за прыкладам нашых паслоў і не баяцца смерці ні вастрогаў, вядучы цеснымі радамі барацьбу за свае правы на адкрытым легальным шляху. Сакратар гуртка С. Родзька» (НС, 1926 г., № 8).

**Сарваны павятовы з'езд Грамады быў у лістападзе 1926 года і ў Саколцы, хаця на яго правядзенне грамадоўцы мелі дазвол у клубе ўрадоўцаў. І нават заплацілі задатак**

У № 2 за 1927 год «Наша справа» апублікавала «Прывітанні ахвярам пагрому ў Бельшчыне». Гэтыя «прывітанні» ў пісьмах і тэлеграмах паступалі ў рэдакцыю з Мірскага, Плаўскага, Бережкоўскага, Метлаўскага, Галенчыцкага, Галынскага, Кардзіскага, Нававольскага, Дараглянскага, Жыгынскага, Бандарскага і Новадворскага гурткоў Грамады Заходняй Беларусі. А гурток Грамады з Пешчанікаў Гарадоцкай гміны праз газету паведаміў: «Шлем гарачы прывет нашым выбранцам, сапраўдным барацьбітам, пралiўшым кроў сваю ў змаганні за вызваленне Беларускага Народа і за лепшую долю працоўнага люду, — паслам Валошыну і Мятле. Кожная капля пралітае Вамі крыві капнула на сэрца кожнага грамадзіста, і факт на дзеле паказаў, што толькі ў моцнай арганізацыі мы зможам адбіцца ад усякіх наснікаў і здабыць сабе лепшую будучыню».

Пачуўшы пра збіццё беларускіх паслоў і сяброў Грамады, у рэдакцыю «Нашай справы» звярнуліся 18 сяброў з польскай Хрысціянскай дэмакратычнай партыі. У адкрытым пісьме яны паведамілі: «Мы, жыхары вёскі Пераходы Гарадоцкай гміны Беластоцкага павета, сябры польскай Хрысціянскай дэмакратычнай партыі, выходзім з гэтае партыі і складаем дэкларацыі для ўступлення ў сялянска-работніцкую Грамаду. Практычная палітыка Ch.-D. паказала нам, што партыяй гэтай бароняцца не сялянска-работніцкія інтарэсы, а абшарніцка-капіталістычныя, — гэтым матывуем свой выхад з Ch.-D. У Грамадзе бачым больш шчырую барацьбітку за правы сялян і работнікаў, і таму заклікаем усіх ашуканых выходзіць са здрадніцкіх партый і гуртавацца вакол Грамады» (НС, 1927 г., № 4).

У многіх грамадоўцаў паліцыянты забіралі партыйныя білеты і не вярталі. Напрыклад, газета «Наша справа» паведамляла ў 1927 годзе (№ 2), што партыйны білет № 52679 і білет № 52681 на імя Арцёма Марчука і Івана Качана з вёскі Белая Бельскага павету паліцыянты таксама забралі і не вярнулі.

Сарваны павятовы з'езд Грамады быў у лістападзе 1926 года і ў Саколцы, хаця на яго правядзенне грамадоўцы мелі дазвол у клубе ўрадоўцаў. І нават заплацілі задатак. Але ім не дазволілі. Тады было вырашана з'езд правесці ў адной з вясковых пуняў. Як пісала «Наша справа» (1926 г., № 2), калі сабралася ў пуні і каля пуні 120 чалавек, дык «фашыстоўская баёўка, зложана з польскае моладзі», пачала наступленне. «Дзеля гэтага быў выбраны момант, калі заступнік старосты з 14 паліцыянтамі ўвайшоў у памяшканне з'езду — «правяраць білеты». Тут баёўка і атакавала з'езд, выламаўшы дзверы, чаму паліцыя не перашкодзіла. Грамадская міліцыя пачала адбіваць ад напаснікаў. Дык прыгатаваны ў суседнім доме атрад паліцыі выскачыў з засады і пачаў разганяць і біць грамадоўцаў. Некаторых арыштавалі, але праз два дні ўсіх выпусцілі. У самую поўнач нейкая банда акружыла хату, дзе знаходзіўся Валошын, а два ведамыя басякі ўвайшлі ў сярэдзіну і спрабавалі выклікаць пасла на вуліцу — на нейкі «сакрэт». Пад крыжавымі пытаннямі пасла і прысутных асоб, яны прызналіся, што ім абяцалі па 150 злотых кожнаму за набіццё або забойства пасла Валошына...» — пісала «Наша справа».

Нягледзячы на ўсе пагрозы, перашкоды і катаванні, беларускія паслы Пётра Мятла і Павел Валошын працягвалі сустракацца з сябрамі Грамады. 29 лістапада 1926 года Павел Валошын правёў мітынг у мястэчку Кляшчэлі Бельскага павета. Народу тады сабралася каля 2 тысяч чалавек, каб паслухаць свайго пасла, якога шчыра віталі. Але адміністрацыя так напалохана была Валошыным, што ў Кляшчэлі хуткім цягнікам выслала на падмогу мясцовай паліцыі 15 паліцыянтаў з Бельску. Але мітынг адбыўся, ён закончыўся прыняццем шэраг рэзалюцый з патрабаваннем належных правоў для беларусаў і людскіх варункаў жыцця.

Прыгадаў я сяброў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ), і як ім забаранялі праводзіць сходы, з'езды, арыштоўвалі, білі, саджалі ў турмы, і падумаў: прайшло амаль 90 гадоў, а нічога ў Беларусі так і не змянілася.





# На «Пілсудскім» у ЗША і канвоем у Архангельск



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Прыгожым днём 1937 года ў пінскім офісе фірмы «Cosulich line» 27-гадовы Уладзімір Завацкі набыў квіток на карабель, што трымаў шлях праз акіян у ЗША. На тым караблі было шмат жыхароў Заходняй Беларусі, якія шукалі лепшай долі.**

Прадстаўніцтва фірмы «Cosulich line» знаходзілася на вуліцы Лагішынскай, 13 у Пінску. Варта сказаць, што адзначаная параходная кампанія была адной з найбольш паспяховых у міжваеннай Еўропе. Яе штаб-кватэра знаходзілася ў Трыесце, а параходы «Cosulich line» курсавалі ў Паўночную Афрыку, ЗША, Канаду, а таксама Паўднёвую Амерыку. Дарэчы, спецыяльна для працоўных мігрантаў з Другой Рэчы Паспалітай у 1930-я гады прадстаўніцтвы фірмы з'явіліся ў Аргенціне і Бразіліі. У Польшчы галоўная кантора кампаніі знаходзілася на вуліцы Свентакшыскай, 25 у Варшаве. Акрамя Пінска, у Заходняй Беларусі бюро «Cosulich line» знаходзілася ў Вільні (вул. Чыгуначная, 13).

Карабель, на які Завацкі купіў квіток, называўся «Пілсудскі», быў пабудаваны па замове польскіх улад з удзелам капітала «Cosulich line». Судна водазмяшчэннем 14 тон хадзіла па маршруце Гдыня — Нью-Ёрк — Галіфакс — Гдыня. Першы рэйс карабля адбыўся 15 верасня 1935 года.

Перад гэтым, дарэчы, Уладзімір атрымаў амерыканскую візу, прайшоў медагляд і прышчапіўся ад хвароб. Медагляд быў важным этапам падрыхтоўкі да выезду. Як адзначалася ў памятцы на «Санітарнай карце», якую ў 1930-х гадах атрымлівала кожная эмігруючая з Другой Рэчы Паспалітай асоба, «калі ў чалавека няма ніякіх хвароб, то лекар пазначае, што «спадар/спадарыня кваліфікуецца да выезду». Калі ж хваробы маюцца, то павінен быць зроблены запіс «не можа ехаць да моманту, пакуль не вылечыцца», альбо «не можа ехаць». У апошнюю катэгорыя траплялі тыя, хто хварэў на сухоты, рак, трахому, сляпыя, асобы, маючыя разумовыя засмучэнні. Цяжарным жанчынам трэба было праходзіць асобную камісію і кансультавацца са спецыялістамі Эміграцыйнага сіндыкату.

### Першыя выпрабаванні

Праз колькі часу Уладзімір Завацкі нарэшце прыехаў Нью-Ёрк, дзе справы яго пашлі добра. Праз год ён зарабіў неабходных для набыцця ўласнай зямлі грошы і вырашыў вярнуцца дадому. Што і зрабіў.

У маі 1938 года ў вёсцы Пагост-Загароцкі ён ажаніўся са Сцепанідай Пашалюк. Аднак спакойна пажыць маладым не давялося. 1 верасня 1939 года пачалася Другая Сусветная вайна. Уладзімір быў мабілізаваны ў Войска Польскае і змагаўся ў складзе 84-га пяхотнага палка пад Дзялошынам. Пазней, калі стала зразумелым, што Польшча прайграла Вераснёўскую кампанію, афіцэры дазволілі жаўнерам-беларусам вярнуцца дадому. 17 верасня 1939 года савецка-польскую мяжу перайшлі войскі Чырвонай Арміі, і хутка Заходняя Беларусь стала савецкай.

Новая ўлада стала пільна прыглядацца да тых, хто быў за мяжой. 15 кастрычніка 1940 года Уладзіміра Фёдаравіча арыштавалі супрацоўнікі НКУС. Яго абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі і 11 студзеня 1941 года, у адпаведнасці з артыкулам 58-10 часткі I УК РСФСР, прысудзілі да 5 гадоў лагераў. Завацкага накіравалі на спецпасяленне ў Архангельскую вобласць для працы на цагляным заводзе. Яго цяжарную жонку Сцепаніду таксама дэпартавалі ў Архангельск. Дачка Завацкіх Надзея нарадзілася ўжо там.

### У войску генерала Андэрса

22 чэрвеня 1941 года Трэці Рэйх напаў на Савецкі Саюз. Гэтая трагічная падзея прынясла збаўленне для соцень тысяч былых польскіх грамадзян, у тым ліку і жыхароў Заходняй Беларусі, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. 30 ліпеня 1941 года польскім прэм'ерам у выгнанні Уладзіславам Сікорскім і амбасадарам СССР у Вялікабрытаніі Іванам Майскім у прысутнасці брытанскага міністра замежных спраў Энтані Ідэна было падпісана пагадненне аб аднаўленні дыпламатычных зносін паміж Другой Рэччу Паспалітай і Савецкім Саюзам. Паводле гэтага дакумента савецкі бок пагадзіўся абвясціць амністыю для былых польскіх грамадзян, якія знаходзіліся ў ГУЛАГу, турмах і спецпасяленнях, а таксама выказаў згоду на фарміраванне польскага войска на тэрыторыі СССР.

Амаль 400 тысяч чалавек, якія да 17 верасня 1939 года былі падданымі Другой Рэчы Паспалітай, атрымалі доўгачаканую свабоду. Сярод іх была і сям'я Завацкіх. Уладзімір пакінуў жонку і дачку ў СССР, а сам трапіў у Армію генерала Андэрса і разам з ёй апынуўся на Блізкім Усходзе. У сакавіку 1943 года ён стаў жаўнерам 1-й польскай танкавай дывізіі (камандуючы — брыгадны генерал Станіслаў Мачак), якая з ліпеня 1944 года ўдзельнічала ў вызваленні Нармандыі ад нацыстаў. Польскія танкісты змагаліся ў складзе 1-й канадскай арміі і ўдзельнічалі ў наступленні па ўчастку Канны — Фалез. У немцаў там была глыбокая абарона, аднак танкам 1-й дывізіі ўдалося яе прарваць. 19–20 жніўня 1944 года нацысты контратакавалі і акружылі пазіцыі палякаў. Аднак хутка 4-я канадская танкавая дывізія дэблакавала польскіх танкістаў.

Пазней былі баі ў Бельгіі, Галандыіі і Германіі. У чэрвені 1947 года часткі дывізіі былі перакінутыя ў Вялікабрытанію, дзе адбылася дэмабілізацыя гэтай вайсковай адзінкі. Уладзімір Завацкі жыў у Лондане.



Уладзімір Завацкі ў Вялікабрытаніі, 1947 год



Уладзімір Завацкі ў ЗША, 1952 год

У гэты час у распараджэнні Упраўлення ўпаўнаважанага Савета Міністраў СССР па справах рэпатрыяцыі былі падрабязныя спісы польскіх жаўнераў беларускага і ўкраінскага паходжання, якія пасля вайны знаходзіліся на тэрыторыі Вялікабрытаніі. Савецкія чыноўнікі і дыпламаты апрацоўвалі гэтых людзей і ціснулі на тое, што ў СССР у іх засталіся сем'і і блізкія. Ва Уладзіміра Завацкага ў савецкай Беларусі засталася жонка і дачка, аднак ён добра памятаў арышт і дэпартацыю ў Архангельскі край. Перад польскім жаўнерам стаяў выбар: альбо вярнуцца да родных і рызыкаваць быць зноў арыштаваным, альбо застацца. Ён застаўся.

### Падзеленая сям'я

У 1951 годзе Завацкі прайшоў медкамісію ў Польскім медычным дыспансеры і пасля атрымання неабходных прышчэпак зноў выехаў у Злучаныя Штаты. Дарэчы, у гэты ж самы час у БССР сталінскія спецорганы правялі арышты і высылку з тэрыторыі Беларусі былых жаўнераў генерала Андэрса. За акіянам Уладзімір Завацкі пасяліўся ў Нью-Джэрсі, атрымаў амерыканскае грамадзянства (у новым пашпарце было пазначана: Завацкі Вальтар Тэадоравіч) і ўжо ў жніўні 1951 года стаў працоўным буйной фірмы «Johns Mansville», якая займалася вырабам прамысловай ізаляцыі і дахаў.

Знаходжанне ў савецкай турме і на спецпасяленні, а таксама вайсковыя выпрабаванні кепска адбіліся на здароўі палешука. 19 жніўня 1969 года 59-гадовы эмігрант з Заходняй Беларусі раптоўна памёр.

Увесь час пасля вайны Сцепаніда Завацкая шукала свайго мужа. Пасля смерці Сталіна стаў магчымым асцярожны пошук сваякоў за мяжой. Сцепаніда звярталася ў Чырвоны крыж, амбасаду ЗША і нарэшце знайшла мужа.

Аднак, на жаль, ужо пасля яго смерці. У верасні-кастрычніку 1969 года Сцепаніда Фамінічна наведала ЗША і пазнаёмілася з сябрамі мужа. Уладзімір Фёдаравіч быццам бы ведаў, што яго жонка прыедзе за акіян. Перад смерцю ён адклаў грошы для сваіх блізкіх у Беларусі. У 1969 годзе Сцепаніда Завацкая выслала самой сабе ў Пінск 5 тысяч долараў ЗША. Яшчэ 2,5 тысячы яна даслала сястры памерлага мужа. Гэта былі вялікія грошы. У той час валюта залічалася на рахунак у Банк для знешняга гандлю СССР. Пазней грошы перанакіроўваліся ў «Знешпасылторг», і савецкі грамадзянін атрымліваў чэкі, на якія мог атаварвацца ў крамах тыпу «Бярозка». Дзякуючы паступленням з-за акіяну блізкія Уладзіміра Завацкага змаглі набыць кааператыўную кватэру і аўтамабіль «Жыгулі-ВАЗ-2103».

Рашэнне аб рэабілітацыі ўдзельніка Другой сусветнай вайны, жаўнера Войска Польскага Уладзіміра Фёдаравіча Завацкага было прынята савецкай пракуратурай толькі ў жніўні 1989 года. У 1993 годзе была рэабілітавана і яго дачка Надзея, якая з моманту нараджэння ў 1940 годзе лічылася дзіцём «ворага народа».



# «GreenPills» і «Крама» на «Заспявай 2.0»

Павел АКСІНОВІЧ

**На тэрасе кафэ «Chill Out» працягваецца праект «Заспявай 2.0», і настала чарга рокераў «GreenPills», і ветэранаў айчыннай рок-н-рол сцэны гурта «Крама».**

Зноў жа даволі супрацьлеглыя калектывы. «Green Pills» прэтэндуе на перамогу ў намінацыі «Кавер». Хлопцы граюць разам ужо пяць год. У сённяшні склад гурта ўваходзяць Ян Верабей, Зміцер Аніськоў, Уладзь Машкоў ды Сяргей Пракапенка. Усім музыкам не больш за 27 гадоў. Па стылю яны больш схіляюцца да цяжкой альтэрнатывы, што не перашкодзіла ім выдаць акустычныя версіі. Цяпер гурт працуе над новай праграмай, якая ўключае ў сябе мікс цяжкой музыкі і электроннага гучання. Задумаў у іх багата — ад намераў запісаць альбом і зняць кліп да арганізацыі трыб'юту на гурт «Мроя». Журы «Заспявай 2.0» вылучыла іх за песню «Белакрылы анёл» гурта «Zet». Акустычная версія прагучала падчас іх выступу.

«Крама» выступіла дуэтам (Ігар Варашкевіч і Сяргей Труханові). Музыкі прадставілі акустычны канцэрт са сваіх найлепшых песень. За сваё існаванне гурт выпусціў 8 паўнавартасных кружэлак. На канцэрце знайшлося месца як даўнім хітам, так і песням з новага альбому гурта «Белая вада».

Канцэрты ў межах праекту «Заспявай 2.0» праходзяць штопятніцу ўсё лета. Наступнымі ўдзельнікамі будуць музыка Пятро Клюеў і фолк-гурт «Vuraj».

# Маладзёжны тэатр закрыў сезон прэм'ерай

Святлана ЦІТОВА

**Пастаноўкай паводле камедыі Уільяма Шэкспіра «Сон у летнюю ноч» Маладзёжны тэатр завяршыў сезон. Спектакль паставіў рускі рэжысёр Іскандэр Сакаеў.**



«Небяспечная п'еса» — так вызначаны жанр новай пастаноўкі Шэкспіра. Іскандэр Сакаеў увасабляе на сцэне Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатру ўжо трэцюю п'есу. У мінулым годзе пабачылі свет прыпавесць «Казіны востраў» паводле Уга Бэці і эксперыментальная пастаноўка «Чэхаў. Камедыя. Чайка» паводле знакамітай п'есы А.П. Чэхава.

Спецыфічны стан сну быў самой прыродай дадзены чалавеку ў якасці прыкладу свету, арганізаванага па іншых законах, чым свет рэчаісны, і ва ўсе часы быў той сферай, да якой творцы звярталіся ў пошуках новых выяўленчых сродкаў, новай мовы мастацтва. У пераўвасобленым «Сне ў летнюю ноч» на сцэне Маладзёжнага тэатра, як пазначана ў афішы, «акторы гуляюць не п'есу, а ў п'есу».

У спектаклі заняты 21 акцёр — напэўна, гэта адна з самых маштабных пастановак тэатра. Афармленне сцэны мінімалістычнае, і адсутнасць на ёй бутафорскага ўбранства быццам падкрэслівае хісткасць мяжы паміж гледачамі і сцэнай, сном і рэальнасцю. Гэта адчуванне яшчэ больш акцэнтуе цікавая дэталь — тэатральная заслона была яшчэ да пачатку спектаклю паднятая і такі не апусцілася ў фінале. «Жыццё ёсць сон», як давеў іспанскі сучаснік Шэкспіра Кальдэрон дэ ла Барка.

І хоць «Сон у летнюю ноч» на сцэне Маладзёжнага адбываецца амаль без дэкарацый, аднак мінімалізм убранства засяроджвае ўвагу на тэатральнай дзеі і падкрэслівае ўдалую гульню актораў. А чорная сцэна служыць фонам для разнастайных светлавых эфектаў.

Спектакль атрымаўся цікавы, наватарскі і, безумоўна, варты ўвагі гледачоў.

# Праект «Цытуй сваё!» распачынае Год беларускага мыслення

**Супольны культурны праект «Цытуй сваё!» не заканчваецца, а толькі распачынае Год беларускага мыслення. Далучайся! Наперадзе шмат цікавага!**




Праект «Цытуй сваё!» быў распачаты ў канцы траўня шэрагам інстытуцый грамадзянскай супольнасці ды адукацыйных устаноў (Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь», Лятучы ўніверсітэт, Беларускі саюз дызайнераў, грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!», Беларускі Калегіум, «Мова Нанова»). Ён заклікаў беларусаў звярнуцца да найлепшага з беларускай думкі, згадаць перліны, на якія мы не звяртаем увагі, бо яны побач, свае.

Цягам двух месяцаў кожны дзень на сайце budzma.by мы разам траплялі ў рэзананс беларускага мыслення, сустракаліся са слушнымі думкамі і прыгожымі вобразамі. Максім Багдановіч і Андрэй Волян, Валянцін Акудовіч і Леў Сапега, Вольга Гапеева і Васіль Быкаў — дзясяткі імёнаў і дзясяткі думак, якія калісьці займалі розум і сэрца нашых продкаў і сёння выклікаюць захапленне ад дакладнасці, жаданне працягнуць развагу ці паспрачацца ў нас.

Абвяшчаючы пачатак праекта, арганізатары казалі: «Мы цытуем каго заўгодна, толькі не тых, хто нарадзіўся і жыў на нашай зямлі, дыхаў тым самым паветрам, быў часцінкай нашай гісторыі, а значыць, і нас саміх. Кожная трапна і ёміста выказаная думка — наш супольны нематэрыяльны скарб, цагліна ў тым, што мы сёння называем беларускай культурай, яшчэ не да канца ўсведамляючы яе архітэктуру і вонкавыя межы».

За два месяцы мы адкрылі толькі невялікую частку гэтага скарбу. Дзякуй усім, хто далучыўся да складання анталогіі айчыннай думкі! На адрас праекта cytuj.svajo@gmail.com было даслана больш за 250 цытат. Сярод фан-клуба беларускага мыслення хацелася б асабліва аддзячыць і адзначыць некалькі чалавек, якія даслалі найбольш арыгінальныя і цікавыя падборкі цытатаў: Ірына Часнок, Антон Шустаў, Алесь Гізун, Наталля Свірыда, Яўгенія Чаплінская, Зміцер Бейнарт-Саладуха, Антон Васільеў. Дзякуй вам, сябры!

Энтузіязм фан-клуба і прыгажосць думак не дазваляе нам спыняцца! Таму праект «Цытуй сваё!» не заканчваецца, а толькі распачынае Год беларускага мыслення.

Што далей?

- Пашыраем кола фан-клуба беларускай думкі! Уступаем у суполку «Цытуй сваё!» у Facebook (https://www.facebook.com/groups/cytuj/), запрашаем сяброў, працягваем дасылаць і абмяркоўваць улюбёныя цытаты беларускіх аўтараў там. (Электронны адрас cytuj.svajo@gmail.com таксама застаецца надзейным спосабам падзяліцца перлінамі беларускага мыслення з грамадскасцю).
- Сустракаемся ў жніўні, каб звярнуцца да выбітных беларускіх дзеячаў грамадства, навукі і культуры па іх асабістыя падборкі з беларускага мыслення.
- Такім чынам, мы разам працягваем збіраць трапныя, глыбокія, нечаканыя думкі, каб выдаць іх у выглядзе кнігі зручнага кішэннага фармату. Канцэпт-макет кнігі распрацоўваецца. Хочацца, каб у выніку атрымалася зручная ў карыстанні, прывабная на выгляд і дотык, вартасная па змесце рэч. Каб і самому хацелася мець, і падарыць было не соромна!

Акрамя гэтага, цягам Года беларускага мыслення, які нестандартна пачаўся ў траўні, мы разам будзем паступова засвойваць беларускую інтэлектуальную спадчыну — у словах, вобразах і дзеяннях. Неўзабаве да асэнсавання далучацца мастакі і дызайнеры, якія ўвасобяць ідэі і персоны ў візуальныя вобразы.

Сачы за навінамі і новымі падзеямі праекта ў Facebook! Чытай! Думай! Слухай думкі папярэднікаў! Пагаджайся альбо спрачайся з імі! Цытуй сваё!

**budzma.by**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 975

Падпісана да друку 24. 07.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.